Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 31 (4677) 3 жніўня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Вечарамі, на вясковай лавачцы...



На вечаровай лавачцы ў цёткі Фэльцы зноў гудзе зацікаўленая размова, і тут часам пачуеш больш, чым вычытаеш, выгледзіш, выслухаеш у тых жа сучасных сродках інфармацыі. Мы — людзі лясныя і гаворым толькі пра лес, у які цяпер, летам, "навастрыліся" ўсе гарадскія колы. Гэта ў нас, у паэтаў, у лес заглядаюць, "як у храм". Цяпер у лес едуць, як у тую маркетовую краму. Тут даюць усё, і даюць "за бясплатна". На вечаровай лавачцы ў цёткі Фэльцы ў маіх Навіках мы бядуем пра тое, што зніклі ў нашай пушчы сарокі. Нейкі нязвыклы без гэтых лясных хітрунняў пушчанскі пейзаж. Пройдзеш увесь лес — і нідзе не ўбачыш той жа дзеразы, якая некалі так пяшчотна вілася ля ног грыбніка, абвівала ў хаце абразы і партрэты блізкіх. У лесе шмат чаго, што даўно просіцца ў Чырвоную кнігу.

Цётка Фэльця не ведае слова "прагрэс" і ўсё гэта сумна вытлумачвае людской нядбайнасцю. І правільна, як мне здаецца, вытлумачвае.

Я, вясковец, які ўвесь свой лепшы час пражыў у горадзе, пачуваюся сёння так, быццам і не выязджаў ніколі адсюль, а прасядзеў усе свае вечары на цётчынай лавачцы. З лесам я кожны дзень. І штораніцы думаю, што сёння я ў ім самы першы госць. Аднак не, хоць устаў яшчэ да цешчынага пеўня, хтосьці і мяне апярэдзіў. Хаджу штодзённа аднымі і тымі ж кругамі, па шмат разоў кручуся вакол адных і тых жа ствалоў. Гэткім жа манерам рухаюцца і мае думкі. І што ж бачу ў ім, грыбным ды ягадным, у тым самым лясным храме? Бачу ўсюды смецце, асабліва шмат яго ля дарог і найбольш каля той "галоўнай вярсты", па якой едуць з горада. Ляжыць мяшкамі, а то і ўроссып.

Не ведаю, што б я зрабіў з тым паскуднікам (а як яго інакш назавеш?), калі б напаткаў у лесе.

Некалі адзін са славутых калег усклікнуў нешта кшталту: "Калі б я не выбіўся ў паэты, я пайшоў бы ў леснікі!" Пайшоў бы і я. Ды сёння позна ўжо. Не тыя ногі для такой адказнай пасады.

Дык што ж рабіць з тымі, хто прыязджае ў пушчу са смеццем? Караць? Можа, камеры відэафіксацыі на дрэвы пачапіць? Перабіраю ўсе гэтыя "можа" і бачу, што ўсё не тое.

Пачакай, кажу я сабе, а калі капнуць глыбей? А чаго яны вязуць тое самае смецце, вунь за колькі вёрст, у мае вёсны? Ды таму, відаць, што няма яго куды дзець там, у горадзе. Не прадумана ў нас усё яшчэ з тым самым сметнікам. Вось і вясковец нясе свой хлам куды? Пад тую ж яліну.

Трэба думаць, шукаць і пачынаць, відаць жа, з таго, каб яго халера, сметніка…

Сумнаватай бывае гамонка на вечаровай лаўцы ў цёткі Фэльцы. Але вунь ідзе на ферму яе начны вартаўнік Лёнік. Здаецца, сёння і не пад чаркай. Гэты цяпер выкіне нешта вясёлае.

…А ў леснікі я ўсё-ткі пайшоў бы!..

**Казімір КАМЕЙША**

# Спыніцца і падумаць

### 4 жніўня — 95 гадоў з дня нараджэння Янкі Брыля

**Побач з іменем Янкі Брыля звыкла бачыць самыя ўзнёслыя, ухвальныя азначэнні. Яго яркі, адметны талент быў шчасліва заўважаны і ацэнены. Між тым класік нашай літаратуры не пазбегнуў ні незадаволенасці крытыкі (не заўсёды яна прыязна адгукалася на новыя творы), ні пільнага вока цэнзуры: так, згладжваўся, амаль здымаўся канфлікт у апавяданні "Адзін дзень", а аповесці пра палон "Жывое і гніль", "Сонца праз хмары" доўгі час не маглі прабіцца да чытача.**

**Алена КАРП**



*Фота Уладзіміра Крука*

Пра гэта ды пра іншыя падобныя гісторыі распавядае ў сваёй кнізе "Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці" Уладзімір Калеснік. І з яго нарыса становіцца зразумела: цэрберскія законы цэнзуры былі не адзінаю і далёка не першаю перашкодаю на шляху Брыля. Магло б і не дайсці да іх, проста таму, што магло б не быць Янкі Брыля-пісьменніка, як няма, не ўвайшло ў гісторыю імя Міхася Брыля-мастака. "…лёс добра паводзіць іх абодвух [Янку і брата Мішу] па сцежках пакут Сымона-музыкі" (У. Калеснік). І на гэтых нdroўных сцежках, якія зусім не абяцалі вывесці да жаданай мэты — пісьменніцкай працы (міжволі задумваешся, "пакручасты лёс" успрымаецца ўжо ледзь не як норма для нашых класікаў), патрабавалася і мужнасць, і нязломнасць, і цвёрдыя перакананні. Таму цалкам натуральным і зразумелым падаецца тое, што ўсе высокія эпітэты адрасуюцца не толькі Брылю-пісьменніку, але і Брылю-асобе.

"У ім таленавіта, шчасліва, зайздросна спалучаюцца актыўная, яркая чалавечая асоба і выдатны пісьменнік", — пісаў Міхась Стральцоў, выключна таленавіты празаік, паэт, удумлівы і глыбокі літаратуразнаўца. І ягонае ж: "Я люблю Янку Брыля — чалавека, яго высакародства і дасціпны, не папсаваны таннай парадаксальнасцю розум. І яшчэ пачуццё годнасці, развітае роўна настолькі, колькі трэба моцнаму, упэўненаму ў сабе чалавеку. Роўна настолькі, колькі трэба для самаабароны і для сцвярджэння дабраты".

Сапраўды, гаворачы пра Янку Брыля, цяжка, ды і не варта, відаць, праводзіць мяжу паміж жыццём і літаратурай. Папершае, багаты досвед пражытага і выпакутаванага дазваляў пісаць з натуры. Па-другое, у творах выразна бачыцца, высвечваецца асоба аўтара. "Разыходжанняў паміж тым, што мастак адчуваў і думаў, пра што марыў і што пісаў ці гаварыў публічна, няма" (У. Калеснік). Гэтае выказванне з інтэлігенцкай сціпласцю пацвярджае і сам Брыль: "…вяду жыццё і знешне, і нябачна для акаляючых, стараючыся як мага найлепш, а ўсё ж прыблізна раскрываючы словам душу" ("Хлеб надзённы").

Будучы прыхільнікам, а ў пэўнай ступені і паслядоўнікам Льва Талстога, Янка Брыль найбольшую ўвагу надаваў этычнай праблематыцы. Яму, падаецца, было вельмі важна не дапусціць размывання межаў паміж маральнасцю і амаральнасцю. Заўважым, што пры гэтым свет не дзеліцца адназначна і катэгарычна на чорнае і белае. У спробах данесці свае духоўныя імператывы Брыль застаецца сумленным з сабою, што не ў апошнюю чаргу і дае яму права на гэтыя самыя імператывы, а ў чытача выклікае прыязнае і ўважлівае стаўленне. Справядлівасць і сёння ўжо не так частая гіперсумленнасць змушаюць пісьменніка, вымаючы парушынку з чужога вока ("Адзін інтэлігентны, вясёлы чытач пісаў мне, што нашага брата лепш называць не інжынерам чалавечых душ, а лазеншчыкам, што душы гэтыя парыць, мачаліць ды адмывае"), не забывацца прыглядацца да сябе, пільна і больш прыдзірліва, чым да іншага.

"«Што ты ўсё дакараеш сам сябе? І на сонцы ёсць плямы!»

«На сонцы? На мне тых плямаў, як на рабым парсюку!»

Дыялог — у самім сабе" ("Нібыта рознае").

Без гэтага развярэджанага сумлення, без пачуцця адказнасці за свой народ і шырэй — за чалавецтва ў цэлым немагчыма было б узяцца за тую працу, якой запатрабавала кніга "Я з вогненнай вёскі", напісаная ў суаўтарстве з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам. І чытаць яе цяжка, а наколькі ж трэба было не ашчаджаць свой спакой, душэўныя сілы, каб прайсці, нібы па гарачых вуголлях, тысячы кіламетраў, пачуць безліч галасоў і "зберагчы, утрымаць, як "плазму", невыносную тэмпературу чалавечага болю". Наўрад ці менш перажыванняў звязана з маленькай сагай "Муштук і папка" — уласным расследаваннем сямейнай трагедыі. У гады сталінскіх рэпрэсій падобныя драмы перажывалі многія і многія сем'і, і гісторыя сям'і Брылёў, гэтаксама як гісторыя безыменнага паляка, расстралянага ў Курапатах, набывае агульнанацынальнае, усечалавечае гучанне. Гэта таксама тое, пра што забыцца небяспечна.

Брыль праўдзівы. Менавіта таму яго творы і адгукаюцца, для яго сапраўды не існавала чужога болю, як не існавала дробных праблем.

"Проста гэта і непрыемна, трывожна, калі спыніцца і падумаць. Што вось яны, дзеці нашых дзяцей, з'явіліся і растуць, што ім, як Анечка кажа, трэба свет пазнаваць, а яны ўжо не маюць таго, што мелі мы, а пасля іх бацькі, — падумаць толькі: не ведаюць, *не чулі* жаўранкавай песні!.."

(Заканчэнне на стар. 4.)

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі і чытачоў "Советской Белоруссии" з 85-годдзем з дня выхаду ў свет першага нумара газеты. "Ваша выданне мае выключнае значэнне ў палітычным і сацыяльным жыцці краіны, дынамічна развіваецца, застаючыся заўжды цікавым для людзей розных пакаленняў", — сказана ў віншаванні.

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР Эдзіту П'еху з юбілеем. "У вашым выкананні нават простыя словы і мелодыі ператвараюцца ў залатыя шлягеры, якія заўжды гучаць незвычайна кранальна і сучасна", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Алега Вінаградава з 75-годдзем. "У Беларусі вас ведаюць і цэняць як цудоўнага балетмайстра і педагога, які сваёй творчасцю робіць велізарны ўнёсак ва ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі", — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы.

✔Пантэон марской славы з'явіцца ў гісторыка-культурным комплексе "Лінія Сталіна". Пачаткам будучай экспазіцыі стаў помнік "Маракам зямлі беларускай — ад удзячнай Расіі". Экспазіцыю "Марская слава Беларусі", якая неўзабаве будзе разгорнутая тут, мяркуецца стварыць з экспанатаў, якімі падзеляцца з намі Балтыйскі, Чарнаморскі і Паўночны флаты Расіі.

✔Слуцкі краязнаўчы музей распачаў дабрачынную акцыю па зборы сродкаў для выкупу ў прыватнага калекцыянера з Беларусі двух слуцкіх паясоў. Неабходна сабраць каля 180 тысяч долараў. Лічыцца, што сёння ў Беларусі знаходзяцца толькі пяць сапраўдных слуцкіх паясоў і шэсць паясоў, выробленых у той жа час паводле тыпу слуцкіх на тэрыторыі іншых дзяржаў. Колькі паясоў у валоданні прыватных калекцыянераў — невядома.

✔Экскурсіі ў фармаце 3D будуць праводзіцца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы з сённяшняга дня. У трох экспазіцыйных залах наведвальнікі пабачаць на экранах экспанаты, не прадстаўленыя на выстаўцы, а таксама атрымаюць магчымасць "пагартаць" рукапісы паэта, "наведаць" музей-сядзібу Янкі Купалы ў Вязынцы і паглядзець 3D-фільм, прысвечаны Купаллю — народнаму святу, якое так любіў паэт.

✔Больш як 300 маладых людзей з Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Македоніі, ЗША прыехалі ў Віцебск на X Праваслаўны маладзёжны фестываль "Адзігітрыя". У праграме фестывалю акрамя духоўных мерапрыемстваў — майстар-класы школы званароў, па пляценні паясоў, ганчарнай і нават цырульніцкай справе. Вялікую цікавасць ва ўдзельнікаў фестывалю выклікаў Вечар харэаграфіі, падчас якога адбыліся майстар-класы танцаў старажытнай Беларусі і народаў свету, а таксама арт-праект "Брацкі карагод" і маладзёжны баль з удзелам гасцей свята — клубаў гістарычнай рэканструкцыі.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

*Імя ў гісторыі*

# Архівы будуць выяўленыя

**По даручэнні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі распачата праца па стварэнні музея народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Музей плануецца адкрыць на базе лецішча пісьменніка ў пасёлку Ждановічы. Гэты будынак быў перададзены ва ўласнасць дзяржавы ўдавой Быкава Ірынай Міхайлаўнай. Музей, які стане філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, плануецца адкрыць у чэрвені 2014 года, да 90-годдзя аўтара "Альпійскай балады" і "Сотнікава". Сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Георгій МАРЧУК пазначыў пазіцыю творчага саюза.**

Ірына СЛАНІМСКАЯ

— Вестка пра тое, што ў Беларусі стане адным літаратурным музеем больш, асабіста мяне як пісьменніка ўсцешыла. Упэўнены, большасць членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі таксама паставіліся да гэтага з прыхільнасцю і энтузіязмам, таму што кіраўніцтва нашага творчага саюза неаднаразова звярталася найперш да Міністэрства культуры Беларусі, а потым і да Музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе быў утвораны аддзел, прысвечаны непасрэдна народнаму пісьменніку Васілю Быкаву, з прапановамі па ўвекавечанні памяці творцы.

Я ўпэўнены ў тым, што ўсё, што хацеў сказаць пісьменнік, усё, што непакоіла яго і па чым балела яго душа, было сказана. Праз кнігі, выступленні ў прэсе і на радыё. Мажліва, як у кожнага пісьменніка, і ў архівах Васіля Уладзіміравіча нешта засталося з ненадрукаванага. Безумоўна, гэтыя рукапісы стануцца выяўленымі.

Выдатна, што распачынаецца праца непасрэдна на тым месцы, дзе Быкаў жыў, дзе ён адчуваў задавальненне ад яднання з прыродай і размоў з сябрамі па дачы. Але гэта зусім не значыць, што музей Быкава ў Беларусі застанецца адзіным. Мы ведаем, што музеі Максіма Багдановіча ёсць і ў Мінску, і ў Гродне. Існуе некалькі філіялаў літаратурных музеяў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Цалкам магчыма, што з цягам часу будуць аформлены і іншыя мемарыяльныя месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Васіля Быкава. Іх узнікненне добра паслужыць справе папулярызацыі творчасці пісьменніка, кнігі якога будуць, пэўна, успрымацца нашымі нашчадкамі зусім інакш, чым намі, але з не меншай цікавасцю.

*Імпрэзы*

# Выйсці з пекла жывым

**У Гістарычнай майстэрні Мінска адбылася прэзентацыя новага выдання РВУ "Літаратура і Мастацтва" — кнігі "Лагерь смерти Освенцим: живые свидетельства Беларуси". Гэта трэцяе, значна пашыранае выданне ўспамінаў былых вязняў аднаго з самых жахлівых фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На прэзентацыі прысутнічалі ўкладальнікі кнігі: дырэктар Гістарычнай майстэрні Кузьма Козак, Аляксандра Барысава і Галіна Стучынская, што былі сведкамі падзей у Асвенцыме. Распавядаючы пра тое, як узнікла ідэя сабраць пад адной вокладкай аповеды людзей, што выжылі ў тым месцы, якое інакш як "Пеклам на зямлі" і не назавеш, яны згадалі: кніга спачатку змяшчала ўспаміны 150 былых вязняў і ўпершыню пабачыла свет у 2009 годзе. Наклад яе быў невялікім — усяго 300 экзэмпляраў, таму яна даволі хутка разышлася.

Другое выданне, таксама ў 300 асобнікаў, дапоўненае новымі матэрыяламі і фотаздымкамі, пабачыла свет у 2010 годзе. Трэцяе выданне ўтрымлівае ўжо 260 гісторый тых, хто выжыў у Асвенцыме.

Выступаючы на прэзентацыі трэцяга выдання, намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут заўважыла, што хаця сёння выходзіць нямала кніг пра Другую сусветную вайну, аднак аўтары іх з вялікай цяжкасцю супастаўляюць пачуцці і ўчынкі сваіх герояў з маральнымі нормамі, ацэнкамі і стэрэатыпамі нашага часу. На гэта пакутуюць літаратурныя тэксты, і чытача яны ўжо не кранаюць сваёй шчырасцю. Не такі лёс у кнігі "Лагерь смерти Освенцим: живые свидетельства Беларуси". Аповеды відавочцаў фашысцкіх зверстваў уваскрашаюць рэальныя падзеі, даносяць да сэрцаў сучаснікаў жывы боль. Такія кнігі — бясцэнная крыніца ведаў для новага пакалення. Маладыя супрацоўнікі выдавецтва, якія бралі ўдзел у падрыхтоўцы выдання, прызнаваліся, што нярэдка, забываючы пра тэхнічныя абавязкі, зачытваліся рукапісам. Хадзілі глыбока ўражаныя…

Дарэчы, менавіта супрацоўнікам выдавецтва ўдалося даказаць сацыяльную значнасць выдання, якое было выпушчана пры дзяржаўнай падтрымцы накладам 1100 асобнікаў.

Вядомы беларускі гісторык Эмануіл Іофе, узгадаўшы, як цяжка, пачынаючы з 1950-х гадоў, у нас "праходзяць у друк" гістарычныя і публіцыстычныя артыкулы і працы пра халакост, назваў з'яўленне кнігі своеасаблівым прарывам у свядомасці.

Прадстаўнік Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску, саветнік па культуры пані Эльжбета Шчэпаньска-Дамброўска прапанавала пры ўзгадванні нямецкага канцэнтрацыйнага лагера смерці Аўшвіц-Біркенаў пазбягаць ужывання назвы Асвенцым. Бо гэта — назва старажытнага польскага горада, які мае дачыненне да лагера смерці толькі таму, што немцы пабудавалі "Зямное пекла" ў яго наваколлях. А дырэктар нямецкага адукацыйнага цэнтра імя Е. Рау ў Мінску Вольга Рэнш-Ветцэль падкрэсліла, што вялікае значэнне для чалавецтва мае захаванне праўды пра падзеі Другой сусветнай вайны. Гэта і толькі гэта ўтрымае свет ад паўтарэння трагедыі.

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



**НІКОЛЬСКАЯ (ЛЕШЧАНКА) Вольга Уладзіміраўна**

***Празаік, дзіцячая пісьменніца***

Нарадзілася 20 чэрвеня 1986 года ў Мінску. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў Белтэлерадыёкампаніі, на радыёстанцыі "Сталіца". Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках "Казкі дзяцей Беларусі", "Наша перамога". У 2011 годзе ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшла кніга "Мы — агенты «Колбафир»".



**КАРАСЁЎ Віктар Раманавіч**

***Публіцыст, краязнаўца***

Нарадзіўся 12 лютага 1937 года ў в. Рыбакі Полацкай акругі. Скончыў Даўгаўпілскае радыётэхнічнае авіяцыйнае ваеннае вучылішча і гісторыка-філалагічны факультэт Латвійскага дзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай Арміі, пасля працаваў настаўнікам гісторыі ў школах Полацка. Аўтар кніг "Ветрына і наваколле: храналогія гісторыі" (1999), "Мая любоў — Ветрына" (2004), "Майго сэрца часцінка" (2004), "У памяці людской назаўжды" (2009), "Па гістарычных мясцінах полацкай зямлі" (2011).



**ХАЗЯНІН Аляксандр Аляксандравіч**

***Публіцыст***

Нарадзіўся 5 студзеня 1948 года ў в. Харэвічы Пухавіцкага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У апошні час працаваў галоўным рэдактарам "Маладзечанскай газеты". Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", газетах "Звязда", "Чырвоная змена" і іншых. Аўтар кніг "Сярод добрых людзей" (1997), "Скарбонка мудрасці" (2007) і іншых.

*Кіно*

# Вуліца Захарава на час стала Андрэеўскай

**На пляцоўцы каля офіса "ЛіМа" ў Мінску на гэтым тыдні здымалі кіно з рабочай назвай "Гарадскія бандыты". Для эпізоду сустрэчы ў кавярні шыльды з назвай вуліцы замянілі.**

Ірына ТУЛУПАВА

Фільм здымаецца для Першага канала ("ОРТ") Масквы. Аўтар сцэнарыя — Вячаслаў Рагожкін, рэжысёр — Дзмітрый Чаркасаў. У галоўных ролях — Анатоль Белы, Аксана Фандэра, Вольга Духавічная. Паводле сцэнарыя героі — гэта элітнае падраздзяленне, каманда здольных людзей, якія знаходзяць правільныя рашэнні ў найскладанейшых сітуацыях, маюць вялікія навыкі па раскрыцці самых заблытаных злачынстваў.

— Практычна вядомы склад акцёраў, — распавяла "ЛіМу" другі рэжысёр Ала Саветкіна.

**— Чаму выбралі беларускую пляцоўку?**

— Яе часта выбіраюць групы — для гэтага маецца шмат прычын і эстэтычнага, і тэхналагічнага характару. Тут тыя краявіды, якія нам падыходзяць. Выдатныя тэхналагічныя магчымасці, ёсць добрая студыя і спецыялісты-прафесіяналы. Да таго ж спакайней, чым у Маскве, здымаць. Таму ў вашай краіне досыць шмат здымаецца маскоўскіх фільмаў.

**— Вуліца Захарава для нас раптам стала Андрэеўскай. Не бывала такога, што на месцы пакідалі рэквізіт?**

— Ніколі. Такая этыка творчасці. Зразумела, мы робім свае дэкарацыі. Але ўсе надпісы пасля здымаем. Не можам пакінуць нічога: ні кубачка для кавы, ні шыльды з назвай вуліцы. Гэтага патрабуе тэхналогія: калі запатрабуюцца даздымкі, усё павінна быць такім жа! Кіно вельмі складаны працэс, працаёмкі. Бывае, адзін чалавек у кадры — і 60 чалавек персаналу. З беларусамі супрацоўнічаем шчыльна. Прыехала толькі невялічкая маскоўская група: рэжысёры, мастак, мастак па касцюмах ды іншыя. Рэквізітары, дэкаратары, асвятляльнікі — з Беларусі. Ёсць і акцёры — добра супрацоўнічаем з беларускімі тэатрамі і студыямі. Навідавоку і матэрыяльныя выгады, і творчыя: паміж майстрамі адбываецца абмен вопытам. Да таго ж гэта дадатковая занятасць груп і акцёраў…

Даты, калі можна будзе ўбачыць фільм на экране, суразмоўца не паведаміла: пасля таго, як усе эпізоды будуць адпрацаваны, мінімум паўгода патрэбна для падрыхтоўкі канчатковага варыянта фільма. Здымачная ж група заканчвае ў нас працу ў ліпстападзе.

*Літабсягі*

# Наша зорка — Максім

**У філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча “Фальварак Ракуцёўшчына” адбылося традыцыйнае свята паэзіі і песні “Ракуцёўскае лета”. Яго арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт, Літаратурны музей Максіма Багдановіча.**

**Дар’я ШОЦІК,
фота аўтара**

Ужо не першы год на ракуцёўскай зямлі сустракаюцца аматары творчасці Максіма Багдановіча, прыхільнікі непаўторнай паэзіі, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, каб яшчэ раз аддаць даніну павагі знакамітаму беларускаму паэту.

Улетку 1911 года М. Багдановіч адпачываў у фальварку дробнага шляхціца Вацлава Лычкоўскага, дзе былі напісаны такія цудоўныя творы, як нізкі вершаў “Старая Беларусь” і “Места”, паэмы “У вёсцы” і “Вераніка”.

Дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч упэўнена, што з цягам часу вёска Ракуцёўшчына, якая стала крыніцай натхнення для Максіма, будзе яшчэ больш ушанавана.

— Максім Багдановіч — зорка нашай краіны. Рамантычны, цікавы і цудоўны паэт, — зазначыў пісьменнік, дырэктар радыёстанцыі “Беларусь” Навум Гальпяровіч.

Вядучыя свята мастацкі кіраўнік паэтычнага тэатра “Жывое слова” Алеся Сівохіна і артыст, рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі запрасілі ўсіх прысутных на літаратурна-музычную імпрэзу “У родным краі”. На канцэртнай пляцоўцы пад адкрытым небам выступілі народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль “Крынічанька”, вядомыя спевакі Маладзечна, вакальная група “Кантраст”, фальклорны калектыў “Талака” ды іншыя.

Унучатая пляменніца Максіма Багдановіча Вольга Дашкоўская падкрэсліла: “Сёння на свяце сабраліся сябры беларускай паэзіі і носьбіты беларускага слова. Нягледзячы на тое, што Максім вельмі мала пражыў на радзіме, ёсць шмат мясцін, якія звязаны з яго імем. Пра гэта сведчыць Ракуцёўшчына, дзе з’явіліся непаўторныя радкі яго твораў”.



*Стол, за якім працаваў паэт.*

Успомніць паэтычную спадчыну паэта, узгадаць цікавыя моманты з яго жыцця прыехалі паэт, перакладчык Серж Мінскевіч, галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп, мастацкі кіраўнік Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра “Зьніч” Галіна Дзягілева, паэтэса Таіса Трафімава, мастак Эдуард Агуновіч ды іншыя творцы.

Госці азнаёміліся з экспазіцыяй філіяла “Фальварак Ракуцёўшчына”, мастацка-дакументальнай выстаўкай “Геній зямлі беларускай”.

*Артлінія*

# Абрысы і колеры маладосці

**Выстаўка “Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі” адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Прэзентацыя праекта адбылася ў Дзяржаўным музеі сучаснай гісторыі Расіі ў Маскве ў рамках Года культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. У экспазіцыі прадстаўлены творы з мінскай калекцыі музея, а таксама новыя работы выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і іншых мастацкіх ВНУ краіны.**

**Ніна САРМАНТ**

На думку арганізатараў выстаўкі, імёны і стылі прадстаўленых творцаў, сярод якіх Руслан Вашкевіч, Уладзімір Клімушка, Раман Сустаў, Таццяна Радзівілка, Юрый Якавенка, найбольш поўна раскрываюць сённяшнюю карціну мастацтва. Жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, відэа-арт адлюстроўваюць разнастайнасць мастацкіх пошукаў маладых аўтараў.

— Сучаснае беларускае мастацтва развіваецца паступова, вялікая ўвага надаецца адукацыі і ўдасканаленню прафесійных якасцей, — каменціруе Міхаіл Мірошнікаў, старшы навуковы супрацоўнік музея, адзін з арганізатараў выстаўкі. — Гэты праект убачыў свет у красавіку 2010 года. Аднак работы прадстаўленых у экспазіцыі мастакоў і цяпер застаюцца актуальнымі. Таму і было вырашана выставіць іх у Мінску.

Мастакі прапануюць сучаснае прачытанне класічных жывапісных жанраў: пейзажа як умоўнага ўвасаблення рэальнай прасторы; нацюрморта як складанай сістэмы знакаў і сімвалаў; партрэта як філасофскага асэнсавання духоўнай сутнасці чалавека; тэматычнай карціны, якая перадае не столькі дзеянне, колькі асацыятыўныя перажыванні аўтара. Сярод найбольш значных выразных якасцей графічнага майстэрства можна вылучыць паглыблены аналіз гісторыі і духоўнага жыцця беларускага народа, інтэлектуалізацыю творчасці, аналітычнасць, часты зварот да лагічных канструкцый у кампазіцыях. Для скульптуры застаецца прыярытэтным захаванне акадэмічнага майстэрства, але пры гэтым мастакі імкнуцца творча перапрацоўваць вопыт папярэднікаў, шукаючы новыя пластычныя і сюжэтна-тэматычныя рашэнні. Кераміку адрозвівае мастацкая паэтызацыя прадметаў.



*Работа Р. Вашкевіча.*

Выстаўка “Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі” вызначае прастору беларускага мастацтва пачатку XXI стагоддзя. Галоўным прынцыпам пабудовы экспазіцыі быў абраны не энцыклапедычны агляд усіх існуючых тэндэнцый і напрамкаў, а структурызацыя новага культурнага поля, спрыяльнага для самаідэнтыфікацыі беларускага мастацтва.

*Повязі*

# Некалькі дзён з жыцця

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Наталлі Купрэвіч**

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы была прадстаўлена кніга-доследкандыдата філалагічных навук Міколы Труса “Янка Купала і Славакія”. На прэзентацыі прысутнічаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Беларусі Мар’ян Сэрватка, які, дарэчы, з’яўляецца аўтарам прадмовы да кнігі.**

Узгадаўшы, што толькі за час яго знаходжання ў Беларусі выйшла восем кніг, прысвечаных беларуска-славацкім сувязям: палітычным, партнёрскім, культурным, — спадар Мар’ян Сэрватка спыніўся ўласна на даследчай працы Міколы Труса:

— Мяне здзівіла, як многа раней невядомых матэрыялаў пра візіт Купалы ў Славакію знойдзена, і я вельмі рады, што дзякуючы Міколу Трусу пра гэты візіт даведаюцца людзі.

Паездка Янкі Купалы ў Славакію ў кастрычніку 1935 года ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў доўгай не была. Аднак гэтае амаль пратакольнае мерапрыемства, як аказалася, выклікала вялікую зацікаўленасць у славацкай інтэлігенцыі. Безумоўна, увагу славакаў прыцягнулі найперш вядомыя творцы: публіцысты Міхаіл Кальцоў і Ганна Караваева, пісьменнікі Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Іван Нікіценка, наш Янка Купала.

Гэты перыяд быў нялёгкім для Песняра. Яшчэ зусім нядаўна Купала рабіў спробу самагубства. Але быў нечакана аблашчаны, узняты да вяршынь славы, “залічаны” ў шэрагі савецкай творчай эліты і ў якасці яе прадстаўніка накіраваны ў Славакію. Міжволі разумееш, адкуль на першых фотаздымках Купалы ў Славакіі гэтая напружанасць на твары. Аднак усяго праз некалькі дзён з’яўляюцца і здымкі іншага кшталту, дзе вясёлы і ўсцешаны, пэўна, шчырымі, цёплымі размовамі з сябрамі-славакамі, паэт выглядае шчаслівым.

Коратка, дакладна і з незвычайным густам пабудаваў аўтар кнігі свой аповед пра знаходжанне ў Славакіі Купалы. Слайды са славацкімі фотаздымкамі членаў дэлегацыі, гасцявыя кнігі, у якіх яны пакінулі свае запісы, гістарычныя і сучасныя выявы гасцініц, дзе спыняліся савецкія пісьменнікі, аб’ектаў, якія ім паказвалі, дамоў, дзе яны сустракаліся з калегамі па пяры, на фоне папулярнай славацкай музыкі 1950-х гадоў незвычайна ярка прадставілі прысутным эпоху, у якую адбывалася дзеянне, і краіну, якую пабачыў Купала.

— Ідэя напісаць кнігу пра паездку Янкі Купалы ў Славакію з’явілася падчас маёй стажыроўкі ў гэтай краіне, — распавёў М. Трус. — Крок за крокам я ішоў за Купалам, збіраючы інфармацыю пра кожны эпізод гэтай паездкі. І знаходзіўся ў нейкім містычным стане, разумеючы, што бачу тое ж, што бачыў ён.



*Аўтар кнігі Мікола Трус ды Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Славацкай Рэспублікі Мар’ян Сэрватка падчас прэзентацыі.*

Тое, што кніга напісана ў папулярным, даступным для шырокіх чытацкіх колаў стылі, дадае ёй вартасцей.

— Мне б вельмі хацелася, каб гэтая цікавая праца была выдадзена і ў Славакіі, — выказаў сваё пажаданне спадар Мар’ян Сэрватка.

*З-пад пяра*

➤ Творчая вечарына Валянціны Шытыкі “Напоўнім сэрцы дабрынёй” прайшла ва Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса. Ужо на заслужаным адпачынку былая настаўніца Валянціна Шытыка змагла рэалізаваць сваю мару — напісаць раман, які з’яўляецца часткова аўтабіяграфічным. Кожны радок Валянціны Мікалаеўны напоўнены вялікай любоўю да жыцця і святлом дабрыні, таму кніга чытаецца з цікавасцю і захапленнем, а чытачы спадзяюцца, што ў яе будзе працяг.

**Аксана ДРАЧАН**

➤ Дзяржаўны літаратурны мемарыяльны музей імя Якуба Коласа зноў запрасіў сяброў на “кватэрнік”. Гэтым разам госці сабраліся паглядзець і паслухаць Віктара Лупасіна, паэта-авангардыста, драматурга, аўтара першага вянка трыялетаў на роднай мове, першай касыды, аўтара санетнага цыкла “Аўтамабілі СССР” і паэмы “Купала, Колас, Лупасін”, шоумена, пачынальніка разнастайных музычных праектаў. На думку прадстаўнікоў старэйшага пакалення, гэта самы незвычайны і неадназначны “кватэрнік”, які калі-небудзь праводзіўся ў музеі.

**Вольга ПАЎЛЕНКА**

➤ У мастацкай Галерэі Тызенгаўза ў Гродне прайшла першая персанальная выстаўка карцін пачынаючай мастачкі Марыны Эльяшэвіч “Свет, які я люблю”. Коні-прыгажуны, смешныя пеўнікі, забаўныя птушкі, яркія кветкі — аўтарка надзвычай удала спалучыла ў сваёй творчасці вясковыя сюжэты і традыцыі кітайскага жывапісу. У навакольным свеце, які бачыць, разумее і любіць мастачка, звычайныя рэчы становяцца важнымі і прыцягваюць гледача цеплынёй і душэўнасцю. Марына прыйшла ў мастацтва ўсяго год таму, пасля нараджэння другога сына. Аднак у экспазіцыі было прадстаўлена ўжо каля 50 работ. Выдатны пачатак!

**Іосіф ЗАЯЦ**

➤ Традыцыйным стала правядзенне канцэртаў творчых калектываў раёнаў Гомельскай вобласці на пляцоўцы летняй эстрады ў парку ля Гомельскага палаца. Днямі тут прайшоў справаздачны канцэрт і выстаўка-продаж твораў дэкаратыўна-прыкладного мастацтва Светлагорскага раёна.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

Уланы, драгуны, гусары і конныя егеры на адзін дзень завалодалі старажытным Гродна. Гэтак тут адзначылі юбілей Айчыннай вайны 1812 года. Урачыстасці распачаліся цырымоніяй ускладання кветак да помніка камандзіру Польскага коннага палка Сяргею Ланскому. У другой палове дня ва ўнутраным дворыку Новага замка разгарнуліся тэатралізаваны паказ і канцэрт з удзелам ансамбляў народнай і класічнай музыкі. Галоўнае ж мерапрыемства свята — гістарычная рэканструкцыя аднаго з баёў вайны 1812 года — адбылося вечарам на пляцоўцы ля Кургана Славы. У гэтым відовішчы ўзялі ўдзел больш як 100 прадстаўнікоў беларускіх і расійскіх гістарычных клубаў.

**Ірына СЛАНІМСКАЯ**

Невымоўнае

# Дзякуй вам, мудры настаўнік!

**Ян СТАДОЛЬНІК**

Усім добрым, чаго мне давялося дасягнуць у жыцці, я ў самай вялікай большасці абавязаны настаўнікам. Калі б не іх дабрыня, мудрасць і чалавечнасць, я, можа б, і не закончыў школу, медвучылішча, Белдзяржуніверсітэт. У маім станаўленні як літаратара сыгралі выключна вялікую ролю празаікі Іван Шамякін, Іван Пташнікаў, Мікола Лобан, Алесь Асіпенка і многія іншыя. Але самым мілым, самым дарагім настаўнікам быў, ёсць і будзе народны пісьменнік, незабыўны Янка Брыль, мілейшы Іван Антонавіч.

Захоплены яго творчасцю, яшчэ жывучы ў Полацку, я адважыўся напісаць пісьмо і паслаць на суд класіку свае першыя творы. З 1973-га і па 1980-ы — пакуль я жыў у Полацку — вялася наша перапіска. Іван Антонавіч заўсёды падрабязна рэцэнзаваў мае апавяданні, рабіў у іх праўкі, даваў карысныя і мудрыя парады, і я стараўся патрапляць ім. І стаў актыўна друкавацца ў часопісах "Вожык", "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".

У 1977 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў калектыўным зборніку сатыры і гумару "Ад варот паварот" была выдадзена вялікая нізка маіх гумарэсак, а ў 1979 годзе — асобная кніга апавяданняў "Хачу табе шчасця".

20 мая 1980 года было пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР, на якім намячалася прыняць у Саюз групу маладых пісьменнікаў з сямі чалавек, у тым ліку і мяне.

Як толькі дайшла чарга да абмеркавання маёй кандыдатуры, адразу ўстаў са свайго месца член прэзідыума Янка Брыль і сказаў вельмі шмат станоўчага пра маю творчасць. Павел Місько прыбавіў да Брылёўскай ацэнкі некалькі сваіх пахвальных слоў.

Усе мы, маладыя — Яўген Міклашэўскі, Захар Бірыла, Яўген Крупенька, Святлана Курылёва, Святлана Клімковіч, Віктар Ярац, — былі вельмі ўзрадаваныя тым, што за нас ледзь не ўвесь прэзідыум прагаласаваў амаль аднадушна.

У верасні таго ж 1980 года галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Аляксандр Раманаў запрасіў мяне на працу ў якасці рэдактара аддзела літаратуры. У ЦК КПБ, выданнем якога быў "Вожык", далі на гэта згоду.

Іван Антонавіч калі-нікалі заходзіў у рэдакцыю не толькі як былы вожыкавец, але і як мой старэйшы таварыш. Абавязкова цікавіўся маімі клопатамі, пісьменніцкімі справамі.

Аднойчы, ідучы па калідоры нашага чацвёртага паверха, дзе мы каля адчыненага акна курылі разам з тагачасным галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць" Анатолем Грачанікавым, Іван Антонавіч падышоў да нас і чамусьці звярнуўся толькі да мяне:

— Іване, абавязкова кідайце курыць, я нават прашу гэта зрабіць! Курэнне да дабра не даводзіць.

— Я некалькі разоў спрабаваў кідаць, ды толькі нічога з гэтага не выходзіць. Не атрымліваецца. З пяці гадоў куру, а мне ўжо за сорак, — пачаў апраўдвацца я. — Мусіць, позна ўжо.

— Не, не позна, а якраз самая што ні на ёсць пара. Я быў некалі страшэнна заядлым курцом, можа, яшчэ больш, чым вы. Але якраз пасля сарака кінуў гэту заразу. Вельмі цяжка было, ды і цяпер часам страшэнна хочацца, але трываю. Калі добра настроіць сябе, усё можна вытрываць, — сказаў Янка Брыль.

І я вырашыў ні на ёту не адступацца ад просьбы-парады мілага, мудрага настаўніка. Хоць і не адразу, з вялікімі пакутамі, але кінуў дыміць. І нават цяпер, праз пятнаццаць гадоў, як і казаў Іван Антонавіч, часам так захочацца, што ўваччу цямнее. Нават у сне сніца, што куру, і тады прачынаюся ўвесь у халодным поце ад жаху: "Што ж я нарабіў?" Добра, што сон ёсць сон. Шкодныя звычкі не пакідаюць чалавека ніколі. Іх трэба з нянавісцю адпрэчваць, старацца нават не думаць.

Пазней, калі я стаў адказным сакратаром часопіса "Тэатральная творчасць", з Іванам Антонавічам бачыліся рэдка, толькі на нейкіх пісьменніцкіх сходах ці выпадкова ў рэдакцыі часопіса ці газеты.

Пра смерць Янкі Брыля я даведаўся, калі быў на дачы. Глыбока ўзрушаны жахлівай весткай, я разам з Генрыхам Далідовічам паехаў у Мінск. Развітанне было на кватэры, што па вуліцы Дразда. Я і цяпер часта ўспамінаю Івана Антонавіча і, калі нешта кволіць душу, кожны раз атрымліваю нейкую душэўную палёгку, чытаючы і перачытваючы лісты незабыўнага настаўніка і заўсёднага дарадцы Івана Антонавіча — Янкі Брыля. Адзін з іх і прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа".

## Дарагі Іване!

*Прачытаў Вашы апавяданні — тыя два, што Вы прыслалі, а потым і ў "Полымі", не прачытанае дагэтуль.*

*Не ведаючы Вас асабіста, я, магчыма, буду гаварыць рэчы банальныя, не па ўзросту і вопыту Вашаму, але на першы раз гэта здаецца мне нармальным. Чалавек Вы, бясспрэчна, здольны, валодаеце мовай, маеце добрую назіральнасць, цікавіцеся тым, што варта цікавасці і што можа быць прадметам сапраўднай літаратуры. Задумы Вашых апавяданняў, асабліва "Радні" і "Навальніцы", значныя. Менш арыгінальная задума апавядання "Бывай, Буланчык!" Я разумею, што пішучы мы, прынамсі ў пераважнай большасці, думаем і пра тое, як надрукаваць сваё апавяданне, і гэтая думка залішне часта адбіваецца на нашай смеласці і шчырасці… Вы пішаце, што "конь іграе пабочную ролю" ў Вашым апавяданні пра Буланчыка, і я Вас разумею — Вы чагосьці не дасказалі, маглі б сказаць значна больш, смялей, глыбей, аднак жа — не сказалі. А не сказаўшы — як жа прэтэндаваць на тое, каб апавяданне было пахвалена за нявырашаную задуму?.. У сэнсе глыбокага, сапраўднага вырашэння.*

*Недастаткова глыбока, не на ўсё належнае дыханне вырашана задума "Радні" — трагічная і ўзнёслая. Мне здаецца, што Вам варта яшчэ падумаць над паглыбленнем гэтай рэчы, не заспакойваючыся яе надрукаваннем у паважаным часопісе. Арыентавацца трэба заўсёды як найвышэй.*

*Трагічная таксама, але менш узнёслая тэма "Навальніцы". У ёй усё трымаецца на чалавечнасці, на спагадзе да такой ахвяры вайны, якой з'яўляецца не адна Жэня. Яе адчайны жэст — замужжа, дзеля свайго кутка, можа зразумець пажылы чытач, але прэтэндаваць на тое, каб яе зразумелі дзеці чалавека, які стаў яе "мужам", тым больш дзеці дарослыя — ніяк нельга.*

*А што магу сказаць Вам я — не рэдактар цяпер (калісьці я ім працаваў), а проста таварыш па прафесіі ці прызнанні? Проста пажадаць Вам думаць перш за ўсё і больш за ўсё пра тое, як найлепш напісаць.*

*Жадаю Вам усяго найлепшага.*

***16.V.73***



Фота з архіва "ЛіМа". Калаж Віктара Калініна.

# Спыніцца і падумаць

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)

Ці не ключавыя для творчасці Брыля словы: "спыніцца і падумаць"? Трэба спыніцца, каб разгледзець тое, што здаецца дробным, каб убачыць глыбей і шырэй, каб з'яву, падзею перажыць, вынасіць у сэрцы. Думанне гэтае набывае ўсё больш маштаб: "З-за тых дзяцей, *адтуль* [з Чарнобыльскай зоны] прывезеных, на групы па ратаванні ці выжыванні падзеленых, ён думаць толькі пра сваіх ужо не мог, і больш, відаць, ніколі не зможа"; "А пра вайну падумаць, а пра ўвесь свет, які цяпер чуем і бачым, — няхай прыбліזна, але штодня!"; "Паняцце *блізкіх* сёння *трэба*, ужо і *неабходна* пашыраць на ўсіх людзей, на ўсё чалавецтва".

Янка Брыль глядзеў на свет і пісаў пра яго з любасцю і не прыніжаючай "жаласцю" ("Чаму? Навошта мне гэтая жаласць? Каб у іншых яе абуджаць?"). Бадай, у гэтым прычына, чаму яго, начытанага, адукаванага, наўрад ці назавуць інтэлектуалам, а вось інтэлігентам — дакладна. Роздум інтэлектуала можа быць прысвечаны чаму заўгодна, ён вынікае з патрэбы мыслення, самаразвіцця. Інтэлігенцкае думанне Брыля перажывае і су-перажывае. Гэта роздум не адстаронены, роздум пра іншага як пра сябе, балючы верад чалавека, які адчувае ўласную адказнасць і сваю спрычыненасць.

Добраахвотна ўзяўшы на сябе нелітасцівы цяжар *не* чужых пакут і болю, Янка Брыль не забываўся і на словы Л. Талстога: "Нет, не даром она, забота о форме!" Бадай, ніводны з нашых падручнікаў па стылістыцы не абыходзіцца без тэкстаў Брыля ў якасці прыкладаў. Словы яго станавіліся асязальнымі, набывала пах, колер, тэкстуру і станавілася на адзіна правільнае месца.

Такая выверанасць, адшліфаванасць стылю, якая выглядала ў яго абсалютна натуральнай, нібы народжанай без усякіх намаганняў, і звычка спыніцца і падумаць паспрыялі прыходу Янкі Брыля да жанру мініяцюры, лаканічнага, лірычнасуб'ектыўнага. І хоць у беларускай літаратуры на той час ужо былі абразкі, зацемкі, усё ж слава пачынальніка жанру замацавалася менавіта за Янкам Брылём. Больш за тое, любы таленавіты наступнік непазбежна выклікае асацыяцыі з класікам. І наўрад ці такія параўнанні могуць быць крыўднымі, бо мініяцюры Брыля — гэта ўжо прыклад гарманічнай паяднанасці паэзіі і прозы, высокага майстэрства, а разам з тым узор шчырасці, чалавечай дабрыні і спагадлівасці.

Міхась Стральцоў у артыкуле "Служэнне" пераказвае: "У творчым партрэце Брыля маскоўскі крытык В. Аскоцкі згадвае, як той на пытанне, ці лічыць ён сябе пісьменнікам лірычнай тэмы, не задумваючыся, адказаў:

— Я лічу сябе пачынаючым пісьменнікам!

Сціпласць? Вядома. Непрыманне крытычных шаблонаў? Так. Але найбольш, здаецца, усведамленне складанасці і важнасці пісьменніцкай справы, прызнанне гатоўнасці да новага пошуку, да штодзённай вучобы ў жыцці і літаратуры. Непрыманне самазадаволенасці".

Сёння тыя, хто прыходзіць у літаратуру, могуць пачынаць з Брыля.

*Партрэт на фоне кнігі*

# Насіць у сабе кавалачак радзімы…

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Яна падобная да былых расійскіх інтэлігентак, якімі яны ўяўляюцца нам праз яшчэ дарэвалюцыйныя кнігі і кінафільмы. І проста дзіву даешся, што на фарміраванне гэтай асобы насамрэч паўплывала і асяроддзе буйных беларускіх гарадоў Віцебска і Мінска, і рознакаляровасць штодзённага жыцця ў Злучаных Штатах Амерыкі. Рускамоўная паэтэса Іна Саніна пакінула родную Беларусь ужо ў даволі сталым узросце, маючы смеласць пачаць жыццё “з нуля” дзеля шчасця і кар'еры сына, і пражыла ўжо “за акіянам” трыццаць тры гады.**



Трыццаць тры — як у нашых славянскіх казках і былінах. Але ці сапраўды казачным было яе жыццё? У апошні прыезд Іны Іванаўны ў Мінск яна згадзілася распавесці пра сябе. Зрэшты, ці не дастаткова для аповеда пра паэта яго вершаў?

*Не видно истины без споров*
*и сомнений,*
*Без размышления —*
*прозренья нет.*
*Нам нужен свет,*
*чтоб выявились тени,*
*А тени, —*
*чтоб увидеть свет…*

**— Іна Іванаўна, ці шмат “заценянага” было ў вашым жыцці да таго, як вы пакінулі радзіму?**

— Лёс мой, безумоўна, зусім не лёгкі. Каб праблем не было, мы з мужам, пэўна, не пакінулі б родныя мясціны. Але аказалася, што сыну з-за таго, што ён быў напалову яўрэй, закрытая дарога ў вялікую навуку. І сапраўды, хто там бацька ў маладога генетыка? Іосіф Абрамавіч Ерусалімчык? Непарадак! Для сына, безумоўна, гэта была трагедыя. І вось мы скарысталіся дазволам Савецкага ўрада ў 1970-я гады на эміграцыю для яўрэйскіх сем'яў. Сыну тады было 24 гады, мне — 46, мужу — 48. Я была дацэнтам Беларускага політэхнічнага інстытута, кандыдатам навук. Звольнілася загадзя, каб ніякім чынам не прынесці непрыемнасцей калегам. Але ці самае гэта страшнае, што было ў маім жыцці? Я перажыла фашысцкую акупацыю ў Віцебскай вобласці. Вось гэта сапраўды і страшна, і цяжка. Бацька мой быў рэпрэсіраваны. Ад яго на памяць хіба што імя засталося. Ён вельмі цікавіўся славянскай дахрысціянскай культурай і знайшоў там прыгожае імя Маіна.

**— Але вы падпісваеце свае творы іншым імем.**

— Іна — гэта больш звычна, гэта карацей. І можа ўспрымацца як скарочаная форма ад Маіны.

**— Звычайна паэты, наадварот, прымаюць больш квяцістыя і незвычайныя псеўданімы, каб звярнуць увагу чытача. А вы, як бачна, “спрасцілі” і імя, і прозвішча Арцішэўская-Ерусалімчык. Але, можа, для амерыканскага чытача і Іна Саніна гучыць нязвыкла і экзатычна? Ведома, што паэтам вы сталі менавіта ў эміграцыі.**

— Я пісала і на радзіме, але не многа і не надта сур'ёзна. А калі б пісала і больш, наўрад ці мая паэзія ў тыя часы была б асабліва запатрабаванай. Паэзія заканамерна ўвайшла ў маё жыццё ў ЗША. Канцэнтрацыя духоўных сіл адбылася там, дзе я цяжка шукала сваё месца ў жыцці. Друкавацца ў рускамоўных амерыканскіх перыядычных выданнях стала на пачатку 80-х. А цяпер у мяне пяць кніг. Гэта паэтычныя зборнікі, але ў адным з іх ёсць і крыху прозы.

**— Вашы кнігі выдадзены на рускай мове, і таму, думаю, ваша імя ў ЗША добра знаёмае рускамоўнаму чытачу. А выйсці на англамоўную публіку не спрабавалі?**

— Каб пісаць па-англійску, недастаткова ведання мовы на побытавым узроўні. Глыбокае адчуванне англійскай мовы да мяне так і не прыйшло. А паэзія — гэта ж і рытм, і рыфма…

**— Але ж, здаецца, сучасная амерыканская паэзія — пераважна паэзія верлібраў, без рытму і рыфмы. Толькі мастацкія вобразы! Магчыма, гэта выйсце для паэта, у якога англійская мова — не родная?**

— Так і ёсць. Некаторыя члены нашага рускага клуба спрабуюць гэтак пісаць. Але мне верлібр не падыходзіць. Для мяне верш — гэта рытмічнасць і музыка рыфмы. Я магу напісаць “белы верш”, але не верлібр.

**— Рускі клуб — гэта што за ўстанова?**

— Рускі літаратурны клуб Лос-Анджэлеса. У гэтым горадзе я жыву. Штат Каліфорнія. Так-так, побач з Галівудам. Але пазнаёміць з кімсьці з рэжысёраў дзеля таго, каб прапанаваць літаратурную аснову для сцэнарыя, і не прасіце! Там людзей незнаёмых, людзей без пратэкцыі нават слухаць не будуць. І сцэнарысты-пачаткоўцы цэлымі натоўпамі абіваюць парогі кінастудый. Гэтаксама як артысты-пачаткоўцы. Рэдка каму шанцуе.

**— А як жа славутая “амерыканская мара”: прыехаў ніадкуль і стаў славутасцю? Сапраўды міф?**

— Гэта можа здарыцца рэальна. Пры ўмове апантанага жадання “выбіцца ў людзі”, настойлівасці ў справе рэкламы сябе і сапраўднага прафесіяналізму. Упарты клерк мае ўсе магчымасці хутка ўзняцца да кіраўніка фірмы. Ды вось хаця б мой уласны вопыт. Прыехала я ў ЗША, практычна не размаўляючы па-англійску, бо нават у школе вывучала нямецкую мову. Спачатку мы пасяліліся ў Нью-Ёрку, дзе адзін немец узяў мяне на працу за 4 долары. А праз шэсць месяцаў зарплата была ўжо 6 долараў. І ўзнімалася б далей, але я сышла ад яго дзеля яшчэ больш выгаднай працы. У Амерыцы прынята ацэньваць старанні і стымуляваць іх. Але працаваць рэальна трэба не пакладаючы рук.

**— Якую літаратуру чытаюць простыя амерыканцы?**

— Вельмі папулярныя кнігі, напісаныя палітыкамі і “зоркамі”. Па такія нават чэргі стаяць. Прагрэсіўная студэнцкая моладзь цікавіцца творамі нобелеўскіх лаўрэатаў. Інтэлігенты і тыя, хто хоча далучыцца да іх надзвычай прэстыжнага кола, лічаць за неабходнае веданне класікі.

**— Якім жа павінен быць рускамоўны пісьменнік, каб яго палюбілі ў Амерыцы?**

— У ідэале — быць як Пушкін. Яго спрабуюць, і даволі ўдала, перакладаць. І пушкінская мелодыка верша добра даходзіць да сэрцаў амерыканскіх чытачоў.

**— І тым не менш выдання кніжак варты не толькі вялікі Пушкін. Як выдаюць свае творы вашы калегі ў ЗША?**

— На ўласныя сродкі. І без усялякага спадзявання, што абавязкова акупіцца. Яшчэ, як ужо гаварылася, літаратар можа заявіць пра сябе праз публікацыю ў літаратурным альманаху. Адзін такі рускамоўны альманах выдаецца ў Каліфорніі. І змяшчаюцца там творы не толькі амерыканскіх рускамоўных аўтараў, але і рускамоўных пісьменнікаў з іншых краін. Каб выдаць такі альманах, мы, члены рускага клуба, збіраем уласныя грошы. Прадаём па магчымасці на вечарах і прэзентацыях. Другі літаратурны альманах выходзіць у Нью-Ёрку. Члены Нью-Ёркскага рускага літаратурнага клуба выдаюць яго на сродкі, сабраныя ад узносаў.

**— Кажуць, у ЗША ёсць творчая арганізацыя, падобная да нашага Саюза пісьменнікаў. Ці не садзейнічае яна выхаду кніг амерыканскіх сучасных літаратараў?**

— Такая арганізацыя сапраўды ёсць. Не ведаю, наколькі і каму яна садзейнічае. Але для таго, каб, напрыклад, мне туды ўступіць, я мушу не менш як тры кнігі выдаць на англійскай мове. Сама я перакласці ўласныя вершы не змагу. А перакладчыцкія паслугі добрых паэтаў каштуюць даволі дорага. Толькі некалькі маіх твораў былі прадстаўлены англамоўнаму чытачу. Але як бы там ні было, я атрымала магчымасць стаць членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. І радуюся гэтай прывітнай усмешцы з радзімы, і ганаруся членскім білетам і значком.

**— Вы знайшлі сябе ў ЗША, сталі пісьменніцай, добра вядомай у пэўных літаратурных колах. Чаго вам не хапае?**

— Мне не хапае маёй радзімы, кавалачак якой я заўжды нашу ў сэрцы. Не ў палітычным сэнсе, а ў духоўным. Не хапае нашай беларускай прыроды (там нават на такіх жа шыротах растуць зусім іншыя бярозкі, сосны ды рамонкі). Не хапае размоў з людзьмі, сябрамі майго юнацтва і маладосці. Нестае майго роднага інстытута, Саюза архітэктараў, добрых усмешак нашых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх цяпер у мяне таксама нямала прыяцеляў. І я ведаю, што гэтага мне будзе бракаваць ужо да канца маіх дзён.

# Лета на старонках «Вожыка»

Алесь НАВАРЫЧ

“Лета! Ах, лета!” — гучыць у вушах голас расійскай прымадонны. І паўстаюць прапахлыя ліпавай квеценню вобразы спякотнага лета і натоўпы турыстаў на задушлівых мінскіх тратуарах. Праўда, частыя, нібыта лонданскія, дажджы гасяць рамантычны настрой, і хочацца пагартаць які-небудзь ілюстраваны часопіс, лёгенькі, з гумаркам. Акурат такі, як ліпеньскі нумар “Вожыка”, у якім на вокладцы стракаціць найпікантнейшы малюнак Пятра Козіча на адпачынкавую тэму. Зрэшты, што вокладка — увесь нумар напоўнены тэмай лета, адпачынку ў бліжнім ці далёкім замежжы з гарачым сонцам, смагай, курортным раманам… “Вожык” нават і рубрыку ўвёў такую — “Ах, лета”, у якой Ганад Чарказян прыводзіць ліст мужа (пераклад з курдскай Казіміра Камейшы) з Поўдня. Яўген Хвалей пад гэтай рубрыкай так і назваў свой вершаваны твор: “Курортны раман”.

Усё ж лета не прычына адмовіцца ад сур'ёзных тэм, якія асвятляе “Іголкатэрапія”. На прыцэл “Вожыка” гэтым разам патрапілі безгаспадарнікі са Жлобінскай птушкафабрыкі і Шчучынскага масласырзавода, якія хімічылі з бюджэтнымі грашыма. Атрымала порцыю смехатэрапеўтычных іголак і начальства Клімавіцкага камбіната хлебапрадуктаў, якое таксама нахімічыла, але ўжо з гербіцыдамі.

“Навіны з МУС: матай на вус” расказваюць пра небяспечныя для жыцця звычайных грамадзян, але ўсё ж камічныя выпадкі з практыкі праваахоўных органаў. Гэта калі, напрыклад, да 82-гадовай бабулькі завітаў беглы зэк, адабраў мільён рублёў і загадаў… сасмажыць яечню. Невядома, чым бы ўсё скончылася, каб ліхадзея не змарыў пасля той яечні сон.

Затое лёгкі і светлы гумар у творах Івана Стадольніка, Паўла Саковіча і Уладзіміра Ермалаева. А ўжо зусім іскрамётны, чыста народны гумар у рубрыцы “Вясёлая пошта”, у якой выступілі са сваім падслуханым і ўбачаным з жыцця Мікола Сіскевіч, Галіна Нічыпаровіч, Мікола Наварыч, Уладзімір Кучмінскі.

Літаратурных матэрыялаў у сёмым нумары не так і шмат, але знайшлося месца, каб аддаць даніну павагі класікам Янку Брылю і Пімену Панчанку — маладымі абодва працавалі ў “Вожыку”.

Часопіс працягвае друкаваць творы пераможцаў “юбілейнага” конкурсу. Гэта гумарэска Тацццяны Дземідовіч “Як бабулька ікрой частавалася” і вершаваны жарт Алены Дзегцяровай “Фядот і крот”.




“Вернісаж” прадстаўляе сталага вожыкаўскага аўтара Уладзіміра Чуглазава. Варта адзначыць, што Уладзімір Уладзіміравіч у свой час завяршыў вучобу ў Віцебскім педінстытуце на мастацка-графічным факультэце дыпломнай работай на тэму гісторыі карыкатуры — другі выпадак за ўсю гісторыю інстытута, калі была абрана падобная тэма. У падборцы карыкатур, якія прадстаўляюць творчасць У. Чуглазава, ёсць, на мой погляд, карыкатура сусветнага ўзроўню. Змест просты, як і ўсё геніяльнае: сядзіць на разгульным вяселлі чалавек за сталом, па якім нібы Мамай прайшоўся, а побач — істота з рагамі і капытамі. Чалавек і пытаецца: “Прабачце, вы з боку нявесты?” Праўда, я падобнага яшчэ не бачыў.

Увогуле малюнкаў у ліпеньскім нумары шмат. Пастараліся і Пятро Козіч, і Вікенцій Пузанкевіч, і Алег Папоў, і Аркадзь Гурскі, і Аляксандр Каршакевіч. Нават ёсць тэматычная старонка з адных карыкатур, прысвечаная медработнікам. Яна так і называецца — “Сцэны медыцыны”.

На заканчэнне варта адзначыць новую рубрыку часопіса — “Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет!” Тут не проста матэрыялы, графічныя і літаратурныя, пазначаныя традыцыйным для сусветнага сеціва смайлікам, але і творча інтэрпрэтаваныя здымкі і ў дадатак да іх — нечакана свежыя, хоць і з інтэрнэту, гумарыстычныя карацелькі.

Да 130-годдзя Янкі Купалы

# У пошуку жыццятворчасці

Пятро ВАСЮЧЭНКА

### “Не хацелася ісці на паклон...”

У аўтабіяграфічных лістах да Льва Клейнбарта (1927 г.) Янка Купала называе пісьменнікаў-сучаснікаў, чыёй творчасцю асабліва цікавіўся. І у гэтым пераліку вылучаюцца імёны літаратараў-сімвалістаў або тых аўтараў, якія аддалі пэўную даніну сімвалізму: Генрык Ібсен, Кнут Гамсун, Герхарт Гаўптман, Станіслаў Пшыбышэўскі, Станіслаў Выспяньскі. Купала працягвае: “Из русских должен отметить М. Горького, который произвёл на меня сильное впечатление. “Бывшие люди”, “На дне” и “Дети солнца” больше всего меня захватили. Потом отдал дань моде и увлёкся, что называется, символистами — Андреевым, Сологубом и др. ...”

*Тэрмін “жыццятворчасць” увёў ва ўжытак А. Белы, аўтар манументальнай працы-эсэ “Сімвалізм”. Паняцце гэтае было блізкае Купалу, бо ён таксама пачуваўся паэтам-дэміургам, якому было наканавана перастварыць Беларусь.*

Мастацкая практыка Купалы красамоўна сведчыць пра тое, што ён не проста аддаў даніну сімвалізму, але стварыў шэраг твораў, дзе сімвалісцкая эстэтыка з’яўляецца канцэптуальнай і стылёвай дамінантай — драма “Раскіданае гняздо”, драматычныя паэмы “Адвечная песня”, “На папасе”, “Сон на кургане”, шэраг вершаў.

Вось што ён згадвае пра асабістыя адносіны з рускімі паэтамі “блокаўскага кола” падчас яго знаходжання ў Пецярбургу (1909 — 1913):

“Пребывание моё в Петербурге в смысле встреч с русскими литераторами мало чем отличалось от Вильны. Таксама увлекался весёлой компанией, которая в смысле духовном мало чего могла дать. Но она, должно быть, давала некоторый жизненный опыт и познание людей. <...> Из петербургских литераторов я, как Вам известно, встречал Вас, но это, на жаль, были редкие встречи, познакомился с А. А. Коринфским, познакомился с ним случайно в кабаке, и всё тут. Более широких знакомств с русскими литераторами не удалось мне тогда завязать, причиной — моя тогдашняя застенчивость, а может быть, и маленькая гордость: не хотелось идти на поклон”.

Мелі месца адаптацыя нікому не вядомага ў сталічных колах аўтара да паэтычнага бамонду, боязь выглядаць правінцыялам або, горш за тое, выклікаць паблажлівае спачуванне з боку прадстаўнікоў развітага пісьменства да маладога паэта-нацыянала, панібрацкае паляпванне па плячы.

Асяроддзе пецярбургскай літаратурнай эліты істотна адрознівалася ад “нашаніўскага”. Спосаб творчага ўзаемадзеяння паміж пісьменнікамі пецярбургскага кола (А. Блок, А. Белы, Вяч. Іванаў, В. Брусаў ды іншыя), дастаткова закрытага, эзатэрычнага, мог падацца Купалу нязвыклым. Самапаглыбленне, містычная экзальтацыя, узаемаабагаўленне прысутнічалі ў гэтым коле, з’яўляліся своеасаблівай нормай быцця літаратурнай эліты.

Беларускі паэт таксама ведаў кошт сабе і свайму прызначэнню, але выказваў гэтае веданне парадаксальным чынам:

*Я не паэта, о крый мяне Божа!*
*Не рвуся я к славе гэткай німала,*
*Хоць песеньку-думку і выcну можа,*
*Завуся я толькі — Янка Купала.*

Гэта не самапрыніжэнне, а спосаб сцвярджэння ўласнай творчай самавітасці шляхам, адваротным ад аўтагіпербалізацыі.

Не супадалі і вобразна-сімвалічныя сістэмы рускага і беларускага сімвалізму. Першы мае відавочную тэндэнцыю да прасторавасці, адлюстравання адносін бязмежнасці, якія ўзнікаюць у асяроддзі бязмерных велічынь.

Прыгадаем сімвалічныя артэфакты, асабліва пашыраныя ў творчасці А. Блока, В. Брусава, Вяч. Іванава: *стэп, поле, тракт, “тройка”, бяроза, пустэльня, скіт, келля, вежа, воля, сцяпная кабыліца,* нават *самавар над безданню.*

А вось купалаўскія ключавыя вобразы-сімвалы: *дом, шлях, кола, вясна, сон, вяселле, Старая і Маладая Беларусь.*

Істотнае разыходжанне назіраецца на ўзроўні канцэптуальнай забяспечанасці кожнай з сістэм. Рускі сімвалізм грунтуецца на падставе пастулатаў новай нацыянальнай філасофіі, падмуркі якой былі закладзеныя У. Салаўёвым, М. Бярдзяевым, Г. Фядотавым ды іншымі блізкімі ім па духу мыслярамі. Новая руская філасофская школа працавала на “рускую ідэю”, звязвала яе эманацыі з этапамі ўніверсальнай хрысціянскай містэрыі.

У той жа час новая беларуская філасофская школа яшчэ не афармілася на ўзроўні трывалых канцэпцый або ідэалагем. Не было яшчэ напісана эсэ Ігната Абдзіраловіча “Адвечным шляхам”. Беларуская нацыянальная філасофія грунтавалася на глебе Асветніцтва, на фоне азарэнняў “нашаніўства”.

У сваім творчым інтуітывізме, у прароцкіх якасцях Купала, безумоўна, салідарызаваўся з шуканнямі рускіх паэтаў-сімвалістаў. Досвед рускай літаратуры ўражваў Купалу амплітудай і “тэмпературай” містычнага пафасу, шырынёй і размахам эксперымента, разгорнутасцю сімвалісцкай метамовы.

Сімвалісты спрабавалі прарвацца скрозь абалонку звыклых рэальных рэчаў і з’яў, каб дакрануцца да інтрыгуючых таямніц Сусвету, дайсці да той мяжы, за якой адбываецца ўзаемадзеянне чалавечага духу з надрэальнымі сіламі.

Трансцэндэнтальны пошук прыводзіў сімвалістаў у нетры першабытнай архаікі, натхняў на міфалагізацыю.

### Прысягаючы на вернасць зямлі

У свой час, параўноўваючы творчасць А. Блока і Купалы, літаратуразнаўца В. Гапава тлумачыла відавочныя паралелі сімвалічным узбуйненнем фальклорна-міфалагічных вобразаў. Параўноўваліся вершы Купалы “Кругазварот”, “Чорны бог” і блокаўскія “Ямбы”, “Балотныя чарцяняты”.

Блокаўскі зварот да міфалогіі, як правіла, звязаны з настроем смутку, цішынёй, матывамі згубленай таямніцы, згадкай пра колішняе, даўно пагаслыя жарсці.

Купалаўскія ж звароты да міфалагічнай аўтэнтыкі, як правіла, споўненыя жарсцю, духам барацьбы, бінарнай вобразнасцю. Хаця і архетып векавечнай, абуджанай, растрывожанай таямніцы таксама прысутнічае ў іх, пра што сведчыць верш “Чорны Бог”.

Фальклорны аўтэнтызм шчыльна звязвае купалаўскую лірыку з паэзіяй В. Брусава. Магчыма, агульная цікавасць абодвух майстроў да таямніц фальклорнай пракавечнасці і абумовіла іх узаемаразуменне падчас сустрэчы ў Вільні ў жніўні 1914 года.

Зацікаўленасць рускага паэта творчасцю Купалы стасуецца з брусаўскім эстэтычным прынцыпам, згодна з якім прызнаваліся самазамкнёнасць і самакаштоўнасць кожнай культуры, разам з яе самабытнасцю і экзотыкай.

Якія вершы Купалы выбраў для перакладу Брусаў? “Як у лесе зацвіталі...”, “На Купалле”, “Адцвітанне”, “У ночным царстве”. Інакш кажучы, тыя, у якіх Купала найбольш выглядае як “прыродны”, схільны да міфалагічнага аўтэнтызму паэт.

Чаму менавіта такі Купала імпанаваў Брусаву — “прыродны”, аўтэнтычны, а не сацыяльны, сялянскі або нацыянальна-каларытны? Варта прыгадаць адну са сталых тэндэнцый эстэтыкі сімвалізму. Яна вяртае да фальклорна-міфалагічнай “глебы”, хтанічных першаасноў, з якіх нараджаўся першабытны сімвалізм.

У свой час В. Брусаў, О. Мандэльштам, Вяч. Іванаў, А. Блок прысягаліся на “вернасць зямлі”, “вернасць рэчам”, хаця і рабілі гэта кожны па-свойму.

Захапленне міфалагічнымі рарытэтамі, халаднаваты акадэмізм, версіфікацыйны экзэрсіс назіраюцца ў самых аўтэнтычных творах В. Брусава — паэтычных цыклах “Песні першабытных плямёнаў”, “Перайманне рускай народнай паэзіі” з кнігі “Сны чалавецтва”.

У паэзіі Купалы язычніцкія артэфакты актуалізуюцца, набываюць драматызм. Апагею ён дасягае ў вершы “У ночным царстве”. Паўстанне душ памерлых падаецца як злавеснае шэсце нябожчыкаў, вось-вось гатовае перарасці ў бунт:

*Ідуць, ідуць... Сярод пустыні*
*Хрусцяць надломаныя косці,*
*І качанеюць ногі ў ціне,*
*І чахнуць вочы ў павуціне,*
*А шлях — як точаныя восці.*

*Перад вачамі глуш нямая,*
*І плач, і скрогат за вачамі;*
*Праклёнце ў жылах кроў сцінае,*
*Душу бяссілле вынімае,*
*Гняце змяінымі кляшчамі.*

### Драма і містэрыя

У рускім сімвалізме Купалу вабіў жыццятворчы характар, імкненне пераплаўляць паэзію на жыццё, алітаратурваць яго. Тэрмін “жыццятворчасць” увёў ва ўжытак А. Белы, аўтар манументальнай працы-эсэ “Сімвалізм”. Паняцце гэтае было блізкае Купалу, бо ён таксама пачуваўся паэтам-дэміургам, якому было наканавана перастварыць Беларусь.

Каб перастварыць жыццё чалавека, яго трэба спасцігнуць. Гэтая думка аб’яднала памкненні рускага сімваліста Леаніда Андрэева і Янкі Купалы.

*У сваім творчым інтуітывізме, у прароцкіх якасцях Купала, безумоўна, салідарызаваўся з шуканнямі рускіх паэтаў-сімвалістаў. Досвед рускай літаратуры ўражваў Купалу амплітудай і “тэмпературай” містычнага пафасу, шырынёй і размахам эксперымента, разгорнутасцю сімвалісцкай метамовы.*

Драматычная “Адвечная песня” (1908) Купалы была створаная пад уздзеяннем п’есы Л. Андрэева “Жыццё Чалавека” (1906). У творах дастаткова паралельных эпізодаў, сугучных матываў. Абодва аўтары стваралі сімвалісцкую мадэль чалавечай экзістэнцыі, ужывалі прыём трагічнай іроніі ў паказе безнадзейнасці чалавечых высілкаў што-небудзь памяняць у быцці.

Пры ўважлівай ацэнцы вынікаў і асаблівасцей уплыву рускага майстра і творчай пераемнасці Купалы пачынаюць выяўляцца моманты разыходжання.

На жанравым узроўні “Адвечная песня” выглядае як прарыў у новы прасцяг, з падключэннем універсальнай вобразнасці, персаніфікацыяй таямнічых сусветных сіл. Андрэеў тварыў драму чалавечага быцця, Купала пісаў містэрыю.

У Андрэева Чалавек паўстае ў іпастасі архітэктара, у Купалы — Мужыка. Вызначаючы лёс Чалавека, андрэеўскі Нехта ў шэрым гартае Кнігу лёсаў. У Купалы лёс змяняецца на *долю,* якую варожаць Мужыку містычныя сілы Сусвету.

Нехта ў шэрым — не толькі чытальнік Кнігі лёсаў; нейкая іманентная магутная воля дазваляе яму ўмешвацца ў ход падзей, запальваць і гасіць свечкі чалавечага быцця, прыводзіць у рух механізм року.

Нехта ў шэрым дзейнічае без праявы нейкіх пачуццяў. Абыякавасць і ледзяны спакой — вось чым ён сустракае нараджэнне і смерць Чалавека, выслухоўвае ягоны праклён. “Тэмпература” ягонага настрою роўная абсалютнаму нулю. Ён сам — прылада ў нечых больш дужых руках.

Інакш адбываецца ў “Адвечнай песні” Купалы, настраёвасць якой зменлівая, дзе раз-пораз прарываецца вонкі чалавечая жарсць, дзе героі весяляцца і смуткуюць усё яшчэ як жывыя людзі і дзе нават творцы чалавечых лёсаў пакуль што здатныя на зразумелыя, чалавечыя пачуцці: спачуванне, смех, зласлівасць.

Постаці Жыцця, Долі, Бяды, Голаду і Холаду, што варожаць над калыскай дзіцяці ў праяве “Хрэсьбіны”, нагадваюць пра адпаведны абрад, што існаваў яшчэ ў дахрысціянскія часы. Перад калыскаю немаўляці збіраліся, нябачныя, Рожаніцы — славянскія Мойры — і прарочылі долю дзіцяці.

Па-рознаму трактуюць аўтары ключавы вобраз-сімвал *падвойнага кола.*

У “Жыцці Чалавека” — гэта нараджэнне, дзяцінства, сталасць, старасць і смерць і — вобразна-сімвалічная паралель — гарэнне свечкі, якую Нехта ў шэрым запальвае, калі Чалавек нараджаецца, якая разгараецца зыркім агеньчыкам, але мізарнее і чэзне, калі справы Чалавека прыходзяць у заняпад. Нарэшце Нехта ў шэрым гасіць свечку і абвяшчае: “Чалавек памёр”.

У Купалы дзяцінства, сталасць і старасць Мужыка атаясамліваюцца з порамі году, з прыродным колазваротам. Падвойнае кола замацавана цыклічнай архітэктонікай твора.

Абвёўшы свайго цэнтральнага персанажа падвойным колам, абумоўленым цыклічнасцю сусветнага часу і чалавечага жыцця, Купала рыхтуе для яго прарыў з палону зямнога існавання. Гэта адбываецца пасля смерці героя, на могілках.

Мужык пасля паўстання з мёртвых адмаўляецца, раз і назаўжды, ад вабнасцей зямнога жыцця:

*Не міла мне слухаць, не міла*
*З зямлі маёй гэткі прывет.*
*Раскрыйся нанова, магіла:*
*Страшней цябе людзі і свет.*

Пры ўсёй жудасці, трагічнай іроніі такога прызнання яно мала чым падобнае да “страхаў” Л. Андрэева, якімі прасякнуты кожны атам рускага мастацкага свету. Зямная стыхія ў “Адвечнай песні” — з’ява дуалістычная; яна мае сваю таямніцу-трансцэндэнцыю, куды нават зазірнуць вусцішна. Але зямля — стыхія вітальная. І ў тым, што падвойнае кола замкнулася і вакол лёсу нашчадкаў Мужыка, можна расчытаць не толькі маргінальныя, але і вітальныя сэнсы.

Бо ў ворыве, сяўбе як дзеяннях, звязаных з зямлёй, няма маргінальнага пачатку, бо праца дае парастак новаму жыццю. У “Адвечнай песні” Доля імкнецца прынізіць плён чалавечай працы, і аўтар нібыта салідарызуецца з гэтым прыніжэннем. І вось ужо ў паэме “Яна і я”, самым сонечным і жыццярадасным з твораў Купалы, сялянская праца набудзе рысы сакральнага дзеяння і атрымае ад Долі бласлаўленне.

Змест драмы “Жыццё Чалавека” стаўся змрочна прарочым і антыкрэатыўным у дачыненні да лёсу яго стваральніка. Гэтаксама як і ягоны герой, Леанід Андрэеў перажыў перыяд шумнай папулярнасці і славы, а скончыў жыццё занядбаны і забыты сваімі прыхільнікамі, у глухой фінскай вёсачцы.

Лёс Купалы не ёсць лёсам Мужыка. Мадэль жыцця Купалы — ікарыйская, гэта гісторыя ўзлёту, адрыву ад зямной будзённасці, спыненага палёту, падзення. Яна таксама прадказаная ў лірыцы і драматургіі песняра.

Але Купала прадказваў і іншае: лёс беларускага нацыянальнага адраджэння, грамадска-палітычнай мэтай якога была дзяржаўная незалежнасць. Пакручасты шлях да яе ў сімвалічнай форме прадказаны ў купалаўскіх творах.

Вопыт рускіх літаратараў-сімвалістаў шмат у чым стымуляваў унутраную гатоўнасць Купалы да жыццятворчасці. Купала стварыў матрыцу нацыянальнага адраджэння і будучай Беларусі.

# Ствараць гармонію

**Памятаеце, у М. Горкага: "У Беларусі ёсць два паэты: Янка Купала і Якуб Колас — вельмі цікавыя хлопцы! Так… проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нам бы трошкі такіх якасцей. О божа! Вось бы добра было!"**



***Уладзімір* НАВУМОВІЧ**

Купала пачынаў з верша пра вёску і мужыка, пра спадчыну, якой для паэта была "старонка родная", Колас пісаў пра "сяло і што робіцца ў ім". "Я маю гонар быць вясковым…" — напісаў Сяргей Карыцька, уклаўшы ў гэтыя словы не толькі захапленне ўсім тым, што яму з маленства стала родным, дарагім, любым сэрцу, але і ўсведамленне, што яму ёсць што сказаць. Пры гэтым паэт выказвае высокае жаданне — "хачу заўсёды з Небам гаварыць", шчыра прызнаецца: "для цябе збярог пяшчоту…" Гэтаю пяшчотаю і прасякнуты зборнік "Зачараваны родным краем". Праз уласны жыццёвы досвед, хваляванні душы, напружаную працу розуму аўтар прыходзіць да "зачараванасці родным краем", да паглыбленага філасофска-канцэптуальнага абагульнення жыцця і лёсу асобнага чалавека. Менавіта такія творы пра перажытае, але не забытае ў многім раскрываюць нацыянальны характар, фарміруюць уяўленне пра адметнае аблічча беларусаў і Беларусі.

Вершы С. Карыцькі вылучаюцца прастатой, але не спрошчанасцю, непадробнасцю пачуццяў, шчырасцю выказвання. "Каб быць зразуметым, не трэба хітрыць", — кажа паэт у вершы.

С. Карыцька ўпэўнены, што можна "ў кожным імгненні знайсці прыгажосць", што "жыццё — падарунак", "за гэта і дзякуем Богу". Аўтар разумее высокую місію мастацтва слова, маральную адказнасць творцы перад чытачом.

*Я хачу быць патрэбным*
*для сям'і і краіны,*
*Для сяброў і знаёмых,*
*для калег і дзяцей,*
*Я хачу быць упэўненым*
*ў кожнай хвіліне,*
*Што жыву не дарэмна*
*ў гушчы розных падзей.*

Аўтар выказвае ўласнае тонка-лірычнае, але эпахальна-маштабнае пачуццё: *"Я хачу быць патрэбным сонцу, месяцу, зорам, // Лету, восені, зімам і, вядома, вясне"*. Міжволі прыгадваюцца радкі Ярослава Смелякова: "Если я заболею, к врачам обращаться не стану, обращаюсь к друзьям, не сочтите, что это в бреду, постелите мне степь, занавесьте мне окна туманом, в изголовье поставьте ночную звезду". Усё, што роднае і блізкае, што дорага змалку, лечыць, дапамагае тварыць. І толькі тады чалавек стане здаровым, калі натоліцца сілай роднай прыроды, набярэцца яе моцы.

*Азірнуся навокал,*
*колькі шчасця і гора,*
*Колькі твараў з усмешкай,*
*колькі твараў хмурных.*

Паэт чуйны да чалавечых турбот, бед, радасцей, скрухі, весялосці, ён увесь — у роздуме над часам і сабой. У вершаваных радках гучыць шчымлівы роздум пра рэаліі нашага хуткаплыннага і зменлівага часу: *"У бясконцай пагоні за доўгім рублём // Нам часу вярнуцца дамоў не хапае", "Нам не хапае шчырасці ў жыцці", "Памірыць нас, вядома, розум, // Ну і, галоўнае, давер"*.

Паэзія Сяргея Карыцькі — паэзія даверу, веры ў Асобу, пазнанне сябе ў свеце і свету ў сабе. Свет бачыцца паэту не ілюзорна-саладжавым, падфарбаваным ці прыцемненым, зарэтушаваным, але кантрасным, шматфарбным, праблемным. Вершы — субяседнікі, творы-сумненні, радкі-адкрыцці.

С. Карыцька — паэт ад прыроды. Яго вершы выпакутаваныя, народжаныя сапраўднымі хваляваннямі душы. Паэт шмат перажыў, настойліва шукаў свой шлях у жыцці, змалку працаваў, пастаянна вучыўся, "выбіваўся" ў людзі.

Нарадзіўся С. Карыцька ў глухім куточку палескага краю, у Столінскім раёне. Адсюль і гэтае пачуццё: "Маю гонар быць вясковым". Хлопчыку не было яшчэ і двух тыдняў, а ён ужо страціў бацьку, выхоўвалі яго маці, дзед, старэйшыя брат і сястра. З сёмага класа пачаў пісаць вершы. Далей — вучоба на выдатна ў Гродзенскім медыцынскім інстытуце, пасада лекара ў вёсачцы Парэчча бліз Ясельды ў Пінскім раёне, вучоба ў Мінску, праца ў Аксакаўшчыне, якой аддаў 23 гады. Сёння Сяргей Сяргеевіч — галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра медыцынскай рэабілітацыі і бальнеалячэння. Заслужаны ўрач Рэспублікі Беларусь, кандыдат медыцынскіх навук.

У творчасці С. Карыцькі паэзіі "пад настрой", "на выпадак", "па заказе" супрацьпастаўляюцца вершы глыбокага філасофскага гучання, якія вучаць цаніць жыццё, радавацца звычайнаму чалавечаму шчасцю, верыць у сябе і свае здольнасці.

У паэме-трактаце Н. Буало "Поэтическое искусство" сказана:

*Учите мудрости в стихе*
*живом и внятном,*
*Умея сочетать полезное*
*с приятным.*

Так і творыць натхнёны паэт і паважаны доктар С. Карыцька.

"Свет альбомных вершаў" Сяргея Карыцькі даволі разнастайны, прачулы, глыбокі. Ягоныя прысвячэнні, юбілейныя творы лёгка "разыходзяцца" на цытаты, запамінаюцца, кранаюць сэрца і бяруць за душу, уражваюць. *"Смяяцца нельга навучыцца", "На жаль, жыццё нам выдана без дубля, // Як перадача ў прамы эфір", "Калі на шлях жыццёвы азірнуцца — // На той зямлі, дзе маладосць прайшла, // Гады мінулі, свет перавярнуўся, // Ды толькі не змянілася душа"*.

Душа паэта раскрываецца найбольш поўна і глыбока ў вершах пра каханне. *"Бо здольнасць шчыра, хораша кахаць — // Нам на Зямлі ад Бога падарунак"*. Каханне ў паэта — самакаштоўнае пачуццё, якое ўзвышае душу і ўзбагачае розум. Вершы вяртаюць чытача да рэальных перажыванняў, тояць у сабе глыбінную эстэтычную асалоду, чытаючы іх, адчуваеш, што інакш нельга сказаць, паэт знаходзіць тое адзінае — самае трапнае — слова.

# Пошчак спелага натхнення

***Зоя* КАЛКОЎСКАЯ**

*Я не раскіну іх па полі розна,*
*Вяду, наколькі ўмельства мне*
*стае, —*
*Вясновыя, шырокія барозны,*
*Наднёманскія родныя мае.*
*Не ў роскідку, а ўсклад вяду я ніву,*
*І глянь, што дзень — жывая*
*баразна.*
*Трымаю плуг я моцна, каб шчасліва*
*Шырэў мой склад ад рання да цямна.*
*А ворыва сваё люблю я кроўна,*
*І гэтак, як і ў першую вясну,*
*Я перад сконам буду весці роўна*
*Апошнюю на ніве баразну.*

Такі шчыра-велічны ў сваёй мудрай прастаце верш мог напісаць толькі паэт, чыё натхненне спялілася на ніве народнай культуры, у самай гушчы натуральнага вясковага жыцця пад бязмежным блакітам неба Бацькаўшчыны. І гэты паэт — наш зямляк Канстанцін Шавель. "Жывая баразна" яго паэзіі роўная, вольная і змястоўная. Пошчак спелага натхнення, які запаланіў яго душу з дзяцінства, — гэта жывая музыка родных рэк, лугоў і палёў, лясоў і ўзлескаў, світанкаў і заходаў сонца, стваральнай працы на зямлі продкаў.




Нялёгкім быў лёс паэта, але ў яго творчасці амаль не знойдзеш трагічных нотак. Гэта адметная рыса яго натуры, яго стаўлення да самога сябе. На такое здольныя толькі асобы з трывалым падмуркам душы.

Змалку Кастусь увабраў хараство туманных світанняў *("патухлі ў небе гронкі зорак, // усход пульсуе і жыве")*, матчынай мовай *("Словы родныя! // Як жа іх шчыра тады ў дзяцінстве // дарыла з пяшчотаю маці мне!..")*, цудадзейных пахаў маленства: *("Хлебны пах стаіць над нівамі… // І здаецца, ў сіняве // над палямі зіхатлівымі // месяц боханам плыве", "Лугавой ішоў сцяжынай, // чабаровым пахам дыхаў…")*, штодзённых сялянскіх клопатаў *("І такой прыемнай стомай // дзень працоўны быў завершан. // Адвячоркам я дадому // нёс у сэрцы поўна вершаў")*. Яго чуйны слых улавіў, *"…як гулка ў жнівеньскі дзень // залатым зернепадам прастора гудзе"*. Мастак падгледзеў, як *"…адмыкала вясна жураўліным ключом // сваё царства зялёнае // з сонцам і зорамі"*, як *"…дымілі духмяным прыпарам палі, // на прасторы шырокія сейбітаў клікалі…"*, *"…сонца рэчку гайдала агністым вяслом, // глыбіню цёмнай тоні праменнямі мерала"* і — *"…нараджалася песня…"* Ніводная драбніца жыцця не пазбягала пільнай увагі мастака:

*Прыгажун зеленаполы —*
*Ходзіць ліпень наш па свеце.*
*Апранае горы, долы*
*І лугі ў траву і квецень,*
*Медуніцай пахне шчодра,*
*Сонцам пырскае — ну й дзіва!…*
*А то возьме ў рукі вёдры —*
*Палівае шчодра нівы.*
*Росны, чысты, раннем свежым*
*Звоніць косамі ў залужжы*
*І стагі, што тыя вежы,*
*Над ракою ставіць дружна.*
*За крыніцай цёхне зычнай*
*Салаўінай трэллю-гамай,*
*Песняй "Рэчыцкай лірычнай"*
*Праплывае над лугамі.*

Вобразна-метафарыстычнае ўяўленне паэта настолькі багатае, дар пераўвасаблення такі магутны, што ён бачыць, як *"Лоша сніць казкі спелага бору // — весні гул і зімовы спакой"*, як *"…уласным жарам над вадой // каліна саграваецца"*, *"а па дарогах — цуг машын, // шафёры-завадатары // тут сотні сонц на шкле кабін // вязуць на элеватары"*.

У шматлікіх сваіх вершах Кастусь Шавель часта падкрэслівае: *"…у вандроўных шляхах і на працы песню ў сэрцы заўжды нашу"*. І гэта не проста словы, гэта праўда, засведчаная змястоўнымі таленавітымі кнігамі паэта: "Мой кут салаўіны", "Музыка нівы", "Пахне бяроста", "Цалуйце хлеб", "Асеннія пракосы". Кніг было б значна больш, калі б хоць крышку злітаваўся над паэтам лёс. Але і таго, што ёсць, дастаткова, каб сказаць: на нашай зямлі жыў выдатны чалавек, выдатны паэт. Даўно пара выдаць зборнік вершаў паэта, назваць яго імем вуліцу ці школу, хаця б у яго роднай вёсцы Кухцічы Уздзенскага раёна. А калі беларускія кампазітары звернуць увагу на песеннасць яго паэтычнага радка — упэўнена, атрымаюцца новыя цудоўныя песні.



Змітрок Марозаў

* * *

*Знаёмыя змалку прасёлкі.*
*У зацені вербаў рака.*
*Трымціць пад дугою вясёлкі*
*Самотны званок жаўрука.*
*Заблытаўся ў жыце вятрыска,*
*Знямогся і ціха прылёг...*
*Язбы — маёй долі калыска,*
*Радзінны вузельчык дарог.*

* * *

*Над пагостам вечар шызакрылы.*
*Продкі спяць, не трэба іх будзіць...*
*Дай мне хлеба, родная магіла,*
*Каб душэўны голад спаталіць.*
*"Дзе ж ты быў? — магіла запытала, —*
*І чаму не ехаў да мяне?*
*Я цябе, здаецца, век чакала, —*
*Бацькаў хлеб пад крыжам скамянеў!"*

* * *

Светлай памяці
скульптара У. Жбанава

*Пайшоў на неба ў студзені сцюдзёным,*
*Пакінуўшы без жалю грэшны свет...*
*Самотная "Дзяўчынка з парасонам",*
*Ля ног вяргіняў сплаканых букет.*
*Хто вас прынёс, запозненыя кветкі?..*
*Драпежыць сэрцы лютая зіма.*
*Стаіць дзяўчынка сумная на сцюжы,*
*А ў позірку: "Няўжо яго няма?"*

### Формула жыцця

*Жыццё чалавека нагадвае бег па крузе.*
*Амаль кожны з нас лічыць сябе цэнтрам*
*Сусвету,*
*Хоць і круціцца вакол уласнага "Я",*
*Як вавёрка ў коле, ад нараджэння*
*да смерці,*
*Пакідаючы пасля сябе*
*Плойму незадаволеных родзічаў*
*і нашчадкаў.*

* * *

*"Чалавечы твар — душы люстэрка!" —*
*Нехта мудры некалі сказаў...*
*Кожны дзень вось гэтай строгай меркай*
*Я на людскасць душы вывяраў.*
*Лепшыя надзеі згаслі. Мары*
*Адцвілі ў будзённым тлуме спраў...*
*Сустракаў я шмат прыгожых твараў,*
*Ды часцей аб гэтым шкадаваў.*

### Успамін

*Калі цябе таксі начное*
*Павезла ў цемрадзь ад мяне,*
*Тваё каханне незямное*
*Свяціла зоркай у акне*
*Мне аднаму...*
*Ды на світанні*
*Яна патухла назаўжды...*
*Мільгнула знічкаю каханне —*
*Святло ж ліецца праз гады.*

* * *

*Начую на яблычнай дачы,*
*Купаюся ў зорнай цішы...*
*Я ў горадзе зорак не бачу,*
*Таму так самотна душы.*

* * *

*Кажуць: "У краіне Кахання*
*Няма месца злу і падману,*
*Двурушнасці і здрадзе,*
*Нахабству і сквапнасці,*
*Бяздушшу, дурноце і гвалту..."*
*Толькі хто мне пакажа краіну Кахання*
*На здрапежанай карце свету?*

* * *

*Вачэй блакітныя азёры,*
*Бель ільняная валасоў...*
*Я развітаўся з вамі ўчора,*
*А сёння прагну бачыць зноў.*
*Каб мілаваць да хмельнай зморы*
*У залатой калысцы сноў*
*Вачэй блакітныя азёры,*
*Бель ільняную валасоў.*

* * *

*Што са мною будзе — не гадаю,*
*Не лічу пражытых зім і лет...*
*З кожным лістападам паміраю,*
*З маем нараджаюся на свет.*
*А калі мяне завейны вечар*
*Павядзе аднойчы за сабой,*
*Ты скажы мне ціха: "Да сустрэчы.*
*Да спаткання хуткага вясной".*

* * *

*Калі цябе няма побач, мне сумна.*
*Тады нават самы сонечны дзень*
*Здаецца шэрым і слотным.*
*І наадварот, калі ты са мной,*
*Самы шэры і слотны дзень*
*Напаўняецца рамонкавым святлом*
*Тваёй невычэрпнай жаночай пяшчоты.*
*Па-за межамі майго разумення*
*Таямніца твайго існавання:*
*Калі ты побач са мной*
*Ці калі цябе няма?*

* * *

*Што ж ты, мама, не звоніш так доўга?*
*Як жывеш і прыедзеш калі?..*
*Я малюся, не верачы ў Бога,*
*Каб хваробы цябе абышлі.*

*Ты адна. Адзінота, як драма,*
*Сам пазнаю яе праз гады...*
*Часам хочацца плакаць мне, мама,*
*Так, як плачуць малыя заўжды.*

*Мне б вярнуцца ў дзяцінства дазвання,*
*Не наяве — у сонечным сне,*
*Каб адчуць, як да самага рання*
*На руках ты люляеш мяне.*

* * *

*Шукаў я ісціну ў жыцці,*
*Як цуда-зернятка ў асці...*
*Пражыта цэлае жыццё, —*
*Памылкі джаляць, як асцё!*

* * *

*Не веру хвілінным прызнанням,*
*Што паляць агонь пачуцця...*
*Маўчанне — малітва кахання,*
*Каханне — малітва жыцця.*



**Фота Кастуся Дробава**



Генрых Тарасевіч

* * *

*Зацвіў у жыце яркі васілёк*
*На ўскрайку поля,*
*ля маленькай вёскі.*
*І кожнаму прыкмецяцца здалёк*
*Ягоныя блакітныя пялёсткі.*

*Вакол суквецця кружацца чмялі,*
*Стракозы зранку ладзяць карагоды*
*І песцяцца гарэзы-матылі*
*Пад шатамі карміцелькі прыроды.*

*Не ведаючь, што прыйдуць халады,*
*Зямлю астудзяць — зніклуць і сляды*
*Таго, што іх карміла, зберагала.*

*Вось так і людзі ў тлуме дробных*
*спраў*
*Ідуць у Вечнасць. Мала хто спазнаў*
*Тварца Законы. Што*
*перашкаджала?*

* * *

*Дзе ты, даўняя каханка*
*Тых няўрымслівых гадоў?*
*Як прыпомню лаўку ганка —*
*Замірае сэрца зноў!*

*Недатклівая ажына*
*Для другіх, ды не са мной,*
*Ганарлівая дзяўчына,*
*Незабыўны вобраз твой.*

*Дзе ты, зграбная літвінка,*
*Далікатны першацвет?*
*Пралягла між нас сцяжынка,*
*Час прайшоў, стаў іншым Свет.*

*Аўкштайція, Сувалкія,*
*Жмудзь, суседка Дзукія…*
*Ўся Літва — шляхі зямныя,*
*Быль студэнцкая мая!*

### Памяць

*Чаму так сумна на душы*
*Бывае часам вечаровым?*
*Спадаюць думкі у цішы*
*Трывожным колерам пунсовым.*

*Цямнее неба… У акне*
*Мільгаюць вулічныя цені.*
*Прыходзяць мроі да мяне,*
*Для жартаў здатныя найменей.*

*Чаго ж хвалюецца душа,*
*З якой вядомай ёй прыкметы?*
*Куды звядзе жыцця шаша –*
*Да марнай ці сапраўднай мэты?*

*Турбуюць думкі, ці ўсё змог*
*З таго, што Бог табе адмераў?*
*Ці ў сэрцы ты цяпло зберог*
*І сэнс жывой Хрыстовай веры?*

*Пражыў палову — што з таго,*
*Чым, зрэшты, можаш*
*ганарыцца?*
*Але ж і гонар… Без яго*
*Магчыма жыць і не журыцца.*

*…Мінаюць твары землякоў,*
*Бацькоў, калег, сяброў,*
*знаёмых.*
*Згадаеш іх, а сэрца зноў*
*Натуе вобразы чарговых.*

*О памяць, — супярэчны дар,*
*Злучэнне дум, трывог, пакуты.*
*Падзеяў дбайны гаспадар,*
*К табе навек і я прыкуты.*



Галіна Загурская

### Глядзяць валошкі…

***Рандэль***

*Глядзяць валошкі на мяжы*
*Тваімі любымі вачамі,*
*Якія сняцца мне начамі,*
*А ты знікаеш у імжы.*
*І памяць шэпча: "Беражы*
*Ўсё тое, што жыло гадамі…"*
*Глядзяць валошкі на мяжы*
*Тваімі любымі вачамі.*
*А ў лесе пахне верасамі,*
*І на жытах налёт іржы,*
*Жніво ідзе на віражы,*
*І сад напоўніўся пладамі.*
*Глядзяць валошкі на мяжы…*

### У спякотны дзень

*Плюшч хістаецца сонны*
*Пад спякотаю дня.*
*Прымарыўся сасоннік,*
*Мох самлеў каля пня.*

*Нахіліўся і колас*
*З васільком на мяжу —*
*І паціху, не ўголас,*
*Просяць з высяў дажджу…*

*Як падслухаў — з размаху*
*Дождж у бубен забіў*
*Па дарозе, па даху*
*І прабег сярод ніў.*
*Адшумела ваколле*
*Пад гарэзай-дажджом,*
*І вясёлкі паўкола*
*Села краем на дом.*

### Рака жыцця

***Рандэль***

*Бягуць імгненні разам з намі*
*Ў раку гадоў жыцця-быцця,*
*Яны імкнуцца да зліцця*
*І з вечнасцю, і з салаўямі,*
*Што цешацца вясною з намі,*
*Спяваючы да забыцця.*
*Бягуць імгненні разам з намі*
*Ў раку гадоў жыцця-быцця,*
*Каб дзіўна поўніць ночы снамі,*
*Што ад быцця і небыцця…*
*І покуль прагнем мы жыцця*
*Ды цешымся яго дарамі,*
*Бягуць імгненні разам з намі…*

*Паралелі*

# Аснова вершаў — пачуцці

**Вершы Эвы Панізнік з Гданьска — добры прыклад сучаснай польскай паэзіі. Два гады таму дзяўчына атрымала ступень бакалаўра польскай філалогіі ў Гданьскім універсітэце, не так даўно скончыла аддзяленне рускай філалогіі і атрымала спецыяльнасць журналіста і выкладчыка рускай мовы. А яшчэ — была на стыпендыі ў Маскве ва ўніверсітэце імя А. Пушкіна, выдала зборнік вершаў, правяла шмат сустрэч з чытачамі… Наша ўвага да творчасці Эвы зусім не выпадковая. У гэтай гутарцы мы не толькі хочам даведацца, ці лёгка маладому творцу знайсці дарогу да шырокага чытача ў Польшчы, але і дазнацца пра некаторыя адметнасці сувязі лёсу паэткі з нашай краінай.**

Марына ВЕСЯЛУХА



**— Эва, я ведаю, што гісторыя вашай сям'і непасрэдна звязана з Беларуссю.**

— Так, мой бацька нарадзіўся ў Беларусі, на Мёршчыне. І хоць у нас многа сваякоў у Беларусі, мы лічым сябе палякамі. У вёсцы Ідолта, дзе ў касцёле хрысцілі майго бацьку і іншых членаў маёй сям'і, я ніколі не была, але вельмі хачу яе наведаць.

**— Вы адчуваеце духоўную блізкасць з Беларуссю, чытаеце творы нашых пісьменнікаў?**

— Краіны Усходняй Еўропы, іх мова, культура мне вельмі цікавыя. Апроч таго, я чула, што ў Мёрскім раёне яшчэ жывуць палякі. Я слаба ведаю творчасць беларускіх аўтараў, але мне вельмі спадабаліся вершы Вальжыны Морт у перакладзе на польскую мову Адама Паморскага. Яе паэзія вельмі эмацыянальная. На жаль, тут, у Польшчы, мы мала чуем пра беларускіх аўтараў.

**— А каго з пісьменнікаў лічыце сваімі літаратурнымі настаўнікамі? Хто паўплываў на станаўленне вашай індывідуальнасці?**

— На маю творчасць у асноўным паўплывалі польскія паэткі Халіна Пасьвятоўска, Малгажата Хілар, Эва Ліпска. Але, прызнаюся, прозу чытаю часцей, чым паэзію. Апошнім часам усё больш увагі звяртаю на сучасную рускую літаратуру — Аксёнава, Пялевіна, Ерафеева. Але яна не ўплывае на тое, як я пішу.

**— Часта пісьменнікі ў творчасці арыентуюцца на патрэбы пэўнай аўдыторыі. А вы каго лічыце сваімі асноўнымі чытачамі?**

— Складана сказаць. Мая паэзія лічыцца жаночай, таму што я шмат пішу пра пачуцці, эмоцыі, перажыванні, праблемы жанчын. Але ўсё ж такі многія мае чытачы — мужчыны. На мае вершы напісана некалькі рэцэнзій, аўтарамі якіх былі менавіта мужчыны. І, як ні дзіўна, іх водгукі былі вельмі добрыя.

**— Сустрэчы з чытачамі часта праводзіце?**

— Такія чытанні бываюць 10 — 15 разоў на працягу года. Звычайна яны праходзяць у бібліятэках ці пабах, рэстаранах. Удзельнікамі становяцца людзі рознага ўзросту, яны задаюць шмат розных пытанняў. Я вельмі люблю сустракацца з чытачамі, але гэта для мяне вялікі стрэс і шмат эмоцый.

**— Яны могуць стаць штуршком, прынесці натхненне для напісання новых твораў?**

— Так, але часцей на творчасць мяне натхняюць уласныя перажыванні, часам сітуацыі вакол мяне, месцы, у якіх бываю, людзі, якія сустракаю.

**— У мінулым годзе пабачыла свет ваша кніга вершаў. Ці добра яна прадалася? А ў цэлым, маладому аўтару ў Польшчы лёгка выдаць уласную кнігу?**

— У нашай краіне праводзіцца шмат літаратурных конкурсаў, узнагародай на якіх з'яўляецца выданне кнігі. Але гэта не такая простая справа, як падаецца на першы погляд. Аўтар павінен вельмі добра пісаць, бо на кожны конкурс прыходзіць шмат твораў, нават некалькі тысяч, а пераможцам становіцца адзін. Мой зборнік прадаўся добра, але я не зусім задаволена. Мне не падабаецца спосаб выдання кніг, калі я не магу ўплываць на працэс падрыхтоўкі. Апроч таго, ужо прайшло трохі часу, і цяпер я дала б для кнігі зусім іншыя тэксты.

**— А які тыраж лічыцца аптымальным для кнігі паэзіі? Выдаўцы падтрымліваюць маладых аўтараў?**

— Усё залежыць ад дамовы з выдавецтвам, ад таго, колькі вершаў у кнізе і ад сумы грошай на яе выданне. Але часцей за ўсё гэта некалькі соцень асобнікаў. Што да падтрымкі, то яе часцей аказваюць арганізатары конкурсаў, спонсары, а не выдавецтвы.

**— Пераклады вашых вершаў ужо выходзілі ў Беларусі. Іх аўтар — Сяргей Панізнік…**

— Так, і пераклады мне падабаюцца нават больш, чым мае арыгінальныя тэксты (*смяецца*). Спадзяюся, у мяне будзе магчымасць выдаць кнігу перакладаў у Беларусі.

**— Падзяліцеся, калі ласка, сваімі планамі на будучыню.**

— Заканчэнне вучобы, падарожжы (у першую чаргу ў Беларусь), праца над новым зборнікам вершаў.

*Прэзентацыя*

# У вады няма адпачынку

**Аднойчы далучыўшыся да яе радка, які пульсуе, нібы жылка на скроні чалавека, ніколі не ўпусціш магчымасць прачытаць яшчэ нешта з твораў гэтага аўтара. У новую кнігу Алены Брава з парадаксальнай назвай "Имя Тени — Свет" (РВУ "Літаратура і Мастацтва", 2012) увайшлі аповесці і апавяданні, са многімі з якіх ужо знаёмы ўважлівы чытач перыядычнага друку, — "Рай давно перенаселён", "Ясным утром в Пинар-дель-Рио" і іншыя.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Вобразы жанчын, створаныя пісьменніцай, вельмі выразныя. Аб'яднаныя яны гатоўнасцю штохвілінна ахвяраваць сабою — і не толькі дзеля блізкіх людзей. Ларыса, якой лёсам было наканавана выйсці замуж за немца, атрымлівае ў "пасаг" яго хворага бацьку Ганса, што пакутуе на хваробу Альцгеймера. Ён — адзін з тых фашыстаў, якія тапталі яе радзіму. Аднойчы яна знаходзіць дзённік сямнаццацігадовага салдата вермахта — і гэта пераварочвае яе жыццё (аповесць "Прощение").

З годнасцю выносіць побытавыя цяжкасці і здраду мужа гераіня аповесці "Комендантский час для ласточек", якую студэнцкае каханне прывяло з Беларусі на Кубу. Побач з ёю — такія ж "інтэрпапялушкі", якіх яна параўноўвае менавіта з ластаўкамі, здольнымі будаваць гнёзды не з галінак, а з бруду і зямлі, ляпіць іх дзе заўгодна і гадаваць дзяцей у любых умовах.




Гераіні Алены Брава — тонкія натуры з вялікім сэрцам. Нібыта мужныя алавяныя салдацікі, яны кідаюцца ў вогнішча жыцця, не разлічваючы на тое, што хтосьці заўважыць, як балюча ім самім. Сам-насам са сваёй фобіяй змагаецца знешне паспяховая Вікторыя ("Имя Тени — Свет"), не любімая сваёй маці, намагаецца знайсці апраўданне яе таксама нешчасліваму лёсу гераіня аповесці "Рай давно перенаселён", знаходзіць сілы жыць хворая на анкалогію Валянціна, бо без яе прападзе сын, што дрэнна ўпісаўся ў сённяшнія рэаліі… ("Змея, покрытая перьями птицы Солнца").

Прачытаўшы кнігу, вы не зможаце адкласці яе ўбок. З'явіцца жаданне вяртацца да старонак, гартаць, выхопліваць радкі. Шукаць разам з аўтарам адказу, які жа прыняць свой лёс, калі выпала нарадзіцца жанчынай, што азначае наканаванне пакутлівай і самаахвярнай любові. "…Вода без отдыха поит деревья, цветы и травы. Без неё они не могли бы расти. Нужна ли эта непрерывная работа самой воде? И когда она отдыхает?"

*У падтрымку чытання*



### Мастак Сяргей Волкаў:

## "Адстаяў чаргу па аўтограф Велера"

— У адрозненне ад маіх унукаў, чытаць я навучыўся сам. Камп'ютар з процьмай усялякіх гульняў і трансформеры, якія можна круціць да бясконцасці, не спрыяюць чытанню.

А ў мяне тады такіх гульняў і цацак не было. Сястра Іра пайшла ў першы клас, я садзіўся насупраць, калі яна рабіла ўрокі, і чытаў дагары нагамі буквар. Калі давялося перагарнуць кніжку — прыйшлося пачынаць чытаць спачатку. Да першага класа перачытаў усе рускія народныя казкі, якія былі ў доме. На бацькоўскім сходзе ў першым класе настаўніца Вольга Уладзіміраўна маму ўшчувала: "Сярожу на ўсіх занятках сумна. Відаць, ён не хоча вучыцца. Мы чытаем казкі, а ён ніяк не рэагуе". На што маці адказала, што ўсе гэтыя казкі я не толькі чытаў, але і на памяць ведаю, таму мне і нецікава. Вось казкі і ілюструю дасюль. З аздобленых толькі для дзяцей на маім рахунку — 300 кніжак.

Да юбілею Багдановіча асобна прапанаваў дырэктару выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Тацццяне Бяловай выдаць казку "Мушка-зелянушка і Камарыкнасаты тварык". Я чытаў яе ў 1947 — 1949 гадах. Гэта была адна з першых каляровых кніжак, выдадзеных пасля вайны. І выдавецтва падтрымала гэту ідэю. Да 20-годдзя СНД аформіў зборнік казак. Падабралі па тры-чатыры казкі кожнай краіны садружнасці.

У падлеткавым узросце ўсё чытаў "ад і да" — тады не было скарочаных варыянтаў накшталт "Войны и мира" на 90 старонках. Апрача праграмы — а гэта была сярэдзіна 1950-х — мне далі томік Зошчанкі без вокладкі і тытульнай старонкі, каб ніхто не здагадаўся, які гэта аўтар (ён тады быў забаронены). Я праглынуў адным махам і быў у шалёным захапленні. Потым Ільфа і Пятрова "Золотой телёнок" (аўтары таксама былі забароненыя) — і таксама ў захапленні. "Тата! Гэта ж такія кнігі!" Той мне ў адказ: "Я ўсё гэта чытаў яшчэ ў 1930-я гады". Цяпер падсунуў сваёй дванаццацігадовай унучцы. Яна перыядычна прыбягае да мяне і кажа: "Паслухай, як здорава!"

А калі вучыўся ў мастацкім вучылішчы, у нас была група аматараў паэзіі. Еўтушэнка толькі з'явіўся, яго вершы хадзілі ў спісах ад рукі. Вазнясенскі. Паэты Сярэбранага веку. Надсан, Севяранін, Ясенін — нічога не было ў продажы. Ад рукі на занятках па гісторыі мастацтваў, на анатоміі адзін у аднаго перапісвалі, мікраскапічным почыркам — каб больш змясцілася. Прывезці зборнік паэзіі са з'езда Саюза мастакоў з маскоўскага кніжнага кіёска — лепшы падарунак.

Міхаіла Велера шмат чытаў. Нават адстаяў чаргу па яго аўтограф, калі ён быў у нас падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

*Фота Аляксандра Каршакевіча*

# Янка Брыль і Вілейшчына



**У Івана Антонавіча Брыля ў свеце шмат сяброў і прыхільнікаў. І мы шчаслівыя тым, што сам пісьменнік больш як дзесяць гадоў называў нас, супрацоўнікаў музея "Вілейшчына літаратурная", сябрамі. Мы ўспрымаем яго не толькі як літаратара, але і як настаўніка, які кожную раніцу ў музеі вітае нас, сустракае мудрым, светлым, нават (як мне іншы раз здаецца) крыху іранічным позіркам.**

**Роза ШЭРАЯ,**
**кіраўнік народнага музея "Вілейшчына літаратурная",**
**фота Уладзіміра Крука**

І зусім па-іншаму — проста і даступна, як пра добра знаёмых, — гаворым мы на ўроках у музеі пра герояў Брылёвых твораў і самога аўтара. У яго вучымся адданасці роднаму краю, шчырасці, адказнасці, справядлівасці.

Безумоўна, шматлікія творы народнага пісьменніка Янкі Брыля вядомы чытачам яшчэ са школьнай пары. Але як важна, трымаючы ў руках кнігу з аўтографам аўтара, адчуваць цяпло яго рукі, яго задуменны позірк, нібы чуць голас, наказ. Першай да нас прыйшла кніга "Пішу як жыву" (1994), потым іншыя: "Ты мой найлепшы друг", "Цуды ў хаціне", "Запаветнае", "Я з вогненнай вёскі" і іншыя.

Кожны яго радок, як і аўтограф на кнізе, паштоўцы, пісьме, у апавяданні, эсэ, рамане... заклікае думаць, у штодзённым бачыць незвычайнае, памятаць пра наш прыгожы свет, пра яго невычэрпнае хараство, пра адказнасць за свае ўчынкі і паводзіны.

У 80-я гады мінулага стагоддзя Янка Брыль быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі ад нашай акругі. Ужо тады мы, ільянцы і не толькі, адчулі яго руку, працягнутую на сяброўства. Былі сустрэчы, на якіх пісьменнік шчыра, натуральна гаварыў пра простага чалавека, працаўніка, вечнага шукальніка праўды і шчасця на зямлі, пра пакутлівы і гераічны лёс Радзімы.

З памяці тых далёкіх васьмідзясятых гадоў паўстае чалавек высокі, стройны, з выпраўкай, як у ваеннага. Густая чупрына, мудрая ўсмешка, глухаваты, але моцны голас. Шкада, што я тады пасаромелася падысці да яго. З перапіскі зразумела, які ён просты і інтэлігентны. Вось вытрымка з ліста за 02.03.1996. "Мне было прыемна атрымаць Ваша пісьмо, нейкім чынам зноў прыгадаць Ілью і яе ваколіцы ў розныя поры года, сустрэчы з людзьмі, якіх было за мае дэпутацкія гады адносна нямала. Асабліва прыемна ўспамінаюцца школьныя сустрэчы, на якія я запрашаў сваіх сяброў-пісьменнікаў — Васіля Вітку, Сяргея Грахоўскага, Міколу Аўрамчыка і некаторых іншых...

Гэта выдатна, што ў Вас свой школьны музей. І я ахвотна пасылаю Вам адну з маіх апошніх кніг, прашу прыняць яе ласкава, як і маё шчырае пажаданне найлепшых поспехаў і музею, і школе, і вучням Вашым, і Вам асабіста. Дзякую за добрыя пажаданні. Янка Брыль".

У лісце ад 9 сакавіка Іван Антонавіч распавядае: "Дэпутатам па Ільянскай акрузе Вілейскага раёна я быў з пачатку 1980 на пачатак 1985 года. Даволі часта наведваў сваю акругу, асабліва запомніліся сустрэчы ў школах Вязынскай, Хаценчыцкай, Залескай, а таксама ў самой Ільі, у кінатэатры, там ужо не перад школьнікамі, а наогул перад выбаршчыкамі. У школах часам бываў не адзін, а запрашаў у паездку сяброў. Часу прайшло ўжо шмат, дэталі сустрэч зацерліся ў памяці, але добрыя ўражанні ад сустрэч ды гутарак з вучнямі і настаўнікамі памятаюцца.

Абяцаць Вам, як гаворыцца, цвёрда пра сустрэчу на канікулах не магу, гэта залежыць у маім узросце ад стану здароўя, чаго загадзя не заплануеш, але калі тады адчуваць сябе буду належна, вядома ж, не адмоўлюся.

Усяго Вам найлепшага. Янка Брыль".

З успамінаў паэта Міколы Кутаса (тады старшыні прафкама саўгаса "Абадоўцы"):

"Я прысутнічаў на сустрэчах у клубе, тэхнікуме, школе. Янку Брыля слухаць было надзвычай цікава, хаця сам пісьменнік гаварыў, што паэтам значна лягчэй выступаць і прыемней іх слухаць, бо верш успрымаецца лепш, чым проза. Сам жа Іван Антонавіч сваю прозу чытаў мала, больш расказваў пра людзей, цікавыя сустрэчы, выпадкі з жыцця.

На запыты выбаршчыкаў казаў: "Я не магу больш таго, што магу", хоць заўсёды імкнуўся выканаць свае абяцанні. Быў шчыры ў сваіх стасунках са слухачом".

Да пісьменніка Брыля можна было звярнуцца з любым пытаннем. Не было выпадку, каб Іван Антонавіч аднёсся абыякава. Калі мы ў музеі рыхтаваліся адзначыць 100-годдзе польскай пісьменніцы Эміліі Кунавіч, якая з пачатку XX стагоддзя працавала ў Ільі, у пісьме да Янкі Брыля я спытала, ці даводзілася яму сустракаць матэрыял пра Э. Кунавіч. Ён адказаў: "У мяне ёсць даведнік, дзе Э. Кунавіч значыцца, але ж даведнік гэты выдадзены ў 19-72 годзе. Больш пра яе я нічога ў польскім друку не сустракаў"(22.02.2005). У наступным лісце піша: "Паважаная Роза Канстанцінаўна! Пасылаю Вам польскі тэкст і пераклад яго на беларускую мову пра Эмілію Кунавіч з даведніка «Polscy pisarze wspołczesni»" (04.03.2005). І гэта на двух лістах!

Праца Янкі Брыля дала штуршок да збору матэтыялаў, кніг, перапіскі з дачкой пісьменніцы для падрыхтоўкі і правядзення змястоўнай канферэнцыі.

Перш чым стаць пісьменнікам, Іван Антонавіч прайшоў вялікую жыццёвую дарогу: зведаў жыццё селяніна, ваенныя шляхі-дарогі, палон, уцёкі, партызанскія рэйды, удзел у адраджэнні краіны пасля вайны, грамадскую дзейнасць... Не шкадаваў часу і сілы для ўмацавання беларушчыны, бо горача любіў само жыццё, дабрыню, паэзію і, безумоўна, людзей. Таму на кожнае наша запытанне даваў адказ, нібы наяве размаўляючы са мной і з вучнямі.

"Паважаная Роза Канстанцінаўна, дарагія дзеці! Шчыра дзякую Вам за памяць і добрыя пачуцці ў сувязі з маім 80-годдзем. І жадаю Вам усім ад шчырага сэрца ўсяго найлепшага.

Кнігу Агарковай, дзе сімпатычны вобраз полькі-настаўніцы Эміліі Кунавіч, я ў свой час чытаў. Асабіста з гераіняй кнігі не быў знаёмы, пісаць з яе сваю пані Мар'ю ў мяне не было ніякай патрэбы, бо ў мяне была свая такая настаўніца — пані Мар'я Бранеўская, якую ў гады акупацыі замучылі ў канцлагеры Калдычэва каля Баранавіч.

Пад маім "Сірочым хлебам" дзве даты: 1942 — 1956, калі аповесць была пачата і калі закончана, дарэчы, у той год, калі выйшла кніга "Лясныя долы" — проста такое супадзенне.

Данік Малец у пэўнай меры спісаны з мяне самога, пастаўленага мною ў патрэбныя сітуацыі. Скажам, са школы мяне не выключалі, — гэта ўжо з лёсу хлопчыка, а што да маёй любові да настаўніцы — гэта ўсё перажыта мною і засталося ў памяці, у сэрцы — назаўсёды.

Яшчэ раз шчыра дзякую Вам і жадаю ўсяго найлепшага.

Ілью я ўспамінаю з прыемнасцю.

Янка Брыль". 31.10.1997

"Недзе бліжэй да вясны буду рад сустрэчы. Спішамся.

P. S. З прыемнасцю пасылаю Вам заказной бандэроллю свае новыя кнігі". 12.12.1998.

"Я віншую Вас і Вашых выхаванцаў, усім жадаю ў 2000-м годзе добрага здароўя, светлага настрою і выдатных поспехаў". Снежань 1999 года.

"Учора атрымаў Ваша пісьмо. Дзякую і віншую Вас і Вашых выхаванцаў з усімі поспехамі — бульбянымі, вучэбнымі, літаратурнымі, — і жадаю ўсяго найлепшага і надалей!" 25.10.2-000.

Кожнае каляндарнае свята атрымлівалі мы ад пісьменніка віншавальную паштоўку або пісьмо. Калі я папрасіла пазнаёміць мяне з Лідзіяй Львоўнай Арабей, ён хутка адгукнуўся і выслаў яе адрас. На зварот пакінуць аўтографы на яго кнігах, якія ёсць у музеі, аўтар сказаў: "Калі маеце намер прысылаць, калі ласка, прысылайце".

12 красавіка 2002 года Янка Брыль прыслаў віншаванне: "Дарагія сябры! Шчыра віншую з 10-ці годдзем музея "Вілейшчына літаратурная" і жадаю выдатных поспехаў у далейшай творчай працы. Дзякуй за запрашэнне, якім, на жаль, не магу пакарыстацца, і за добрыя пажаданні".

Мы ўважліва сачылі за творчай дарогай Янкі Брыля, радаваліся, што ў час яго дэпутацтва ад нашай акругі выйшаў збор твораў у пяці тамах, у 1981 годзе яму прысвоена званне народнага пісьменніка Беларусі, Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа адзначана аповесць "Золак, убачаны здалёк", убачылі свет "Выбраныя творы" ў двух тамах, у гэты час ён быў узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны III ступені.

Прыклад штодзённай руплівай працы, увага да музея, пажаданні, што ішлі ад пісьменніка, выклікалі адчуванне адказнасці за вынік нашай працы. У 2005 годзе Іван Лашутка, выступаючы перад пісьменнікамі Вілейшчыны, вельмі цёпла гаварыў пра наш літаратурны музей і пераказаў словы Янкі Брыля пра мяне: "Таленавітая і працавітая гаспадыня музея". Гэтыя словы для мяне вельмі дарагія. Добрае слова з вуснаў пісьменніка была адрасавана Уладзіміру Кажамяку пасля таго, як Іван Антонавіч прачытаў у часопісе "Куфэрак Віленшчыны" яго нарысы. У лісце ад 21.07.2005, адрасаваным Міхасю Казлоўскаму, ён піша: "Напісанае Кажамякам пра мястэчка Ілью было асабліва прыемна чытаць, бо я ў тых мясцінах у 1980 — 1985 гг. быў дэпутатам Вярхоўнага Савета, даволі часта наведваў перш за ўсё школы, дый не адзін, а заўсёды з кім-небудзь з сяброўпісьменнікаў. А тут жа яшчэ аўтар двух таленавітых нарысаў добра расказаў і пра Алеся Салая і пра яго сябра Янку". У гэтым лісце Янка Брыль сказаў вельмі цёплыя словы пра сябра нашага музея Міхася Казлоўскага і яго часопіс "Куфэрак Віленшчыны".

У кнізе "Праблёскі" Янка Брыль піша: "Вецер будзе кудысці гнаць аблокі, месяц — хавацца за соснамі, калі і мяне ўжо не будзе. І нехта іншы стане думаць-прыдумаць, што так і суджана, мусіць, яму сумнявацца, горка тужыць і плакаць без слёз, і часта шукаць апоры, і горача любіць — жыццё, дабро, людзей, паэзію!..

Так думаецца ў полі за лясною вёсачкай, над Віллёй, дзе ў пятнаццатым годзе была перадавая — кроў, туга і акопныя вошы..." ("Пра галоўнае").

Спадзяюся, што наказ любіць жыццё, дабро, людзей, паэзію пераняli ад Янкі Брыля тысячы людзей, сярод іх і мае выхаванцы, якія працуюць у музеі "Вілейшчына літаратурная".

# Александрыя чытае

**Кніжная выстаўка-продаж, прымеркаваная да 130-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, прайшла ў межах III Міжнароднага фестывалю народнай творчасці "Александрыя збірае сяброў".**

**Іна РАКЕВІЧ,**
**фота аўтара**

Экспазіцыя прадставіла шырокі асартымент кніжнай прадукцыі дзяржаўных выдавецтваў "Беларусь", "Беларуская навука", "Вышэйшая школа", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Мастацкая літаратура", "Народная асвета" – вучэбна-метадычнай, даведачнай, мастацкай літаратуры розных жанраў. Быў тут і багаты выбар кніг для самых маленькіх: казкі, кніжкі-малышкі, музычныя кнігі, энцыклапедыі, кнігі для падрыхтоўкі да школы, размалёўкі, а таксама розныя перыядычныя выданні і цацкі.

Надзвычай папулярнай аказалася акцыя "Дзень дарэння кнігі", у межах якой кожнаму ахвочаму прапаноўвалася папоўніць свае веды мудрымі выказваннямі вядомых пісьменнікаў і атрымаць у падарунак кнігу.

Падчас выстаўкі-продажу наведвальнікі маглі азнаёміцца з выданнямі, прадстаўленымі на стэндзе "Пісьменнікі-юбіляры 2012", тэматычнай выстаўцы "Мой родны кут", а таксама пабываць на прэзентацыі даследавання Барыса Сідарэнкі "Могилёвский губернатор Александр Станиславович и его время".



*Падчас кніжнай выстаўкі-продажу ў Александрыі.*

### Беларуская мова

**Вялюга, С. А.** Беларуская мова (прафесійная лексіка): вучэбна-метадычны комплекс для студэнтаў нефілалагічных спецыяльнасцей / С. А. Вялюга, А. І. Зянько; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. — Наваполацк: ПДУ, 2011. — 263 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-531-243-8.

**Гачко, А. К.** Беларуская мова: метадычныя рэкамендацыі па раздзелах: «Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Фразеаграфія» аднайменнай дысцыпліны для студэнтаў спецыяльнасцей: 1-01 02 01 – Пачатковая адукацыя; 1-01 02 02-09 – Пачатковая адукацыя. Сацыяльная педагогіка / А. К. Гачко, С. В. Асабіна; Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Янкі Купалы. — Гродна: ГрГУ, 2012. — 79 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-515-512-7.

**Красней, В. П.** Беларуская мова: падручнік для 3-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / В. П. Красней. — 2-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012– — ISBN 978-985-465-972-5 (у пер.).

Ч. 1. — 2012. — 124 с. — 21000 экз. — ISBN 978-985-465-973-2.

**Лепешаў, І. Я.** Уполравень з часам: зборнік артыкулаў / Іван Лепешаў. — Гродна: ЮрСаПрінт, 2012. — 176 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-90264-2-3.

**Памятка па рабоце над памылкамі па беларускай мове**: у адпаведнасці з новым правапісам / [складальнік Н. А. Жыліч]. — 3-е выд. — Мінск: Пачатковая школа, 2012. — 24 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6988-20-5.

**Пераклады з твораў Л. М. Талстога на гаворкі Палесся** / Грамадскае аб'яднанне «Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства «Загароддзе»; складальнік Ф. Д. Клімчук. — Мінск: Мэджык, 2011. — 310 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6473-61-9.

**Работа над памылкамі**: практычны дапаможнік па беларускай мове з нормамі ацэнкі ведаў / [укладальнік Баркоўская Наталля Францаўна]. — 4-е выд., папраўленае. — Минск: Кузьма, 2012. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-453-517-3.

**Слоўнік беларускай мовы** / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы; [укладальнікі: Н. П. Еўсіевіч і інш.; навуковыя рэдактары: А. А. Лукашанец, В. П. Русак]. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 916 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-08-1365-7 (у пер.).

**Станкевіч, А. А.** Мова і грамадства: міжмоўныя кантакты і лексічнае ўзаемадзеянне ў беларускіх народных гаворках / Станкевіч А. А.; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны. — Мінск: РІВШ, 2012. — 218 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-529-3.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах. Англійская літаратура

**Маккалоу, К.** Поющие в терновнике: [роман] / К. Маккалоу; [перевод с английского Норы Галь]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 605 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-063714-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-28-393-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8044-9 (Харвест) (в пер.).

**Смит, У.** Охотники за алмазами: [роман] / Уилбур Смит; [перевод с английского Д. Арсеньева]. — Москва: Астрель, 2012. — 250 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 16000 экз. — ISBN 978-5-271-30-660-0 (Астрель). — ISBN 978-5-271-42620-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1098-3 (Харвест) (в пер.).

**Уайльд, О.** Портрет Дориана Грея: роман / Оскар Уайльд; перевод с английского М. Абкиной. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-064663-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-26747-5 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8032-6 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Мартин, Д. Р. Р.** Битва королей: [фантастический роман] / Джордж Р. Р. Мартин; [перевод с английского Н. И. Виленской ]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 797 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-17-076207-1 (АСТ). — ISBN 978-5-271-38120-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0277-3 (Харвест) (в пер.).

**О`Хара, Д.** Свидание в Самарре: [роман] / Джон О`Хара; [перевод с английского Н. Емельянниковой]. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41202-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1050-1 (Харвест) (в пер.).

**Стил, Д.** Чарлз-стрит, 44: [роман] / Даниэла Стил; [перевод с английского У. В. Сапциной]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-075411-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-38778-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1151-5 (Харвест) (в пер.).

**Стил, Д.** Чарлз-стрит, 44: [роман] / Даниэла Стил; [перевод с английского У. В. Сапциной]. — Москва: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — На переплете: я люблю читать. — 17000 экз. — ISBN 978-5-271-30-660-3 (Астрель). — ISBN 978-5-271-42501-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1150-8 (Харвест) (в пер.).

**Хемингуэй, Э.** Старик и море: [повесть]; Рассказы / Эрнест Хемингуэй; [перевод с английского: Е. Голышева и др.]. — Москва: Астрель, 2012. — 247 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 33500 экз. — ISBN 978-5-271-34558-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1074-7 (Харвест) (в пер.).

### Італьянская літаратура

**Аллибис, Э. Д.** Уника: Пламя Жизни: [фантастический роман] / Э. Дж. Аллибис; [перевод с итальянского Козловой М., Панасенко Ю., Судиловской М.]. — Москва: Астрель, 2012. — 510 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-38527-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0713-6 (Харвест).

### Іспана-амерыканская літаратура

**Гарсиа Маркес, Г.** Сто лет одиночества: [роман] / Габриэль Гарсиа Маркес; [перевод с испанского М. И. Былинкиной]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 477 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 20000 экз. — ISBN 978-5-17-071285-4 (АСТ). — ISBN 978-5-271-34687-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9476-7 (Харвест) (в пер.).

### Руская літаратура

**Акунин, Б.** Шпионский роман: [роман] / Борис Акунин. — Москва: Астрель, 2012. — 312 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-271-42095-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1102-7 (Харвест) (в пер.).

**Борисова, А.** Там...: роман в 3 актах / Анна Борисова. — Москва: Астрель, 2012. — 316 с. — (Борис Акунин: проект «Авторы»). — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-40-695-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0849-2 (Харвест) (в пер.).

**Брусникин, А.** Герой иного времени: [роман] / Анатолий Брусникин; [рисунки М. Ю. Лермонтова]. — Москва: Астрель, 2012. — 413 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. (доп. тираж). — ISBN 978-5-271-40697-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0848-5 (Харвест) (в пер.).

**Брусникин, А.** Девятный Спас; Герой иного времени: [романы] / Анатолий Брусникин. — Москва: Астрель, 2012. — 988 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-42-159-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1014-3 (Харвест) (в пер.).

**Вильмонт, Е. Н.** Полоса везения, или Все мужики козлы: [роман] / Екатерина Вильмонт. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 351 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-053377-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-20850-8 (Астрель). — ISBN 978-985-16-5384-9 (Харвест) (в пер.).

**Гроссман, В. С.** Жизнь и судьба: роман / Василий Гроссман. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 876 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-022910-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-18-629-5 (Астрель). — ISBN 978-985-16-3635-4 (Харвест) (в пер.).

**Гроссман, В. С.** Жизнь и судьба: роман / Василий Гроссман. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 876 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-17-040888-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-18-630-1 (Астрель). — ISBN 978-985-16-3637-8 (Харвест) (в пер.).

**Зорич, А.** Пилот-девица: [фантастический роман] / Александр Зорич. — Москва: Астрель, 2012. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 6000 экз. — ISBN 978-5-271-41436-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1097-6 (Харвест) (в пер.).

**Иванов, В. Д.** Повести древних лет: хроники IX века в 4 кн. / Валентин Иванов. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 541 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-058054-5 (АСТ). — ISBN 978-5-271-22794-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0977-2 (Харвест) (в пер.).

**Иванов, В. Д.** Повести древних лет: хроники IX века в 4 кн. / Валентин Иванов. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 541 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-058311-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-23268-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0978-9 (Харвест) (в пер.).

**Кунин, В. В.** Чокнутые; Трое на шоссе; Мой дед, мой отец и я сам; Ребро Адама; Интердевочка: [сборник] / Владимир Кунин. — Москва: Астрель, 2012. — 410 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-42392-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1099-0 (Харвест) (в пер.).

**Лукьяненко, С. В.** Дневной дозор: [фантастический роман] / Сергей Лукьяненко, Владимир Васильев. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 380 с. Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-025715-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-42259-1 (Астрель). — ISBN 978-985-13-3269-0 (Харвест) (в пер.).

**Лукьяненко, С. В.** Ночной дозор: [фантастический роман] / Сергей Лукьяненко. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 381 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-025476-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-42258-4 (Астрель). — ISBN 978-985-13-5459-3 (Харвест) (в пер.). — ISBN 978-985-13-5459-7 (ошибоч.).

**Солженицын, А. И.** Рассказы / Александр Солженицын. — Москва: Астрель, 2012. — 588 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-42093-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1144-7 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Артюшкевич, А.** Монстр: [роман] / Анна Артюшкевич. — Минск: Букмастер, 2012. — 444 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-176-8 (в пер.).

**Башурова, М. О.** В каплях акварели: лирика / Марина Башурова. — Минск: Ковчег, 2012. — 64 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7006-68-7.

**Бронштейн, И. Я.** Блаженства: сборник поэзии и прозы / Инна Бронштейн. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 55 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-476-983-7.

**Дубицкая, Е.** У меня есть все, но больше всего мне нужен Бог! / Дубицкая Екатерина. — Минск, 2012. — 33 с. — 1000 экз.

**Маринкин, Д. М.** В поисках истин: стихи / Дмитрий Маринкин. — Гомель: Полеспечать, 2012. — 64 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7012-07-7.

**Попова, В. П.** Берега надежды нашей: поэмы и стихи / Валентина Попова. — Минск: Ковчег, 2012. — 120 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7006-58-8.

**Потапов, В. П.** Ураган восприятия: (избранное): поэзия / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 79 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-85-8.

**Протасеня, В. А.** Восходит день: [стихи] / В. А. Протасеня. — Минск: Белпринт, 2012. — 57 с. — 36 экз. — ISBN 978-985-459-248-0.

**Точило, В. С.** Надышусь ли всласть...: стихи / Владимир Точило. — Минск: Четыре четверти, 2012. — 98 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-7026-28-9.

**Цереня, Ю. Ю.** Я есмь присутствие любви: сборник стихов / Юрий Цереня. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 55 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-86-5.

### Беларуская літаратура

**Андрэева, Л.** На хвалях вечнасці: міфы і легенды ў вершах / Лідзія Андрэева; [аўтар уступнага артыкула Пётр Дзетліковіч]. — Мінск: Белпринт, 2012. — 119 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-459-225-1 (памылк.).

**Кажэра, А.** Літасць надзеі: зборнік вершаў / Ала Кажэра. — Мінск: Ковчег, 2011. — 75 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7006-25-0.

**Колас, Я.** Сымон-Музыка: паэма / Якуб Колас. — Факсімільнае выд. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 277 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1335-8 (у пер.).

**Мелодыя натхнення** = A melody of inspiration: [вершы / складальнік Т. А. Сінькевіч]. — Мінск: БелЭн, 2012. — 239 с. — Тэкст паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Змяшчае аўтараў: Арочка М., Астрэйка А., Багдановіч М., Барадулін Р., Бачыла А., Башлакоў М., Броўка П., Буйло К., Бядуля З., Вітка В., Вольскі А., Вялюгін А., Гальпяровіч Н., Гарун А., Глебка П., Грахоўскі С., Грачанікаў А., Дранько-Майсюк Л., Дубоўка У., Зарыцкі А., Караткевіч У., Кірэенка К., Колас Я., Куляшоў А., Купала Я., Лось Е., Лучына Я., Мацяш Н., Панчанка П., Русецкі А., Сівец Т., Танк М., Таўлай В., Шабовіч М., Янішчыц Я. — 1100 экз. — ISBN 978-985-11-0607-9 (у пер.).

**Пашкоў, Г. П.** Званы юнацтва: паэзія, проза / Генадзь Пашкоў; [фота А. П. Дрыбаса]. — Мінск: Беларусь, 2012. — 334 с. — 2010 экз. — ISBN 978-985-01-0958-3 (у пер.).

**Рэцэпт ад песімізму**: СМС-праект / [укладальнік, аўтар прадмовы: Нераток Юрась (Гарбачоў Юрый Юр'евіч)]. Буслан і Жабміла: калектыўная паэма-додзінсі / [Нераток Юрась (Гарбачоў Юрый Юр'евіч) і інш.; аўтар прадмовы: Нераток Юрась (Гарбачоў Юрый Юр'евіч); ілюстрацыі: Агрэніч Марыя Аляксандраўна]. — Мінск: Печанко А. Г., 2012. — 117, 47 с. сустрэчнай пагінацыі. — Частка тэксту на рускай мове. — Кніга-«перакрутка». — Аўтары таксама: Агрэніч А., Емельянаў А., Кандратаў М., Карэліна І., Кучмель Н. — 97 экз. — ISBN 978-985-7008-82-7.

**Сцяпан, У. А.** Адна капейка: кніга прозы / Уладзімір Сцяпан. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 219 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6994-88-6.

**Шалешка, Л. Ю.** Расплата за каханне: паэмы / Лілія Шалешка. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2012. — 67 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-476-996-7.

### Літаратура на каўказскіх мовах

**Асадулаев, Х.** Проблески таинства: поэзия, живопись, графика, скульптура / Хизри Асадулаев; [перевод с каратинского А. Аврутина; послесловие: Николай Пограновский]. — Минск: Кнігазбор, 2011. — 187 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7007-39-4.

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Астафьев, В. П.** Лучшие рассказы для детей: [для среднего школьного возраста] / В. Астафьев. — Москва: Астрель, 2012. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-23-862-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1042-6 (Харвест) (в пер.).

**Астафьев, В. П.** Лучшие рассказы для детей: [для среднего школьного возраста] / В. Астафьев. — Москва: Астрель, 2012. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-37-597-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0261-2 (Харвест) (в пер.).

**Астафьев, В. П.** Лучшие рассказы для детей: [для среднего школьного возраста] / В. Астафьев. — Москва: Астрель, 2012. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-271-41-080-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-7258-1 (Харвест) (в пер.).

**Баба-Яга**: [русские] сказки для самых маленьких: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / [составление и обработка Сергея Кузьмина]; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — [2-е изд., стереотипное]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 61 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0460-2 (в пер.).

**Бобовое зернышко**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-856-1.

**В гостях у солнышка**: текст адаптирован для начинающих читателей: [словацкая народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-845-5.

**Золотые русские сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составители: К. Степаненко, Н. Шутюк, О. Захарова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 141 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-539-329-1 (в пер.).

**Кот и Мышь**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-847-9.

**Кот, Петух и Лиса**: текст адаптирован для начинающих читателей : [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-848-6.

**Лем, С.** Солярис: [роман] / Станислав Лем; [перевод с польского Д. Брускина]. — Москва: Астрель, 2012. — 252 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 32000 экз. — ISBN 978-5-271-35472-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1073-0 (Харвест) (в пер.).

**Любимые сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 2525 экз. — ISBN 978-985-17-0420-6 (в пер.).

**Маша и Медведь**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-849-3.

**Переполох**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-850-9.

**Потешки, прибаутки**: [русские народные потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-858-5.

**Про сверчка**: текст адаптирован для начинающих читателей: [английская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-851-6.

**Рыжая курочка**: текст адаптирован для начинающих читателей: [английская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-852-3.

**Сабатини, Р.** Одиссея капитана Блада: [роман] / Рафаэль Сабатини; [перевод с английского Ан. Горского]. — Москва: Астрель, 2012. — 442 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 29600 экз. — ISBN 978-5-271-34559-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1075-4 (Харвест) (в пер.).

**Селзник, Б.** Хранитель времени: [роман: для среднего школьного возраста] / Брайан Селзник; рисунки автора; [перевод с английского С. Чулковой]. — Москва: Астрель, 2012. — 542 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-41773-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1013-6 (Харвест) (в пер.).

**Серебряный колокольчик**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Г. Старых]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-853-0.

**Синявский, П. А.** Стишата-коротышата: [стихи: для дошкольного возраста] / П. Синявский; рисунки Э. Авакян. — Москва: Астрель, 2012. — 9 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — На титульном л. в выходных данных: Планета детства. — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-41374-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1071-6 (Харвест).

**Сутеев, В. Г.** Сказки: [для чтения взрослыми детям] / В. Сутеев. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 125 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12000 экз. — ISBN 978-5-17-059663-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-24059-1 (Астрель). — ISBN 978-985-16-7098-3 (Харвест) (в пер.).

**Топелиус, З.** Дважды два – четыре: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / З. Топелиус; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-857-8.

**Три бабочки**: текст адаптирован для начинающих читателей: [немецкая народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник О. Н. Петрушина]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-854-7.

**Тютчев, Ф. И.** Избранные стихотворения: [для среднего и старшего школьного возраста] / Ф. И. Тютчев; [составитель В. Б. Спринчан]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2012. — 110 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1315-0.

**Умей обождать**: текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2012. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-400-855-4.

**Чуковский, К. И.** Телефон: сказка-раскраска / Корней Чуковский. — Минск: Белпереплёт, 2012. — 18 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-90265-1-5.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Бобков, В. Г.** Я иду за солнышком: сборник детских и юношеских рассказов, стихов и песен / Вячеслав Бобков; [автор предисловия В. В. Грозов; художники: И. В. Лазерко, С. К. Колковская]. — Минск: Бонем, 2012. — 114 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6630-59-3.

**Дашкевич, Т. Н.** Поделись немножко: [для чтения взрослыми детям] / Татьяна Дашкевич; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2012. — 14 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-043-7.

**Екимова, Е. А.** Мяу-мяу, просим вас: не пройдите мимо нас: [для чтения взрослыми детям] / Елена Екимова; иллюстрации Ирины Зенюк. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 21 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-041-3.

**Енбулаева, Н. К.** Солнечный зайчик: стихи, загадки / Нина Енбулаева. — Пинск: Пинская региональная типография, 2011. — 167 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6515-29-6 (в пер.).

**Квилория, В. Т.** Снежный борщ: невероятные похождения Шурки и Лерки: [для среднего и старшего школьного возраста / Валерий Квилория; художник О. Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2012. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-02-7.

**Квилория, В. Т.** У собачьего древа: невероятные похождения Шурки и Лерки: история двенадцатая: [для среднего и старшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник И. Лазерко]. — Минск: В. Т. Квилория, 2012. — 215 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-04-1.




## Кнігарня "Крыніца", г. Светлагорск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Якуб Колас. Вершы. Паэмы. Апавяданні. Трылогія "На ростанях". — Мінск: Харвест, 2007.
2. С. Е. Иванов. Йога для всех. — Минск: Современная школа, 2011.
3. Следы апостолов. Секретная миссия. — Минская фабрика цветной печати, 2011.
4. Вадим Деружинский. Забытая Беларусь. — Минск: Харвест, 2011.
5. Джон Максвелл. 21 неопровержимый закон лидерства. — Минск: Попурри, 2011.

*Каждая глава книги рассмотрит один из немногих принципов лидерства. На своём примере и на примере других людей, с которыми автору доводилось встречаться, на примерах успеха и поражений автор расскажет, каким образом тот или иной закон может повлиять на вашу жизнь и как его применить.*

6. Наталья Батракова. Площадь согласия. — Минск: Кавалер, 2011.
7. Светлогорщина туристическая. Путеводитель. — Минск: РИФТУР, 2011.
8. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
9. Віктар Раманцоў. Зведаная зямля. Светлагоршчына ў пытаннях і адказах. — Мінск: Галіяфы, 2011.
10. Н. И. Ладутько. Бухгалтерский учёт и отчётность. — Минск: ФУАинформ, 2010.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Поль Брэгг. Здоровое сердце. — Санкт-Петербург: ИП Крылов, 2011.
2. Аллен Карр. Лёгкий способ бросить курить. — Москва: Добрая книга, 2008.
3. Дэн Браун. Цифровая крепость. — Москва: Астрель, 2011.
4. Александр Тамоников. Честь в огне не горит. — Москва: Эксмо, 2011.
5. Эрнест Хемингуэй. По ком звонит колокол. — Москва: АСТ; Астрель, 2008.
6. Борис Акунин. Креативщик. — Москва: Астрель, 2011.
7. Алина Знаменская. Свидетельница. — Москва: Астрель, 2011.
8. Дмитрий Силлов. Закон снайпера. — Москва: Астрель, 2010.
9. Валерий Синельников. Учебник хозяина жизни. — Москва: Центрполиграф, 2012.
10. Дарья Донцова, Марина Крамер [и др.]. Летний детектив. — Москва: Эксмо, 2010.

*Мастак і кніга*

# Дыханне экслібрыса

**Беларусь багатая на мастакоў, якія займаліся ці займаюцца экслібрысам. Назавём хаця б некаторых творцаў, чыя далучанасць да няпростага жанру, выразная зацікаўленасць кніжным знакам вылучыла і нашу краіну ў іншыя, шырокія культурныя прасторы: Саламон Юдовіч, Анатоль Тычына, Генадзь Змудзінскі, Аляксандр Грубэ, Павел Гуткоўскі, Зіновій Гарбавец, Уладзімір Басалыга, Яўген Ціхановіч, Яўген Кулік, Мікола Селяшчук, Арлен Кашкурэвіч, Георгій Паплаўскі, Мікола Рыжы, Мікола Купава, Уладзімір Савіч, Валерый Славук… Яны і яшчэ добры тузін шукальнікаў мастацкай ісціны ўзвялі беларускі экслібрыс на самыя сур’ёзныя вышыні.**



**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

Яркі прыклад сучасных намаганняў у развіцці жанру — творчасць беларускага графіка Юрыя Якавенкі. Нядаўна яго творчасці як экслібрысіста было прысвечана выданне ў серыі “Майстры экслібрыса” (Кіеў, “Выдавецтва Сяргея Брадовіча”, 2010 год).



*“Анёл на караблі”.*

Юрый Якавенка нарадзіўся ў 1965 годзе ў пасёлку Смалянінава Шкотаўскага раёна (Расія, Прыморскі край). У 1984 годзе закончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, у 1992-м — мастацкі факультэт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З 1994-га — член Беларускага саюза мастакоў. З 2007 — член міжнароднага клуба “Графічны дом” (Швецыя). Жыве і працуе ў Гродне.

У выданні, падрыхтаваным Алегам Судлянковым, змешчаны выявы 13 экслібрысаў. 14-ы — на першай старонцы вокладкі. Знаёмячыся з творамі Юрыя Якавенкі, амаль не разважаеш пра прыналежнасць кніжнага знака яго ўладальніку. Зробленае гродзенскім мастаком носіць настолькі шматаблічны сюжэт, што работы ўяўляюцца самастойнымі гравюрамі. Спрыяе гэтаму, несумненна, шырокае выкарыстанне аўтарам міфалагічных і біблейскіх сюжэтаў. Кніжны знак прыходзіць у нашу свядомасць як ахоўнік той ці іншай мастацкай звышідэі, а пасля ўжо, другім сваім планам, дазваляе выяве стаць добраахвотнай паланянкай Яе Вялікасці Кнігі.

Прадстаўляючы экслібрысы гродзенскага майстра, Алег Судлянкоў зазначае: “Юрый Якавенка доўга ішоў да сваёй манеры, на яго творчасць моцны ўплыў аказаў Альбін Брукоўскі, але ён знайшоў сваю манеру, сваю нішу ў графіцы. У сваіх работах ён адыходзіць ад старых прынцыпаў гравюры, у якіх колер выкарыстоўваецца для запаўнення контураў, і выводзіць яго за межы малюнка. Складанейшая сістэма штрыхоў, фактурнае шматаблічча прыдуманых ім тэхнічных прыёмаў (а ён выкарыстоўвае мецца-тынту, акватынту, мяккі лак) прыводзяць да таго, што лісты, выкананыя Якавенкам, прыцягваюць гледача ўнутраным напружаннем, элегантным малюнкам, аптычнай ілюзорнасцю аб’ёмнай пабудовы на плоскім аркушы паперы…”

І дасягаецца гэта аб’ёмнасць за кошт масы штрыхоў, а не за кошт лініі малюнка. І разам з тым Юрый Якавенка трапны ў дакладных лініях. На экслібрысах адсутнічае хаос, няма ўласцівых сённяшняму мастацкаму часу нагрувашчванняў. Майстар кніжнага знака размаўляе з аматарамі мастацтва і сучаснымі кніжнікамі мовай Сярэднявечча, мовай таго, ранейшага, Адраджэння. А яшчэ ў гэтым дыялогу творцы з гледачом і днём сённяшнім прысутнічае адкрытая ўсяму Сусвету філасофія XXI стагоддзя — стагоддзя няпростага, у якім трэба крочыць удумліва, не забываючыся пра цішыню мінулых вякоў. Экслібрыс Юрыя Якавенкі — добры ў гэтым клопаце памагаты.

*Праекты*

# Знаёмцеся: “Макулатура”

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Што рабіць маладому беларускаму аўтару, які піша прозу, спрабуе перакладаць, але з-за нявопытнасці ці сціпласці не рашаецца пакуль аднесці творы ў вядомае выдавецтва? Ёсць два варыянты. Працягваць пісаць “у стол” або дасылаць тэксты ў цалкам некамерцыйны праект пісьменніка Сяргея Календы — часопіс беларускай прозы “Макулатура”. Галоўны рэдактар і заснавальнік, Календа сам пачытае творы, пакажа іх дасведчаным аўтарам — сябрам часопіса, рэдактарам. А яго жонка Васіліса Паляніна-Календа забяспечыць тэкст ілюстрацыямі (апроч яе ў камандзе часопіса працуюць некалькі выдатных мастакоў). І калі зоркі сыдуцца і тэкст пройдзе ўсе этапы адбору, то вельмі хутка малады аўтар атрымае першую публікацыю— у “Макулатуры”. Дарэчы, аўтарамі часопіса з’яўляюцца не толькі пачаткоўцы, але і знакамітыя пісьменнікі.**

## Нумар першы

Сама назва праекта можа мець дзве канатацыі. Адмоўную — творы, якія самім аўтарам або крытыкамі ўспрымаюцца як неістотныя і не вартыя ўвагі. Станоўчую, з адценнем бунтарства, прэтэнзіі на андэграўнднасць літаратуры такога кшталту (з улікам алюзіі назвы на аднайменны раман Чарльза Букоўскі). Але як бы там ні было, “Макулатура” ўжо займела свайго аўтара і, спадзяюся, свайго чытача. Сяргей Календа распавёў:

— Ідэя часопіса доўга выношвалася. Хацелася адразу заявіць пра нешта глабальнае, істотнае для Беларусі. Часопіс мусіў паказаць, які высокі патэнцыял існуе ў нас у краіне, якія пісьменнікі ёсць, пра што піша маладое пакаленне аўтараў. І галоўнае — паказаць вялізны пласт літаратуры андэграўнду, літаратуры бітніцтва, дэкадансу.

Летам мінулага года Сяргей аб’явіў набор тэкстаў на беларускай і рускай мовах у часопіс прозы, крыху пазней — набор перакладаў прозы. У складзе журы было некалькі пісьменнікаў, якія праставілі свае балы ад аднаго да дзесяці на кожным рукапісе, потым тэксты адбіраліся з улікам агульнай колькасці балаў.

Так, цягам 2012 года пабачыла свет два выпускі “Макулатуры”. Першы нумар выйшаў узімку (але, на жаль, пакуль толькі ў электронным фармаце) і паказаў: маладыя таленавітыя аўтары і перакладчыкі ў нас ёсць! Вось, напрыклад, у часопісе можна прачытаць пераклады апавядання Хуліа Картасара “Скрадзены дом” (пераклад Дар’і Вашкевіч), аповеда Юдыт Хэрман “Дзе той шлях” (пераклад Наталлі Бойкі), і — на радасць аматарам Хантэра С. Томпсана — урыўка з яго рамана “Страх і нянавісць у Лас-Вегасе” (пераклад Сяргея Календы). Вартыя ўвагі і аўтарскія тэксты.

## Нумар другі




“Калі знадворку пасвятлела, за вакном была Беларусь. Бярэзнікі, драўляныя хаткі, пафарбаваныя ў чырвоны і блакітны колеры, дым з комінаў, бярэзнікі. Там нейкі конь, зусім адзін. Тут нейкая бабулька з кошыкам на спіне. Сабакі за плотам, дзеці”. Так у эсэ “Тры гадзіны на нячыйнай зямлі” апісвае свае ўражанне ад Беларусі, якую яна пабачыла з вакна цягніка, знакамітая нямецкая пісьменніца Юдыт Хэрман. Да чаго цытата? А да таго, што цалкам пераклад гэтага эсэ можна прачытаць у другім выпуску “Макулатуры”. Ён пабачыў свет у пачатку ліпеня.

Выпуск тэматычны, прысвечаны краіне, чый лёс у многім падобны да лёсу Беларусі, — Шатландыі. Але гэта не значыць, што ўсе тэксты нумара распавядаюць выключна пра Шатландыю і шатландцаў. Асабіста мяне парадавалі расповед Станіслава Ільіна *Swift Driving Academy*, у якім ён расказаў пра ўласны досвед навучання ў амерыканскай школе дальнабойшчыкаў, а таксама пераклад часткі рамана Іэна Бэнкса “Асіная фабрыка” (пераклад Віталя Латыша). А яшчэ — аўтарскія тэксты Артура Родзькіна, Ганны Сіманавай, Марыны Яўсейчык… У цэлым, нумар склаўся выдатны: і творы добрыя, і афармленне на вышыні. Дарэчы, у аснове канцэпцыі часопіса ляжыць і ідэя сугучча тэксту і ілюстрацыі. Думаецца, менавіта гэта і робіць выданне — з другога нумара “Макулатура” выходзіць на паперы (!) — выключна прывабным.

Што да працягу праекта, то ён, безумоўна, будзе. Сяргей Календа ўжо аб’явіў набор тэкстаў у трэці нумар “Макулатуры”. Спяшайцеся: празаічныя творы на беларускай і рускай мовах, а таксама пераклады прозы прымаюцца толькі да 1 верасня.

*Пад вокладкай*

**Юзэфа ВОЎК**



**Кузьміч, М. П. Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы / М. П. Кузьміч, М. І. Сцепаненка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 352 с.**

Адметнасць гэтага выдання ў тым, што яно прысвечана вядомым ураджэнцам Віцебшчыны, якія праз розныя абставіны і па розных прычынах апынуліся па-за межамі Беларусі. Вядома, што многія з іх пасля ад’езду не раз бывалі на Радзіме, аднак назаўжды сюды вярнуцца не змаглі. Нашы суайчыннікі служылі розным народам і культурам. На жаль, пра многіх з іх мы мала ведаем, і ў гэтым сэнсе даведнік запаўняе прабел, стварае своеасаблівую гістарычную панараму з больш як 600 імёнаў.



**Штэйнер, І. Ф. “Мудрости зачало и конець...” або Спакушэнне Скарыны / Іван Штэйнер; прадмова П. В. Васючэнкі; Літаратуразнаўцы аб творы: артыкулы Т. В. Аўдонінай, І. В. Жука. — Гомель: Барк, 2012. — 74 с.**

Выхад гэтай кнігі напярэдадні 495-годдзя беларускага кнігадрукавання падаецца асабліва дарэчным. Бо ў п’есе Івана Штэйнера на фоне гісторыка-культурнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй Еўропы пачатку XVI ст. паказана постаць славутага беларуса Францыска Скарыны, выдатнага дзеяча эпохі Адраджэння, чалавека markознабаковых талентаў. І робіць аўтар гэта незвычайна — праз сумяшчэнне часавых пластоў XVI і XXI стагоддзяў, мадэрнізацыю рэалій і няспыннае змяненне жанравай прыроды дзеяння. Адметна тое, што ў гэтае выданне ўвайшлі і водгукі літаратуразнаўцаў на п’есу.



**Науменко, Л. И. Белорусская идентичность. Содержание. Динамика. Социально-демографическая и региональная специфика / Людмила Науменко. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 205 с.**

Хто мы, беларусы? Чым ганарымся, у што верым, пра што марым? Як успрымаем і адчуваем Беларусь і сваіх суайчыннікаў? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні раскрываюць змест беларускай ідэнтычнасці, што фарміруецца сёння. У манаграфіі на багатым матэрыяле этнапсіхалагічных даследаванняў, што праводзіліся на працягу апошніх дзесяці год, аналізуюцца дадзеныя пра спецыфіку беларускай ідэнтычнасці ў адзінстве з яе грамадзянскім, этнічным і тэрытарыяльным складнікамі.



**Буковски, Ч. Истории обыкновенного безумия / Чарльз Буковски. — Москва: Эксмо; Санкт-Петербург: Домино, 2011. — 416 с.**

Па матывах гэтай кнігі ў 1981 годзе знакаміты італьянскі рэжысёр Марка Ферэры зняў аднайменны фільм. Стужка атрымала як прызнанне публікі, так і станоўчыя водгукі крытыкаў, стала лаўрэатам многіх прэстыжных прэмій. Але і зборнік апавяданняў культавага амерыканскага пісьменніка Чарльза Букоўскі не застаўся па-за ўвагай чытачоў. У ЗША ён перавыдаваўся шэсць разоў, па-руску ж цалкам выходзіць упершыню. Некаторыя апавяданні з кнігі раней не перакладаліся на рускую мову, астатнія ў гэтым выданні прадстаўлены ў новай рэдакцыі.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл.: 385-60-89.**

# Смайлік на пероне

## Апавяданне



Антон Янкоўскі

У каторы ўжо раз у свядомасці круціцца гэтае нязграбнае развітанне: кароткае “бывай”, хуткія абдымкі, ад'езд аўтобуса, узмах рук — і намаляваны на пероне смайлік…

Зноў і зноў паўтараецца гэтае развітанне. Бяжыць і бяжыць аўтобус. Гляджу ў акно. На гадзіннік. Прайшло пяць хвілін, а расстанне, здаецца, ужо ў соты раз прамільгнула ў свядомасці, нібы нехта паставіў стужку на паўтор.

У чым сэнс гэтага калаўроту кінакадраў?

Усё правільна! Так заўсёды бывае, што аўтобус пачынае рух і бяжыць сваім маршрутам. Яна застаецца тут, а я еду далей. Яна стаіць на пероне, усміхаецца, а я ёй у адказ усміхаюся праз акно…

Не, усмешка мая не шчырая. І яна гэта адчувае. Яна ўсміхаецца мне толькі таму, што разумее: у нас інакш і не магло быць…

Калі ў віртуальнай сетцы знаходзяць адно аднаго два чалавекі, калі іх свядомасць апанавана сумам, а думкі шукаюць субяседніка, каб ад яго слоў набрацца мудрасці, і калі іх погляды супадаюць, а вочы дзякуючы вэб-камеры дораць надзею — з гэтых адносін павінна нешта атрымацца! Гэта, здаецца, закон жыцця. Лёс невыпадкова зводзіць дваіх на пэўным скрыжаванні.

І тут ты пачынаеш успамінаць той дзень, калі вы пазнаёміліся. Ужо колькі год вы ведалі пра існаванне адно аднаго, а перайшлі першую паўінтымную мяжу толькі цяпер, у віртуальнай рэчаіснасці. Толькі цяпер ты даверыў свае думкі гэтаму даўно знаёмаму чалавеку, і аказалася, што яны поўнасцю супадаюць з яе думкамі, нібы адлюстроўваюцца. Гэта здзівіла і надало ўпэўненасці: захацелася падзяліцца нават тым, што раней мала каму расказваў. Проста здалося, быццам гэты чалавек зможа выратаваць цябе ад адзіноты і бяссілля.

Наступны крок на збліжэнне — віртуальныя смайл-сэрцы і смайл-пацалункі. Першая спроба выказаць сваю сімпатыю да чалавека, які знаходзіцца за сотні кіламетраў, але ён тут і цяпер усміхаецца з твайго манітора. Віртуальныя спатканні збліжаюць. Можа, таму, што нам цяпер лягчэй быць шчырымі з маніторам, а не з жывым чалавекам…

— Прывітанне! З Днём усіх закаханых! — тэлефоннае віншаванне і доўгая чарга пажаданняў.

Яе вясёлы смех у адказ, віншаванні, а потым сумнае:

— А я буду адна сустракаць Валянцінаў дзень…

— І я адзін, сяджу ў зале чакання з квітком на цягнік дадому. Буду на калёсах сустракаць, — іранізую.

І ўспамінаю, што наша віртуальная сімпатыя знікла ў адлегласці…

Нейкім вечарам не адбылося скайп-размовы — і сум авалодаў нутром. Памятаю, месца сабе не знаходзіў. І менавіта тады злавіў сябе на думцы, што прывязваюся да чалавека, а, здаецца, яшчэ вельмі рана… І тут, толькі тут за доўгі час задумаўся: што можа атрымацца з нашых адносін?..

Тыдзень і хвіліны не маглі пражыць без інтэрнэт-спатканняў. У мяне адпачынак. Яна на бальнічным. Мы і бавілі ўвесь вольны час у інтэрнэт-размовах. А тут надышоў дзень, што ў маніторы майго ноўтбука не стала знаёмага твару — і пачынаеш аналізаваць. А гэта, высвятляецца, вельмі дрэнна…

…Яе сумны голас вярнуў у свядомасць лёгкасць, якая валадарыла намі падчас усяго віртуальнага тыдня, і сам сабою ўнутры разгарэўся той самы вугалёк, што зусім нядаўна натхняў на вершы, усмешкі, размовы:

— А давай я да цябе прыеду, разам адсвяткуем Дзень закаханых?!

Прапанова ляціць скрозь мабільныя хвалі, а ў адказ — маўчанне. Цішыня ў трубцы, праўда, цягнулася каля дзвюх секунд, але мне чамусьці яна падалася вельмі доўгай.

— Прыязджай! Буду рада!

Памяняў квіток, набыў ружы і аўтобусам паехаў у горад, дзе мяне чакалі…

Адлегласць, недаказанасць, немагчымасць бачыцца — усё гэта пагаршае адносіны, асабліва калі яны адно віртуальныя. Ты прывязваешся да чалавека, знаходзіш падабенствы, адкрываеш сакрэт сваіх першых думак — і ў гэты час трэба цясней завязаць адносіны, а вы зноў не можаце сустрэцца…

Сёння ёй бальнічны прадоўжылі, заўтра цябе з працы не адпусцілі — і першыя спробы наладзіць сустрэчу насуперак адлегласці праваліліся. Вось тут зноў надыходзіць расчараванне…

Адносіны, якія павінны развіцца, перайсці на наступны ўзровень, завісаюць на адной мяжы. У пачатку важна завязаць вузел, з якога потым запляцецца стужка! А вузел не завязваецца…

Здаецца, у гэты час вэб-камера ўсё часцей і часцей адпачывае, доўгія размовы робяцца кароткімі, сухімі і зусім не эмацыянальнымі. Далей, бывае, ты ўвогуле знікаеш з інтэрнэт-прастор, а вярнуўшыся, пачынаеш раўнаваць да статусаў у сацыяльных сетках, бо, як здаецца, яны прысвечаны не табе. Здаецца, нехта іншы апярэдзіў у завязванні вузла, нехта, хто быў бліжэй…

Але раптам выпадковая размова, выпадковая прапанова — і на змену суму прыходзіць свята, надзея, што ў тваіх руках ніткі і толькі табе плесці стужку свайго жыцця.

Ты едзеш з букетам руж у аўтобусе і хвалюешся, ці завяжацца тое, на што ўжо зусім страціў надзею…

Заснежаны гарадскі парк. Цячэ маленькая рачулка. Мы стаім на драўляным мастку. Толькі сустрэліся. Я працягваю ружы.

— Дзякуй! — кажа яна. — Мне даўно ніхто не дарыў кветак.

— Гэта ад шчырага сэрца, — з хваляваннем нешта банальнае кажу я.

Усміхаемся.

Далей невялікае застолле. Прыйшлі яе сябры. Размовы. Жарты. Тосты. Музыка. Але самая цікавая частка свята надыходзіць ноччу, калі, накінуўшы на плечы коўдру, пры святле свечкі яна чытае свае юнацкія вершы…

Слухаю яе месцамі няўмелыя і наіўныя радкі, а сам вяртаюся ў той дзень, калі спісаліся ў сацыяльнай сетцы, калі купіў вэб-камеру, калі адкрыў ёй сваю душу, даверыўся — і нарадзілася ўнутры нейкае новае пяшчотнае пачуццё. Яно цяпер вярнулася ў сэрца, ды з яшчэ большай сілай. Ад пяшчоты яе голасу, ад прыгажосці яе ўсмешкі, што ў цьмяным святле свечкі зачароўвала, ад шчырых юнацкіх вершаў, у якіх адлюстроўвалася яе ўнутраная прыгажосць, — да мяне зноў вярнуліся пачуцці, і я атрымліваў асалоду ад яе вершаў, яе душы…

А ноччу яна мне прыснілася…

Раніцай я ад'язджаў дадому. Вакзал. Ціхая размова. Ідзе снег. А яна на заснежаным пероне малюе нагой вялізны смайлік. Я абдымаю яе, сядаю ў аўтобус. Еду — а ў свядомасці сон, яе вершы, яе твар, снежны смайлік на пероне…

Але вузел тады не быў завязаны. І гэта хвалявала цэлы тыдзень. Сімпатыя з простай снежкі ператварылася ў невялікі ком, ды ніхто не мог спусціць яго з гары. Тэлефонна-віртуальнае хваляванне нарастала.

І вось нарэшце — выхадны. Яна едзе да мяне. Экскурсія па горадзе, папкорн у кінатэатры ды захапляльная камедыя пра моц кахання, смачная вячэра, прыгатаваная ўласнымі рукамі, два куфлі белага паўсалодкага віна, свечкі, музыка — і пацалунак! Звыклы сюжэт пачатку адносін. Можна нават назваць яго банальным прыёмам завязвання вузла, але ён спрацаваў. Толькі што будзе далей? Тут у кожнага пішацца свая асабістая гісторыя…

У той вечар наша гісторыя пісалася пазітыўным пяром.

Усю ноч мы размаўлялі пра нас. Яшчэ раз успаміналі, як два гады таму сустрэліся, але не маглі нават і думаць, што праз нейкі час будзем сустракацца. Проста былі занятыя сваімі раманамі. Але ўжо ў той час зарадзілася сімпатыя. Яна ніяк не можа забыць, як я, сонны, у мятай кашулі, у пяць гадзін раніцы выпраўляў яе на аўтобус. А я, калі пазней часам перамаўляліся, заўсёды сустракаў яе шырокай усмешкай. І вось сімпатыя набыла нейкі нечаканы паварот.

Мы ляжалі на ложку, абняўшыся, і, натхнёныя першым пацалункам, верылі ў тое, што адлегласць паміж намі — гэта часова створаныя абставіны, якія нам наканавана пераадолець разам. Шчыра верылі…

Калі падлічыць дакладна, то паміж нашымі гарадамі — 60 кіламетраў. “Гэта не адлегласць!” — казалі ўсе нашы знаёмыя. І мы гэта разумелі. Толькі па-сапраўднаму разабрацца ў станоўчых і адмоўных якасцях адлегласці можа той, хто пазнаёміўся з ёю тэт-а-тэт.

Мы ўпэўнена змагаліся з гэтай шматкіламетровай пачварай: тэлефанавалі, арганізоўвалі вэб-спатканні, набывалі квіткі — і мчаліся насустрач адно аднаму. Усё натхнёна, шчыра, авантурна! Але…

Кажуць, што трэба выкінуць з ужытку злучнік “але”. Ён усё псуе, параўноўвае, а значыць — стварае выбар!

Дык вось, аднойчы “але” прыйшло нечакана і ў нашы адносіны…

Чарговыя выхадныя. Я з ружай і цукеркамі прыехаў у госці да сваёй каханай.

— А што за свята? — запытала яна.

— Першы дзень вясны! — весела прадэкламаваў я, а яна заўважыла, што мяне хвалюе нешта іншае…

Мы ляжалі ў ложку, абняўшыся, і толькі тут яна адважылася пацікавіцца. Калі прывыкаеш да чалавека, то адразу бачыш, калі нешта ў ім змяняецца. І яна адчула, што ў мяне на душы вісеў нейкі цяжар. Заўважыла мае нязграбныя рухі, разгубленыя і ня смешныя жарты. І запытала…

— Мне прапанавалі працу за мяжой. Вельмі перспектыўную і прыбытковую. Я даўно пра гэта марыў, — прагучаў мой адказ…

А далей маўчанне…

Я чуў яе дыханне, сваё…

Я чуў, як трактар ачышчаў вуліцу ад апошняга снегу, які ў першы сакавіцкі вечар выпаў як надзея на тое, што ў зімы яшчэ ёсць час валадарыць на гэтай зямлі…

Што робіць чалавек, калі ведае, што прайграе? Адмаўляецца ад барацьбы…

Што робіць чалавек, калі разумее, што нічога не атрымаецца? Перастае ісці наперад…

Што робіць чалавек, калі даводзіцца рабіць выбар? Нечым ахвяруе…

— Прывітанне! Я заўтра еду за мяжу. Вельмі хачу з табой пабачыцца.

Цішыня ў трубцы.

— Добра. Прыязджай.

Стаю на прыступках яе канторы. Хвалююся, бо не ведаю, што казаць, бо разумею, што нічога ўжо не зменіш. Нават купленыя мной ружы не выратуюць.

Ужо два месяцы, як адносіны, што толькі пачалі завязвацца, на вачах гаснуць. Тэлефонныя размовы з жаданых ператварыліся ў прымусовыя, вэб-камера пакрылася пылам, сацыяльныя сеткі маўчаць, набыць квіток для сустрэчы не хапае авантурызму — і ўсё толькі таму, што разумеем: заўтра ў нашага кахання не будзе працягу…

З кожным днём двое закаханых людзей павінны быць усё бліжэй і бліжэй адно да аднаго, а не аддаляцца. І калі 60 кіламетраў узрастаюць да 1000 — адразу перамагае адлегласць. У чалавечай свядомасці чамусьці жыве разуменне, быццам на такой вялікай адлегласці каханне памірае. Адразу і безагаворачна…

…Ну навошта кахаць цяпер, калі жывеш заўтрашнім днём расстання?..

А кветкі і сапраўды мяне не выратавалі. Увесь наш шпацыр па парку і адпачынак за кубкам гарбаты ў кавярні я нешта ўсё гаварыў ды гаварыў. Яна маўчала, часам толькі суха адказвала, спрабавала ўсміхнуцца. Але раптам не вытрымала, спынілася, сказала:

— Прабач, давай ты ўжо едзь. У мяне сёння яшчэ шмат спраў.

Мы моўчкі пайшлі на аўтастанцыю. Сталі, чакалі аўтобус, а яна малявала на зямлі нагой смайлік. Яна заўсёды так рабіла, калі я пасля спаткання ад'язджаў у свой горад. Заўсёды хвалявалася, не хацела адпускаць, але разумела: інакш нельга…

Прыйшоў аўтобус. Мы неяк нязграбна і хутка абняліся.

— Бывай.

— Бывай.

Я сеў і праз акно памахаў рукой. Яна памахала ў адказ. Мы паспрабавалі ўсміхнуцца. Аўтобус крануўся. Яна павярнулася і пайшла. На пероне застаўся смайлік, ды хутка і ён знік з поля зроку…

Так павінна быць. Усё правільна.

Але чаму свядомасць, бы зламаны кінапраектар, ганяе кадры развітання па коле? Чаму?...

Мы, людзі, цікавыя істоты: падпарадкоўваемся лёсу, але забываем, што маем права выбару, здаёмся пры першым выпрабаванні, не цэнім тое, што маем. Мы — эгаісты! Бяздушныя людзі. Мы не годныя існавання, бо заўжды мяняем сапраўдныя пачуцці на ілюзорную думку пра светлае заўтра. Не верым сэрцу, не рушым наперад, а селімся на мяжы, у павуціне падману. Нас задавальняе наша слабасць, бо мы не прызнаём яе існавання…

Мы ахвяруем тым, што нам вельмі дорага… кожны дзень…

— Спыніце аўтобус!

Напэўна, ні кіроўца, ні пасажыры не зразумелі майго ўчынку — проста на трасе сярод палёў спыніць аўтобус і выйсці! Ды і ў маёй свядомасці ўсё было як у тумане… Траса. Аўтаспын. Бег вуліцамі горада. Ліфт, калідор, яе пакой — зачынена! Роспач! Страх! Спроба здагадацца, дзе яна можа быць. Мітусня па калідоры…

…І нарэшце — яна стаіць у закутку, дзе дым карамыслам. Бачу яе са спіны. У руцэ дрыжыць цыгарэта. Усхліпвае. І я адчуваю, як па яе шчоках цякуць слёзы. Зацягнулася. Выпусціла дым. Страсянула попел. Усхліпнула.

Бачу, як дрыжаць яе плечы, як рукі моцна сціскаюць цыгарэту — і ў мяне ўнутры ўсё халадзее…

Раблю крок наперад.

Яна адчула і азірнулася.

Глядзім адно на аднаго…

— Прабач, што я цябе кінуў…

— Прабач, што я цябе адпусціла…

Як пераадолець адлегласць — ніхто не ведае. Як змагацца з адлегласцю — ніхто не дасць парады. Станоўчы яна ці адмоўны персанаж у апавяданні, кожны чытач вырашыць па-свойму. Што сталася з нашымі героямі — цяжка прыдумаць. У іх усё яшчэ толькі наперадзе. Можна толькі з упэўненасцю сказаць, што калі давяраеш чалавеку, то ўсе цяжкасці магчыма пераадолець разам. Бо аснова любога кахання — гэта ВЕРА адно ў аднаго. І калі гэта вера шчырая, адданая, моцная, непахісная — яна ў любой гісторыі напіша пазітыўны фінал, яна любы вузел ператворыць у доўгую-доўгую стужку.

І часам, калі ўбачыце на пероне аўтастанцыі альбо чыгуначнага вакзала намаляваны нагой смайлік, спыніцеся і ўзгадайце: гэта нечае каханне ўсміхаецца вам і дорыць надзею на заўтра…

# Атрыманае ў спадчыну

**Валянціна Гарцуева працуе ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы пяты год, але за такі кароткі час ужо сыграла нямала запамінальных роляў. А ці магла яна стаць кімсьці іншым? Маці — заслужаная артыстка Беларусі Зоя Белахвосцік, бацька — вядомы акцёр і рэжысёр Аляксандр Гарцуеў. Яе прадзед і дзед — Глеб Глебаў і Валянцін Белахвосцік — былі знакамітымі купалаўцамі. Сярод роляў маладой актрысы — і Паўлінка, якую на працягу 18 гадоў іграла маці Валянціны, і эмацыянальная Франка ў "Хаме" Э. Ажэшкі — у пастаноўцы бацькі. Іграе ў новых спектаклях "Людзі на балоце" паводле І. Мележа і "Лістапад. Андэрсен" паводле А. Паповай.**

Ніна САРМАНТ

**— Валянціна, ці склаліся ў вашай акцёрскай дынастыі якія-небудзь прафесійныя традыцыі?**

— Я б не сказала. Магчыма, ёсць асаблівае стаўленне да працы. Чым далей прафесія перадаецца ад бацькоў да дзяцей, тым больш адказнасці, занятак робіцца сямейным. Гэта прымушае больш сур'ёзна падыходзіць да звычайных рэчаў. Мабыць, шмат да чаго я ставілася б прасцей, але не дазваляю сабе гэтага, таму што за мной стаяць людзі, якіх я не магу падвесці: мая сям'я.

**— Вы ўжо з дзяцінства разумелі, што будзеце актрысай?**

— Памятаю, калі ў мяне пыталіся: "Валечка, калі ты вырасцеш, напэўна, таксама будзеш актрысай?" — я ўсім пярэчыла: маўляў, ніколі — буду стаматолагам. Не хацелася такой прадказальнасці ў жыцці, калі ўсе за цябе ведаюць, што ты будзеш актрысай. Але я ўсё роўна разумела, што менавіта гэтак і здарыцца. Мне тэатр заўсёды быў цікавы. Думаю, што і бацькі хацелі, каб я пайшла па іх слядах. Праўда, ніхто ніколі ні да чаго не прымушаў. Я заўсёды магла выбіраць, чым буду займацца. Але, як правіла, дзеці хочуць быць падобнымі да сваіх бацькоў. Такая была і я.

**— У тэатры стараецеся паводзіць сябе як калегі, а не сям'я?**

— Такога падзелу ў нас няма. Бацькі дапамагаюць мне, падтрымліваюць і ў жыцці, і ў працы. Я працягваю вучыцца ў іх верыць у сябе, працаваць і не здавацца. Люблю працаваць з бацькам як з рэжысёрам. Думаю, мы выдатна разумеем адно аднаго. Часам мне здаецца, што мяне ён крытыкуе больш, чым іншых акцёраў. Але гэта ж выдатна, калі побач ёсць родны чалавек, які хоча, каб ты развіваўся. Я і сама пакрытыкаваць сябе люблю.

**— Ігра на сцэне залежыць ад настрою? Ці, можа, ад таго, падабаецца роля ці не?**

— Мне здаецца, што ў акцёра наогул не павінна быць роляў, якія яму не падабаюцца. Напэўна, са мной можна паспрачацца. Але ў мяне няма роляў, якія мне катэгарычна не падабаюцца. Чым складаней, тым цікавей — гэта маё перакананне. Бывае, дрэнны настрой нават дапамагае ў працы. Заўсёды можна атрымліваць задавальненне ад таго, што робіш. Ды і акцёр — вельмі залежная прафесія. Мы залежым ад сваіх роляў. Напрыклад, рэжысёр можа выбіраць п'есу, акцёраў, мае права патрабаваць. Акцёр жа — гэта выканаўца, ён абавязаны. Калі ты пайшоў у гэтую прафесію, дык павінен ставіцца да яе як да абавязку, да зададзенасці. І самае галоўнае — умець супрацоўнічаць і атрымліваць задавальненне ад працэсу.

**— Хацелася б вам паспрабаваць сябе ў якасці рэжысёра?**



*З народным артыстам Беларусі Віктарам Манаевым у спектаклі "Translations" Брайана Фрыла (рэжысёр Мікалай Пінігін).*

— Перадусім мне хочацца развівацца. Я адчуваю ў сабе неабходнасць рухацца наперад. Ды рэжысёр — зусім іншая прафесія. І цяпер я маю павярхоўнае ўяўленне пра яе. Вядома, шмат што прыцягвае і хочацца паспрабаваць. Але, калі наважваешся на нешта, рабіць гэта трэба сур'ёзна. Трэба ведаць, што ў цябе ёсць здольнасці да гэтай прафесіі. Аказацца ж дрэнным рэжысёрам вельмі лёгка і вельмі непрыемна.

**— Можа, ёсць ролі, пра якія марыце?**

— Нейкай канкрэтнай ролі няма. Але заўсёды хацелася паспрабаваць сябе ў чымсьці зусім мне не ўласцівым. Часта зайздрошчу мужчынскім ролям. Можа, сыграць вось такую ролю было б для мяне цікавым эксперыментам.

**— Як вы ставіцеся да здымак акцёраў у рэкламе?**

— Гэта частка прафесіі. Добра, калі рэкламны ролік атрымліваецца прыгожы, арыгінальны, усё зроблена таленавіта і з гумарам. Плюс магчымасць зарабіць грошы. Але магу сказаць, што знялася ў дзвюх рэкламах і вельмі дрэнна сябе пасля гэтага адчувала. Напэўна, мне не пашанцавала. Сёння здымацца ў рэкламе не маю ахвоты.

**— Акцёрская прафесія дапамагае ў жыцці або наадварот?**

— Хутчэй дапамагае. Дапамагае лепш разумець людзей, іх жаданні, іх звышзадачы, іх мэты. Дапамагае аналізаваць сітуацыю, у якую ты трапляеш. Дапамагае суперажываць. Але толькі не быць кімсьці іншым. У мяне гэта ніколі не атрымлівалася. Я і не спрабавала.

**— Раскажыце пра свае нядаўнія работы ў тэатры.**

— Увесну Аляксандр Гарцуеў выпусціў прэм'еру спектакля "Людзі на балоце" паводле Івана Мележа. На пару з актрысай Вікторыяй Чаўлыткай я выконваю ролю Ганны. Мне здаецца, спектакль атрымаўся вельмі шчырым, вельмі "нашым". Пакуль што мы паказваем яго на сцэне Палаца прафсаюзаў. А ў чэрвені на сцэне Цэнтральнага дома афіцэраў мы адыгралі апошнюю прэм'еру гэтага сезона "Лістапад. Андэрсен", над якой працаваў галоўны рэжысёр тэатра Мікалай Пінігін.

Вядома, усе мы з нецярплівасцю чакаем, калі скончыцца рамонт нашага роднага тэатра. Вельмі цяжка, калі няма свайго будынка, бо ў ім ужо многімі дзесяцігоддзямі назапашана наша "купалаўская" энергетыка. Калі пазбаўляешся гэтага, як быццам знікае нябачная падтрымка. Вядома, старому будынку рана ці позна неабходны рамонт, і гэты час трэба проста трываць — як зацяжныя гастролі. Увесь час думаеш пра тое, калі можна будзе вярнуцца на родную сцэну. А старэйшаму пакаленню, думаю, цяжэй, чым моладзі.

У тэатра наперадзе — новыя пастаноўкі і гастролі. Але галоўнай падзеяй, якую, упэўнена, усе чакаюць, будзе вяртанне трупы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы дадому, на родную сцэну.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА



*Леанід Шчамялёў "Зімовы Мінск на ўскраіне" (2005).*

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, працягваючы цыкл выставак у межах праекта "Нашы калекцыі", парадаваў наведвальнікаў экспазіцыяй айчыннага жывапісу. Уражлівая тэматычная падборка "Пад мірным небам" зараджае гледача стваральнай энергіяй, душэўнай гармоніяй, простай і вечнай радасцю жыцця, захапляе непаўторнасцю творчых індывідуальнасцей аўтараў карцін. Іван Ахрэмчык, Яўген Зайцаў, Раіса Кудрэвіч, Павел Масленікаў, Гаўрыла Вашчанка, Віктар Грамыка, Леанід Шчамялёў ды іншыя майстры розных пакаленняў, чые работы прадстаўлены на выстаўцы, — гонар беларускага мастацтва і яго класіка.

Мінула 75 гадоў з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Юрыя Яфімава (1937 — 1991). Ён скончыў кансерваторыю ў родным Ленінградзе як харавы дырыжор, затым атрымаў спецыяльнасць і сімфанічнага дырыжора. Прыехаў у Мінск. Год папрацаваўшы з Дзяржаўным народным аркестрам БССР, стаў дырыжорам нашага Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра. У 1971 г. маэстра ўзначаліў гэты калектыў і да апошніх сваіх дзён заставаўся яго галоўным дырыжорам. Дзякуючы Ю. Яфімаву заўважнае месца ў рэпертуары аркестра займала музыка беларускіх кампазітараў.

Майстар-класы, лекцыі, практычныя заняткі праводзіліся ў межах XI Тыдня касцёльнай музыкі. Ён быў арганізаваны супольнымі намаганнямі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (а менавіта — яе Праблемнай навукова-даследчай лабараторыяй музыкі, аддзелам міжнародных сувязей, аддзелам канцэртных і спецыяльных творчых праектаў) і секцыі касцёльнай музыкі Літургічнай камісіі пры Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі.

Андрэй Крылоў нарадзіўся ў сям'і жывапісца, з маленства любіў маляваць, наведваў студыю выяўленчага мастацтва пры Палацы піянераў у Гомелі — так што праблем з выбарам прафесіі ў яго не было. Сёння яго называюць беларускім марыністам, ведаюць як мастака-эксперыментатара, філосафа, паэта, майстра абстрактнага экспрэсіянізму, чые жывапісныя творы ёсць у прыватных калекцыянераў з Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Ізраіля, Італіі, Канады, Нідэрландаў, Францыі, Швейцарыі. Да 50-годдзя А. Крылова экспазіцыя яго работ пад назвай "Пунсовыя ветразі" ладзілася ў выставачнай зале Гомельскага палацава-паркавага ансамбля.

# Мелодыі дзяцінства

Кацярына БЯДУЛІНА

**П'есы для фартэпіяна, флейты і народных інструментаў гучалі ў выкананні навучэнцаў сталічнай гімназіі № 15 падчас аўтарскага канцэрта настаўніка музыкі, кампазітара Алены Храбровай.**

У яе было звычайнае дзяцінства дзяўчынкі, якую прымушалі хадзіць у музычную школу. Любоў да музыкі прыйшла не адразу. Спачатку Алена спалучала заняткі ёю з фігурным катаннем. Спортам займалася некалькі гадоў, але змяніўся трэнер, і новая настаўніца паставіла сур'ёзнае пытанне: "Музыка або спорт?"

Алена зрабіла выбар на карысць музыкі і такім чынам ужо ў 10 гадоў звязала з ёю сваё жыццё.

Алена Храброва называе сябе вялікай меламанкай. Вельмі любіць слухаць добрую музыку ў прафесійным выкананні — ад класікі да рока. Ва ўласнай творчасці імкнецца перадаць праз музыку любоў да людзей. "Для мяне важна, каб музыка падбадзёрвала людзей, давала ім надзею, вяла ў свет дабрыні і прыгажосці, каб мае слухачы напаўняліся пачуццём любові да свету, да людзей, да дзяцей. Калі гэта прасочваецца ў маёй музыцы, значыць, я шчаслівы кампазітар, — кажа А. Храброва. — А мой самы галоўны прафесійны арыенцір — мелодыя".

Ёй прыемна, калі людзі звяртаюцца з просьбай нешта напісаць і самі "замаўляюць" і тэматыку, і жанравы кірунак. Менавіта такім чынам назапасілася столькі музыкі для дзяцей, што хапіла на цэлы аўтарскі канцэрт. І калі прысутныя ў зале атрымалі ад гэтай праграмы задавальненне — ці магчыма большае шчасце для кампазітара!

"Для мяне музыка — тое, што ў мяне атрымліваецца ў жыцці лепш за ўсё. Найперш гэта мая прафесія. Яна мяне "корміць": я працую піяністкай-канцэртмайстрам. Музыка — і мой лепшы сябар. Яна суцяшае, калі мне цяжка. Яна мяне натхняе. Практычна, музыка складае ці не аснову майго існавання. Думаю, самае галоўнае — каб музыка была патрэбная яшчэ камусьці, акрамя самога кампазітара", — разважае А. Храброва.

Якіх бы жыццёвых вышынь мы ні дасягалі, у памяці заўжды будуць яркія моманты з дзяцінства: першыя бацькоўскія пажаданні, першыя выпрабаванні, праявы творчасці… І, мабыць, невыпадкова ў сваёй музыцы Алена Храброва засяроджваецца менавіта на дзіцячай тэматыцы. І дзеці з вялікім захапленнем выконваюць п'есы, створаныя ёю.

# Прыйсці да Тэатра

**Рознымі шляхамі прыходзяць у сцэнічнае мастацтва. Алімпіяда Шах-Парон захапілася тэатрам яшчэ ў дзяцінстве. Тэатр... Не было, бадай, для яе іншага такога магічнага і хвалюючага слова. Тэатр — гэта цэлы свет. І актрыса, з дня нараджэння якой 5 жніўня спаўняецца 90 гадоў, знайшла ў ім сваё адметнае месца.**



*У ролі Калугінай (“Таварышы па працы” Э. Брагінскага, Э. Разанава).*

**Наталля САКАЛОЎСКАЯ, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, фота з БДАМЛіМ**

**Алімпіяда Шах-Парон** (1922 — 2009) нарадзілася ў вёсцы Шчарбачоўка Суджанскага павета Курскай губерні, там, дзе спяваюць знакамітыя курскія салаўі. Па-грэчаску яе імя азначае “тая, што апявае неба”. Так што само імя нібыта прадвызначыла творчы, сцэнічны лёс дзяўчынкі. Маці ў Алімпіяды была руская, з роду дробнапамесных дваран, бацька — армянін з персідскімі каранямі, па прафесіі доктар. Яны выхавалі ў дачцэ любоў да кніг, музыкі, тэатра. “І гэта, — успамінала актрыса, — адыграла вызначальную ролю ў маім лёсе. Я прысвяціла жыццё мастацтву”.



*У ролі Ірыны Чайкі (“Песня нашых сэрцаў” В. Палескага).*

Тэатральную адукацыю А. Шах-Парон атрымала ў Маскоўскім гарадскім тэатральным вучылішчы, якое скончыла ў 1944 годзе. Рэпетыцыі, студэнцкія спектаклі, вучоба ў майстроў МХАТа — незабыўны час у жыцці будучай актрысы. Сезон 1946 — 1947 гг. для Алімпіяды Іванаўны быў звязаны з працай у Бабруйскім абласным драматычным тэатры. З 1947 года і да апошніх сваіх дзён яна служыла Мельпамене ў сценах Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага.

Адной з першых сцэнічных работ, што прынесла сапраўдны поспех маладой актрысе, была роля разведчыцы Тані ў спектаклі “За другім фронтам” В. Сабко. Тут адчувалася самастойная, арыгінальная трактоўка вобраза, спроба выканаўцы раскрыць псіхалогію, матывы ўчынкаў сваёй гераіні. Яе творчы пошук працягваўся і ў наступных спектаклях: “Звычайны чалавек” Л. Лявонава, “Хаціна дзядзькі Тома” Г. Бічэр-Стоў, “Старыя сябры” Л. Малюгіна, “Дванаццатая ноч” У. Шэкспіра. Ужо на пачатку свайго прафесійнага шляху А. Шах-Парон абрала дакладную ўласную пазіцыю ў мастацтве, якой засталася адданай на ўсё жыццё. Калі аднойчы ў актрысы запыталіся пра ролі, якія ёй найбольш удаюцца, Алімпіяда Іванаўна не задумваючыся адказала: “Больш мяне прыцягваюць жаночыя характары дзейныя, актыўныя, гераіні, якія могуць адстаяць справядлівасць і праўду”.

**Заслужаная артыстка БССР** А. Шах-Парон сыграла каля сотні роляў, сярод якіх шмат характарных — класічных і сучасных, якія яна зрабіла непаўторна своеасаблівымі ў пастаноўках паводле А. Астроўскага, Б. Брэхта, М. Горкага, Лопэ дэ Вегі, А. Чэхава, У. Шэкспіра. На пачатку сцэнічнага шляху з поспехам іграла Дэздэмону ў шэкспіраўскім “Атэла”. Ёю быў створаны вобраз, які ўслаўляе радасць жыцця і кахання. Пасля гэтай ролі за А. Шах-Парон замацавалася рэпутацыя актрысы вялікіх магчымасцей. Гэтыя магчымасці пацвердзіла і роля Лідзіі ў спектаклі “Шалёныя грошы” паводле А. Астроўскага. Актрыса разам з Д. Арловым, рэжысёрам і выканаўцам ролі Цяляцева, здолела па-новаму асэнсаваць хрэстаматыйны вобраз. Сцэны з удзелам Алімпіяды Іванаўны былі выверaныя і адшліфаваныя з ювелірнай дакладнасцю. У іх адчуваліся і праява вялікага рэжысёрскага дару Д. Арлова, і тонкае майстэрства маладой актрысы. У дзень прэм'еры Дзмітрый Аляксеевіч на праграмцы спектакля напісаў сваёй вучаніцы па тэатры: “Улюбёная мая актрыса! Віншую Вас з вялікім святам. Яшчэ дзве-тры такія работы і ...”

А вось А. Шах-Парон у ролі раўнівай прыгажуні Герарды ў “Дасціпнай закаханай” Лопэ дэ Вегі. Яна не хадзіла, яна лятала па сцэне, завабліваючы мужчын чарадзейнымі словамі, небяспечна жанглюючы іх пачуццямі. Не забыцца і на цудоўны акцёрскі ансамбль, якім вылучаўся гэты маляўнічы, святочны спектакль: Дзмітрыя Арлова, Тамару Трушыну, Ільзу Лакштанаву ды іншых. У 1953 годзе ў тэатры тагачасным галоўным рэжысёрам Васілём Фёдаравым была пастаўлена п'еса “Кароль Лір” У. Шэкспіра, дзе раскрыліся найбагацейшыя магчымасці трупы. Рэжысёр стварыў сапраўднае акцёрскае відовішча, даўшы кожнаму з выканаўцаў прастору для выяўлення індывідуальнасці ў межах зусім пэўнай тэатральнай задумы. Сярэднюю дачку караля Рэгану іграла А. Шах-Парон. Нялёгка было маладой актрысе, якая прызвычаілася да амплуа чароўных гераінь, асвойваць свет жорсткіх, д'ябальскіх жарсцей шэкспіраўскіх жанчын. Яна прасачыла складаную эвалюцыю характару Рэганы, якая з пяшчотнай, клапатлівай дачкі ператвараецца ў лютага ворага роднага бацькі. Поспех А. Шах-Парон у гэтай ролі быў прынцыпова важны для яе далейшага творчага лёсу, бо сведчыў пра пашырэнне жанравага дыяпазону актрысы.

Ганаровае званне заслужанай артысткі БССР, нададзенае ёй у 1955 годзе, пацвердзіла афіцыйнае прызнанне таленту Алімпіяды Іванаўны. А неўзабаве ў тэатры пачаўся перыяд няпэўнасці, няўстойлівасці, звязаны з частай зменай рэжысёраў, якія папаўнялі рэпертуар спектаклямі не заўсёды ўдалымі. Вядома, лёс акцёра цесна звязаны з сітуацыяй у тэатры, з лёсам трупы, у якой даводзіцца працаваць. Алімпіяда Іванаўна заўсёды працавала сур'ёзна і самааддана. І ў тыя часы, неспрыяльныя для роднага калектыву, не імкнулася пакінуць яго, шукаючы лепшай долі. Яна была перакананая, што вельмі важна і ў жыцці, і ў тэатры не здрадзіць сваёй чалавечай сутнасці, таму галоўнаму, што ў цябе закладзена. І сам тэатр павінен быць ЧАЛАВЕЧНЫ.

**Яе таленту** былі падуладныя і драматычныя, і характарна-камедыйныя ролі. Кожны вобраз, створаны гэтай актрысай, вызначаўся непаўторнасцю, праз якую выяўляўся складаны ўнутраны свет і тэмперамент выканаўцы. Яе гераіні заўсёды мэтанакіраваныя, духоўна багатыя. Гэта баранеса Штраль (“Маскарад” М. Лермантава), Лідзія Чабаксарава, Алена Пратасава, Сакалова, Клеапатра, Маланння (“Варвары”, “Дзеці сонца”, “Апошнія”, “Ворагі”, “Ягор Булычоў ды іншыя” М. Горкага), Понсія (“Дом Бернарды Альбы” Ф. Гарсія Лоркі), Івета (“Матухна Кураж і яе дзеці” Б. Брэхта), фру Альвінг (“Здані” Г. Ібсена), Хлоя (“Мёртвая хватка” Дж. Голсуарсі), Міхаліна (“Трывога” А. Петрашкевіча).

Першай заяўкай актрысы на камедыйную ролю была Юля ў спектаклі “Бездакорная рэпутацыя” (аўтары п'есы М. Смірнова і М. Крайндэль). Роля Калугінай у “Саслужыўцах” паводле Э. Брагінскага і Э. Разанава пацвердзіла здольнасць актрысы цудоўна пачуваць сябе ў камедыйнай сітуацыі, ствараючы запамінальны, самабытны характар. Узбагачаная досведам мноства сыграных роляў і цікавымі жыццёвымі назіраннямі, А. Шах-Парон з годнасцю падышла да стварэння вобраза Маці ў спектаклі “Фантазіі Фарацьева” А. Сакаловай. Актрыса пераканаўча сыграла трохі смешную, не па гадах наіўную і такую мудрую сэрцам маці. Здавалася, што яна ведала пра сваю гераіню амаль усё, магла імправізаваць, не парушаючы сутнасць вобраза.

Творчай перамогай актрысы ў садружнасці з цікавым рэжысёрам Віктарам Карпілавым была роля Ганны Вырубавай — фрэйліны імператрыцы ў тэлевізійным спектаклі “Крах” паводле п'есы А. Талстога і П. Шчоголева “Змова імператрыцы”. Тут ігра А. Шах-Парон — узор праўдзівага выяўлення гістарычных, сацыяльных і псіхалагічных каранёў яе гераіні, прыдстаўніцы царскага двара. І, вядома ж, узор высокага акцёрскага майстэрства.

**Лёс падараваў** гэтай актрысе шчаслівае творчае даўгалецце. Шчаслівае — таму што была яна своеадметнай і вельмі запатрабаванай індывідуальнасцю ў сваім тэатральным калектыве. У кожнай яе ролі тонка спалучаліся руская загадкавая душа і паўднёвы тэмперамент, якімі Алімпіяду Іванаўну надзяліла прырода. І з кожным яе выхадам на сцэну здзяйснялася прызначэнне ўсіх сапраўдных артыстаў: павесці гледача ў таямнічы і высокі свет мастацтва, каб падараваць часцінку цеплыні свайго вялікага сэрца.



*А. Шах-Парон і В. Мароз у спектаклі “Маскарад”.*

# Галоўнае — сапраўднасць

**Напрыканцы чэрвеня ў г.п. Акцябрскі, што ў Гомельскай вобласці, прайшоў VII Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва "Берагіня". У якасці яго ўдзельнікаў выступілі вядучыя фальклорныя калектывы краіны, а экспертамі сталі адны з лепшых спецыялістаў Усходняй Еўропы ў галіне вывучэння народнай творчасці. Ролю гэтага форуму ў развіцці нацыянальнай культуры Беларусі складана пераацаніць. Тут праходзіць сустрэча не толькі розных калектываў, але і розных пакаленняў — носьбітаў і аматараў каранёвага мастацтва Беларусі, адбываецца абмен вопытам і перадача традыцый, дэманструюцца дасягненні і акрэсліваюцца перспектывы развіцця этнапедагогікі. Але не ўсё так гладка — як у плане правядзення фэсту, так і ў адносінах да вывучэння фальклору… Каб абмеркаваць вынікі фестывалю, праблемы яго правядзення і цяжкасці арганізацыі, рэдакцыя "ЛіМа" разам з навуковым і мастацкім кіраўніком "Берагіні" Міколам Козенкам запрасілі экспертаў на "круглы стол" "Фестываль «Берагіня» ў кантэксце нацыянальнай культуры і этнавыхавання". Яго мадэратарам і вядучым стаў загадчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вячаслаў Калацэй.**



*Вячаслаў Калацэй, загадчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў*



*Тадэуш Стружэцкі, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь, сустаршыня аргкамітэта Рэспубліканскага фестывалю "Берагіня"*



*Уладзімір Шчасны, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА*



*Мікола Козенка, навуковы і мастацкі кіраўнік фестывалю "Берагіня"*



*Мікалай Дудчанка, балетмайстар-пастаноўшчык Дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля Рэспублікі Беларусь "Харошкі", кіраўнік групы экспертаў па харэаграфіі фестывалю "Берагіня"*

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Наталлі Купрэвіч**

**Вячаслаў Калацэй:**

— Гісторыя фестывалю "Берагіня" пачалася ў 1999 годзе. Але для таго, каб такі праект з'явіўся, навукоўцамі, якія працавалі ў аддзеле традыцыйнага мастацтва тагачаснага Інстытута праблем культуры, была выканана каласальная работа. Яны сістэматычна даследавалі традыцыйную культуру розных рэгіёнаў Беларусі, аналізавалі яе стан і рупліся, каб культурная спадчына, што нам засталася ад продкаў, перадавалася маладому пакаленню. Тыя ўзоры фальклору, што існуюць у Беларусі, адметныя, цікавыя, але ёсць небяспека, што яны сыдуць у небыццё разам з носьбітамі. Адна з праблем беларускай культуры і заключаецца ў адсутнасці сувязі пакаленняў на ўзроўні перадачы спадчыны. Для таго, каб наладзіць гэтую сувязь у рэгіёнах, навукоўцамі быў распрацаваны праект "Традыцыйная культура і дзеці", а яго адметным элементам стаў фестываль "Берагіня", які праходзіць у Акцябрскім раз на два гады. На сённяшні момант ідэя фэсту цалкам сябе спраўдзіла, дала вельмі вялікі плён. Але разам з тым правядзенне фестывалю на працягу трынаццаці год высветліла шэраг праблем, што існуюць у сферы культуры, фальклорнай адукацыі, сацыяльнага жыцця Беларусі.

**Уладзімір Шчасны:**

— Першымі, хто ўзняў праблему захавання нематэрыяльнай спадчыны нацый, былі Японія і краіны Заходняй Еўропы. Японія вядомая як захавальніца традыцыйнай культуры, але нават там пад уплывам працэсаў глабалізацыі, манапалізацыі сродкаў масавай камунікацыі у сучасным пакаленні нацыянальная культура пачала знікаць. Таму невыпадкова гэтыя краіны сталі ініцыятарамі распрацоўкі і падпісання міжнароднай Канвенцыі аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Варта адзначыць, што Беларусь указам Прэзідэнта краіны далучылася да Канвенцыі ў першай дзясятцы. І гэта заканамерна: мы маем багаты фальклор і ў той жа час разумеем, што наша нематэрыяльная спадчына знікае літаральна на вачах. Аднак у працэсе рэалізацыі палажэнняў Канвенцыі высветлілася, што працы ў гэтым напрамку шмат, у тым ліку па тлумачэнні сутнасці нематэрыяльнай спадчыны (нават спецыялістам). Высветлілася, што да нядаўняга часу разуменне фалькларыстый зводзілася да архівізацыі фальклору: стварэння картатэк, даведнікаў, энцыклапедый. Сапраўды, у гэтым кірунку здзейснена шмат, але мала хто задумваўся, *як* захаваць усё гэтае багацце ў нашым жыцці.

Нематэрыяльная спадчына ў разуменні Канвенцыі прадугледжвае існаванне таго ці іншага элемента традыцыйнай культуры ў адным месцы на працягу некалькіх пакаленняў. Калі мы пачалі вывучаць рэальныя элементы спадчыны, якія ў нас ёсць, то высветлілася, што іх засталося вельмі-вельмі мала. Да прыкладу, такая з'ява нацыянальнай культуры, як батлейка. Яе традыцыя перарвалася ў 1950-х гадах, апошнія батлейшчыкі былі зафіксаваныя ў Міры. А адзіная аўтэнтычная батлейка знаходзіцца ў Музеі этнаграфіі ў Санкт-Пецярбургу. Таму, на жаль, батлейку ўжо нельга лічыць элементам нематэрыяльнай спадчыны Беларусі. Ледзь удалося захаваць абрад "Цары", і тое толькі таму, што хлопцы з Семежава, у Капыльскім раёне, засталі старэйшых людзей, якія памяталі ўвесь абрад, і змаглі пераняць ад іх традыцыю. Гэты абрад унесены ў міжнародны ахоўны спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА, думаю, што дзякуючы гэтаму ён захаваецца і ў будучыні.

Каб неяк выправіць складаную сітуацыю ў гэтай галіне, мы звярнуліся ў ЮНЕСКА з просьбай выдаткаваць сродкі на стварэнне інвентара, рэестра рэальнай традыцыйнай культуры, што захавалася ў нашай краіне. На гэтыя патрэбы ЮНЕСКА выдзеліла 130 тысяч долараў ЗША, і цяпер такі рэестр ствараецца. Але ў гэтай справе ёсць і небяспека: важна, каб яе здабыткі яшчэ раз не сталі архіўным матэрыялам. Як гэтага пазбегнуць? Думаю, што трэба рабіць захады для падтрымкі носьбітаў традыцыйнай культуры. Па-першае, стварыць сайт у інтэрнэце з дакладнымі адрасамі гэтых людзей, каб мець магчымасць падтрымаць іх і маральна, і фінансава. Падругое, падумаць, як вылучыць сапраўдных носьбітаў сярод самадзейных псеўдафальклорных артыстаў: выдаваць спецыяльныя сертыфікаты, магчыма, стыпендыі, нагрудныя знакі. Каб і ўнукі ведалі, што іх дзядулі і бабулі выконваюць справу дзяржаўнай важнасці, захоўваючы нашу традыцыйную культуру.

Мне часта даводзіцца наведваць фестывалі рознага кшталту, і я магу адзначыць, што ў нашай краіне, на жаль, застаўся адзіны фэст, дзе можна ўбачыць традыцыйную беларускую культуру, — гэта "Берагіня". Яго знікненне будзе вельмі вялікай стратай, бо тады застануцца толькі фестывалі, дзе ў якасці выступоўцаў будуць удзельнічаць настаўнікі музычных школ. І апрануты яны будуць у нацыянальныя касцюмы, выраблены ў Мінску без уліку рэгіянальных асаблівасцей… На жаль, небяспека падобных форумаў заключаецца яшчэ і ў тым, што часам у журы ўключаюцца кіраўнікі прафесійных калектываў, таму ўдзельнікі стараюцца падладзіцца пад іх і выконваюць не ўзоры традыцыйнай творчасці, а "фантазіі на тэму беларускіх песень", без уліку розніцы паміж рэальнай народнай культурай і сцэнічным мастацтвам. Таму калі мы будзем кіравацца прынцыпам "самадзейнае мастацтва павінна дасягнуць узроўню прафесійнага", то станем на шлях знішчэння традыцыйнай культуры. Вельмі істотна тлумачыць усім, хто займаецца самадзейнасцю, фальклорам, як важна захоўваць аўтэнтыку нацыянальнай культуры і праводзіць рэгіянальныя фестывалі. Я маю на ўвазе не толькі фінал "Берагіні". Добра было б у кожнай вобласці, кожным раёне мець, як прадугледжвала канцэпцыя гэтага фестывалю, конкурс танцавальных пар, дзе галоўным крытэрыем стала б захаванне рэгіянальных традыцый, адметнасцей касцюма. Гэта дазволіла б на практыцы змяніць і методыку падрыхтоўкі выкладчыкаў: каб яны пасля заканчэння ўніверсітэта культуры прыязджалі на месцы і не вучылі мясцовых жыхароў таму, чаму іх навучылі ў ВНУ, а вучыліся ў іх — тым самым падтрымлівалі традыцыі.

**Вячаслаў Калацэй:**

— Сапраўды, традыцыйнае мастацтва — своеасаблівае, і падыходзіць да яго з пазіцый мастацтва прафесійнага не зусім правільна. Думаю, што гэта адзначаць і прафесіяналы-харэографы, а таксама скажуць, чым фестываль "Берагіня" сістэмна-канцэптуальна адрозніваецца ад, напрыклад, "Сожскага карагода" і іншых харэаграфічных фестываляў, што праводзяцца ў Беларусі як разавыя акцыі.

**Мікалай Дудчанка:**

— "Берагіня" — мая радасць і ў той жа час мой боль. Калі я быў першы раз на гэтым фестывалі, то пабачыў тое, што толькі ў сне магло прысніцца. Сапраўднасць у фальклоры — гэта самае галоўнае. Аднак да таго, што мы бачым на так званай прафесійнай сцэне, ёсць шмат пытанняў, звязаных менавіта з прафесійным стаўленнем. Прафесіянал глядзіць на выканаўцу, носьбіта фальклору як на выдатны момант, і назірае за тым, *як* ён выконвае танцавальныя элементы. І важную ролю тут адыгрывае факт перарванасці ланцужка інфармацыі паміж пакаленнямі ў гады існавання СССР. У чым гэта выражаецца? Да прыкладу, мы просім носьбітаў танцавальнай традыцыі паказаць элементы танца, забываючыся пра тое, што мышачны апарат гэтых людзей знаходзіцца ў зусім іншай форме. Ім таксама здаецца, што яны паказваюць элементы так, як танцавалі калісьці. Насамрэч калі яны былі маладыя, то танцавалі не так. Мы ніколі не пачуем ад выканаўцы танцавальнага фальклору фразу "Я не ў форме". І цяпер галоўная задача спецыялістаў заключаецца ў тым, каб расшыфраваць, узнавіць элементы, што былі страчаны. Натуральна, харэаграфічныя элементы лепш за ўсё фіксаваць на відэа, відэазапіс на працягу досыць кароткага часу дазваляе пабачыць і ўзнавіць элементы. Таму добра было б стварыць у Міністэрстве культуры краіны (у тым ліку і па выніках "Берагіні") нацыянальны фонд звестак, што датычаць этналогіі і фальклору. Ён дапамагаў бы будучым спецыялістам.

Калі вярнуцца да фестывалю "Берагіня", то варта адзначыць, што гэта эталон фальклорнага фестывалю і яго трэба папулярызаваць, у першую чаргу ў СМІ. Мы бачым, што на тэлебачанні і радыё практычна знік нацыянальны складнік, а важна зберагаць скарбы мастацтва народа, пакуль традыцыйная культура яшчэ не зусім згасла. Самае страшнае сёння — абыякавасць. Самае важнае — прапаганда традыцый, іх вывучэнне. Тая шчырасць, з якой танцуюць дзеці на "Берагіні", вялікага вартая. Мы ацэньваем іх па нейкіх сваіх крытэрыях, але яны — носьбіты нацыянальнай традыцыі і ў суме даюць вынік, якога мы шукаем.

**Вячаслаў Калацэй:**

— Праблемы "Берагіні" як флагмана нацыянальнай культуры, праекта этнакультурнага выхавання, выходзяць за межы і ўласна г. п. Акцябрскі, і Мінска, і Беларусі, яны звязаны з глабалізаваным светам, у якім мы жывём. Гэта і праблема недастатковасці прадстаўлення фальклору ў СМІ, і праблема якаснай харэаграфічнай адукацыі, і праблема выхавання традыцыйнай маралі, што звязана з сістэмай каштоўнасцей нацыі. Нам пашчасціла: ёсць праект, які працуе на вырашэнне вышэйназваных праблем, і наша задача зрабіць, каб ён быў падтрыманы і рушыў далей. Справа ў тым, што сітуацыя сёння крытычная: у Беларусі засталася апошняя кафедра этналогіі і фальклору (у БДУКіМ), апошні фестываль аўтэнтычных форм фальклору ("Берагіня", якая ініцыіруецца энтузіязмам некалькіх людзей), мы губляем носьбітаў і не паспяваем рыхтаваць ім замену. Аднак, па набранай да 2009 года інэрцыі, вопыт



Уладзімір Гілеп, старшыня Беларускага фонду культуры



Энгельс Дарашэвіч, доктар філасофскіх навук, прафесар кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ



Аляксей Рагуля, кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ



Наталля Еўдакімовіч, дырэктар Пратасевіцкай дзіцячай школы мастацтваў Асіповіцкага раёна, удзельнік фестывалю “Берагіня-2012”

сёмай “Берагіні” сёння выходзіць на міжнародны ўзровень: на фэсце былі добра прадстаўлены калектывы нашых суседзяў, якія займаюцца традыцыйнай культурай. Гэта госці з Расіі і Украіны. Для іх гэты фестываль стаўся сапраўдным адкрыццём, яны былі ў захапленні ад яго і абяцалі са свайго боку любую дапамогу, каб фестываль жыў далей.

**Тадэуш Стружэцкі:**

— Я падзяляю крытычныя падыходы шаноўных удзельнікаў “круглага стала”, але магу сказаць, што сёння адносіны дзяржавы ці Міністэрства культуры да гэтага фестывалю, як і ў цэлым да традыцыйнай культуры, не змяніліся. Іншая справа — рычагі рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі, структуры, што павінны вырашаць гэтыя праблемы — вось гэта пытанне актуальнае. Мы праз прызму фестывалю выходзім на праблемы аднаўлення, захавання і падтрымкі традыцыйнай культуры. А яны закранаюць усё грамадства. Адносіны да традыцыйнай культуры залежаць не толькі ад палітыкі дзяржавы, міністэрства культуры краіны, устаноў, але і ад агульнага стаўлення грамадства. Мы не прымусім жыхароў з Мінска ісці на канцэрты ці ехаць на фестываль у Акцябрскі, мы можам толькі зацікавіць. Можам выйсці з ініцыятывай на Міністэрства спорту і турызму, каб ужо там праз турфірмы арганізавалі спецыяльныя паездкі. Пагадзіцеся, было б вельмі прыгожа, калі б сем’і селі ў машыны і паехалі на фестываль на выхадныя, як гэта робіцца ў многіх краінах свету.

Тое, што ў школах з праграмы выключаны эстэтычны цыкл, у тым ліку і вывучэнне традыцыйнай культуры, — сур’ёзная праблема. Пазашкольныя заняткі таксама перагружаны іншымі прадметамі. Але трэба, каб школе было выгадна мець калектывы, курсы, заняткі, спецыяльныя ўрокі, бо гэта будзе спрыяць павышэнню агульнага культурнага і эстэтычнага ўзроўню не толькі навучэнцаў, але і настаўнікаў, ствараць выдатную атмасферу для арганізацыі вучэбнага і выхаваўчага працэсу ў цэлым.

З праблемай вывучэння і захавання фальклору я звязаны з канца 1980-х гадоў. Тады мы толькі пачалі падступацца да нацыянальнай культуры, а ў 1991 годзе распрацавалі праграму падтрымкі развіцця традыцыйнай культуры на 1994 — 1996 гады. І за 25 год стварылі сістэму падтрымкі традыцыйнай культуры, за гэты час большасць відаў мастацтва, рамёстваў былі адроджаныя. Ёсць спецыялісты, ёсць дакладныя вынікі. У гэтай справе шмат залежыць і ад канкрэтных асоб. І наша задача — каб адукаваных, апантаных справай адраджэння і захавання фальклору спецыялістаў стала больш.

Важная таксама і грамадская ацэнка таго, што робіцца ў галіне традыцыйнай культуры. На жаль, яе амаль няма, больш за тое, мы вымушаны канстатаваць, што для беларускага тэлебачання нацыянальная культура практычна не цікавая. Што да наведвальнікаў, то можна прасачыць заканамернасць: людзі не цікавяцца, бо не ведаюць, якое багацце можна пабачыць на фестывалях. У мінулым годзе мы зрабілі вельмі прыгожа, калі прэзентавалі фестываль “Берагіня” ў Мінску. Калі сталічныя гледачы не едуць у Акцябрскі, няхай Акцябрскі прыедзе і пакажа добрыя прыклады. Больш за тое, такая форма прадстаўлення вучыць і арганізатараў фестываляў. Бо па сутнасці патэнцыял для правядзення рэгіянальных фальклорных фестываляў ёсць у кожнай вобласці. Можна знайсці прыгожае месца для таго, каб там прадставіць багацце, разнастайнасць мясцовых традыцый, а таксама запрасіць людзей з іншых рэгіёнаў, каб і яны паглядзелі на фэст.

**Уладзімір Гілеп:**

— Думаецца, што пакуль мы фестываль не ператворым у рух выратавання спадчыны на дзяржаўным узроўні, справа не зрушыцца з месца. У гэты рух павінны ўключыцца Міністэрства культуры краіны разам з Міністэрствам адукацыі, моладзевыя, грамадскія арганізацыі, уключаючы і Беларускі фонд культуры. Мы кажам увесь час пра патрыятычнае выхаванне, але глядзіце, на чым яно звычайна базіруецца! Я часты госць Цэнтра па краязнаўстве і турызме для моладзі і навучэнцаў Міністэрства адукацыі краіны. Сёння ўсё патрыятычнае выхаванне пабудавана на адным — на Вялікай Айчыннай вайне. Таму і дзеці часта сумныя. Яны смяюцца, калі танцуюць, выходзяць на сцэну, там жа вучацца размаўляць з людзьмі. Вось на чым трэба выхоўваць моладзь.

**Энгельс Дарашэвіч:**

— Пытанні развіцця фестывалю “Берагіня”, на маю думку, звязаныя з такімі праблемамі, як непадрыхтаванасць да ўспрымання фальклору, урбанізацыя: сёння ў краіне засталося менш як 20 працэнтаў сельскага насельніцтва. Калі мы будзем крытычна асэнсоўваць назапашаны за 13 год вопыт, то можна сказаць, што на дадзеным этапе “Берагіня” дасягнула свайго Манблана і ёй трэба на гэтым узроўні замацавацца з добрай перспектывай. І “галава” праекта этнахарэограф Мікола Козенка, і яго “рукі” — дырэктар Святлана Беразоўская — муcяць атрымаць афіцыйнае прызнанне свайго ўнёску ў агульнадзяржаўную справу захавання традыцыйнай культуры і дапамогу ў далейшым. Плён ад гэтага будзе ўсім: і нашай моладзі, і навуцы, і дзяржаве, і міжнароднай супольнасці.

**Наталля Еўдакімовіч:**

— Упершыню на “Берагіню” я трапіла ў 2004 годзе. Пасля неадназова наведвала гэты фестываль разам са сваім маладзёжным калектывам, заўсёды брала з сабой камеру, прывозіла шмат новай інфармацыі, якую доўга вывучала. Магу адзначыць, што гэтае мерапрыемства — добры прыклад для дзеяння, стварэння калектыву, прыцягнення новых людзей. У гэтым годзе мы ў сваёй школе мастацтваў, якая працуе ў адным будынку з агульнаадукацыйнай, адкрылі аддзяленне “Народная творчасць”, яго вучнямі сталі пяць чалавек. У школе мала часу адводзіцца на вывучэнне традыцыйнай народнай культуры, і я вельмі рада, што менавіта на фэсце дзеці “заразіліся” энтузіязмам. Мы вывучаем сусветную класіку, але не ведаем сваё, а вучням сельскіх школ фальклор асабліва цікавы. Я працую ў гэтай сферы пятнаццаць год, і таму магу з упэўненасцю сцвярджаць, што “Берагіня” многага вартая. Той, хто аднойчы туды завітаў, імкнецца наведваць фестываль зноў і зноў.

**Вячаслаў Калацэй:**

— Варта адзначыць, што сёлета на “Берагіні” былі і тыя людзі, якія афіцыйна не ўдзельнічалі ў фэсце, але, паколькі вывучаюць рэгіянальны фальклор, цікавіцца ім — завіталі ў Рудабелку. Прыязджалі і неафіцыйныя ўдзельнікі з Мінска, якія спецыяльна два гады чакалі рудабельскую фестывальную падзею. Гэта сведчыць, што фэст — справа не толькі дзяржаўная, але і грамадская.

**Аляксей Рагуля:**

— “Берагіня” — вялікі прарыў у нацыянальным культурным жыцці. Гэта феномен у культурным адраджэнні еўрапейскай цывілізацыі, феномен, які можа карэнным чынам змяніць афіцыйную педагогіку. Сёння фестываль павінен стаць сінтэзам розных відаў нацыянальнай культуры. Таму ў мяне ёсць прапановы наступны фэст праводзіць такім чынам, каб на ім галоўнымі аб’ектамі ўвагі былі школьная фальклорная харэаграфія, родныя песні і родная мова. “Берагіня” павінна стаць фестывалем моўных зносін, дзе ў цэнтры ўвагі будуць таксама дэкламацыя, школьны тэатр, розныя іншыя віды вербальнай творчасці. Абавязкова ў межах фэсту павінна праводзіцца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, якая мае на мэце абагульненне пэўнага вопыту, знаёмства з рэальным станам фальклорнай адукацыі ў школах.

**Мікола Козенка:**

— Сёлетні фэст “Берагіня” быў адным з самых складаных па арганізацыі. З фестывалю выпала чатыры праекты. Гэта турнір салістаў на Барысаўшчыне, турнір танцавальных пар — выканаўцаў побытавага танца на Піншчыне і Драгічыншчыне, навукова-практычная канферэнцыя “Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання”. Выпаў і рэспубліканскі конкурс апавядальнікаў народнай прозы. Хоць у першапачатковай праграме фестывалю гэтыя праекты былі. Таму я прапаноўваю, каб у наступны фэст яны былі ўключаны і рэалізаваны. Шкада таксама, што Інстытут культуры Беларусі свядома адышоў ад падрыхтоўкі фестывалю. Больш за тое, ужо пяць год чакае публікацыі “Купальскі спеўнік” — зборнік, падрыхтаваны кафедрай этналогіі і фальклору БДУКіМ, каб падчас “Рудабельскага Купалля”, калі 900 удзельнікаў фэсту святкуюць Купалле разам, але па сваіх традыцыях, усе маглі разумець адно аднаго.

Адзначу, што старшыня Акцябрскага райвыканкама Генадзь Сімановіч праяўляў шмат ініцыятыў, дзякуючы яму фэст арганізацыйна ўзняўся вышэй. У Акцябрскім стварылі новую сцэну. Начальнік упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама Алег Рыжкоў таксама прапаноўваў сваю дапамогу. Добра, што ўпершыню быў падрыхтаваны і зацверджаны план падрыхтоўкі фестывалю. Спадзяюся, у Інстытуце культуры Беларусі абавязкова будзе створаны аддзел традыцыйнай культуры і этнавыхавання, а ў БДУКіМ на ўсіх факультэтах і аддзяленнях будзе ўведзена вывучэнне народнага побытавага танца.

**Вячаслаў Калацэй:**

— Як вынік круглага стала прапаную падтрымаць ідэі: на аснове рэспубліканскага праекта “Берагіня” стварыць міжведамасную праграму этнакультурна-выхаваўчага напрамку “Традыцыйная культура і моладзь Беларусі” для ўстаноў культуры і адукацыі; стварыць у Інстытуце культуры Беларусі аддзел этнакультурнага выхавання і этнамастацкай адукацыі, які будзе працаваць як каардынатар праграмы “Традыцыйная культура і моладзь Беларусі”, каардынатар увядзення фальклору ў навучальны працэс на ўсіх узроўнях, а таксама як дырэкцыя фэсту “Берагіня”.

Такія захады па арганізацыі і правядзенні фестывалю “Берагіня”, а праз яго і папулярызацыі беларускай традыцыйнай культуры, безумоўна, дапамогуць захаваць не толькі сам фэст, але і нашу нацыянальную спадчыну.

*Рыцарскі фэст*

# Подых сівой даўніны

**Ці шмат у Беларусі засталося такіх месцаў, дзе можна адчуць жывы подых гісторыі? Мір, Нясвіж, Ліда… У гэтым шэрагу годнае месца займае Мсціслаў — горад, заснаваны амаль дзевяць стагоддзяў таму. Некалі ён быў цэнтрам княства, знаходзіўся на скрыжаванні шляхоў.**

**Вольга СЕМЧАНКА, фота аўтара**

Не дзіва, што менавіта тут, на беразе бурлівай рэчкі Віхры, ужо пяты год запар ладзіцца ўнікальны, любімы мясцовымі жыхарамі і гасцямі з розных куточкаў нашай краіны “Рыцарскі фэст” — свята сярэднявечнай культуры, аналагаў якому няма на ўсёй усходняй частцы Беларусі. Сюды штогод з’язджаюцца сотні ўдзельнікаў рыцарскіх клубаў і клубаў гістарычнай рэканструкцыі, а лік гасцей і гледачоў ідзе ўжо на тысячы.

Сёлета горад зноўку акунуўся ў сурову і разам з тым чароўную атмасферу сярэднявечча. Бляск рыцарскіх даспехаў, грукат конскіх капытоў, звон зброі, мужнасць і галантнасць рыцараў і, вядома ж, харaство шляхетных паненак — усё гэта пераносіла горад, яго жыхароў і гасцей у старадаўнюю эпоху.

Усё самае яскравае і відовішчнае адбывалася на Замкавай гары — падчас фэсту менавіта тут размяшчаецца лагер рыцарскіх клубаў, ладзяцца рыцарскія турніры. Горад прымаў каля паўсотні клубаў, якія займаюцца гістарычнай рэканструкцыяй сярэднявечнай Нямеччыны, Вялікага Княства Літоўскага, старажытнай Русі, Залатой Арды і інш.

Захапляльным відовішчам былі бугурты (групавыя баі) і рыцарскія двубоі: прадстаўнікі клубаў змагаліся пехатой на мячах, коннікі біліся на мячах і коп’ях, таксама спаборнічалі лучнікі.

На другі дзень фестывалю працягваліся турніры і бугурты, а потым былі вызначаны пераможцы. Лепшым рыцарам-коннікам прызнаны пан Павал з Мінска, а ў турніры мечнікаў перамог Таўцівіл з мінскага клуба “Белы тур”. Пераможцам турніра лучнікаў стаў кіраўнік мінскага стралковага клуба “BOW’s club” Аляксандр Кражаў, які паспяхова трэніруе моладзь, — удзельнікі гэтага клуба заваявалі ўсе прызавыя месцы ў спаборніцтве лучнікаў.



*Слова краязнаўцы*



**Святлана ЕРМАКОВА, настаўніца беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 18 г. Брэста, кіраўнік школьнага этнаграфічнага музея "Спадчына", распавядае пра пошукавую дзейнасць вучняў і настаўнікаў:**

— Мінула амаль два гады, як адкрыўся наш невялікі музей. Да гэтага моманту цягам трох гадоў вучні і настаўнікі актыўна займаліся росшукамі цікавых і аўтэнтычных прадметаў для будучай экспазіцыі. Гэтая справа захапіла ўвесь калектыў на чале з дырэктарам Таццянай Савіч. Далучыліся нават бацькі дзяцей. Адным словам, усе мы з вялікім задавальненнем заняліся зборам рарытэтаў. І неўпрыкметку паглыбіліся ў гісторыю роднай зямлі і сваіх каранёў.

Сярод экспанатаў, а іх цяпер каля 400, шмат каштоўных рэчаў. Напрыклад, наша выпускніца Марына Кавальчук прынесла ў музей шэньку, або варэньку, сплеценую з бяросты. У гэтай своеасаблівай сумцы, якую дзяўчына выпадкова знайшла на сядзібе сваёй бабулі ў Жабінкаўскім раёне, мясцовыя жыхары насілі ежу касцам. Асабіста я з дазволу сваёй маці Веры Васільеўны, жыхаркі вёскі Салава Драгічынскага раёна, аддала ў музей некалькі яе вышыванак і карункаў. Усім гэтым рэчам больш як паўстагоддзя!

Экспанаты для "Спадчыны" паступаюць і сёння. Зусім нядаўна некалькі вучняў, зацікаўленых тым, каб арыгінальныя вырабы іх бабуль не былі страчаны, прынеслі ў школу тканыя і вышываныя ручнікі.

Нека да нас завітала група брэсцкіх ветэранаў-педагогаў. Пазнаёміўшыся з музейнай экспазіцыяй, усхваляваныя госці заўважылі, што яны быццам вярнуліся ў сваё далёкае дзяцінства. А праз некалькі дзён адна з жанчын зноў прыйшла ў школу і падарыла музею тканы настольнік, сарочку з вышываным беларускім арнаментам і адмысловую сурвэтку.

За два гады наша калекцыя папоўнілася амаль на 80 экспанатаў. Я ўпэўнена, што пасля летняга адпачынку будзем займацца апісаннем новых рэчаў, бо нашы вучні падчас падарожжаў па родным краі знаёміцца з побытам вяскоўцаў, а калі знаходзяць аўтэнтычныя рэчы, са згоды іх гаспадароў прывозяць вельмі каштоўныя рарытэты для школьнага музея.

*Музейны ўнікат*

# Духоўны сімвал

**Нядаўна ў культурным жыцці нашай краіны адбылася вельмі важная падзея: сюды вярнуўся ўнікальны помнік айчыннай гісторыі, адзін з духоўных сімвалаў нацыі — Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года на старабеларускай мове. Статут набыў Музей гісторыі Магілёва на сродкі, якія сабралі, як гэта спакон веку прынята ў Беларусі, талакой і за вельмі кароткі час.**



*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Выданне 1694 года.*

**Ірына САЙКО, фота аўтара**

Сёння налічваецца каля 60 экзэмпляраў трох выданняў Статута (1529, 1566, 1588 гады), зводу законаў феадальнага права Вялікага Княства Літоўскага. Яны знаходзяцца ў Вялікабрытаніі, Літве, Польшчы, Расіі, Украіне. У Беларусі, на жаль, да нядаўняга часу арыгінальнага выдання Статута не было. Магчыма, у зборах асобных музеяў краіны і захоўваецца Статут 1588 года, але надрукаваны на польскай мове.

Вядома, што праз 26 гадоў пасля выдання Статута на старабеларускай мове ён быў перакладзены на польскую і да канца XVIII ст. перавыдаваўся яшчэ тры разы: у 1619, 1648 і 1694 гадах. Адзін з трох польскамоўных экзэмпляраў, выдадзеных у 1694 г. у Друкарні Акадэмічнай у Вільні, захоўваецца і ў фондах Баранавіцкага краязнаўчага музея.

Пасляваенная гісторыя Баранавіцкага музея цесна звязана з другім музеем — Слонімскім. У зруйнаваных падчас вызваленчых баёў Баранавічах не засталося прыдатнага для такой установы будынка. Музейныя фонды за перыяд акупацыі былі знішчаны. У гэтых умовах у 1947 годзе адзіны ацалелы на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці Слонімскі музей быў пераўтвораны ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей.

Толькі праз пяць гадоў ён вярнуўся ў Баранавічы. 30 мая 1952 года выканкам аблсавета прыняў пастанову "Аб пераводзе абласнога гісторыка-краязнаўчага музея з г. Слоніма ў г. Баранавічы". Гэта, у сваю чаргу, паспрыяла аднаўленню дзейнасці Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Для фондаў Баранавіцкага музея перавезлі невялікую частку экспанатаў, якія не мелі дачынення да гісторыі Слонімшчыны. Сярод іх — некалькі соцень кніг на рускай і замежных мовах розных гадоў выдання і розных па сваёй тэматыцы.

Дырэктарам Баранавіцкага настаўніцкага інстытута ў тыя гады быў Ц. Сапёраў. У 1995 годзе яго ўнучка перадала ў Баранавіцкі музей Статут Вялікага Княства Літоўскага на польскай мове, выдадзены ў 1694 годзе. Ён, паводле слоў жанчыны, захоўваўся ў іх сям'і. Магчыма, Статут быў сярод тых кніг, якія ў 1952 годзе трапілі са Слоніма ў Баранавічы.

Перада мною ляжыць тоўсты, у скураным пераплёце старажытны фаліянт. Асцярожна гартаю яго шурпатыя навобмацак лісты, запоўненыя прыгожым друкарскім шрыфтам-лацініцай, які нагадвае рукапісны. На жаль, першыя з іх адсутнічаюць. Гэта тытульны ліст з вывяй герба Вялікага Княства Літоўскага — "Пагоні"; старонкі Статута з партрэтам караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы; вывяй герба Льва Сапегі і панегірыкам да яго. Дарэчы, панегірык напісаў Андрэй Рымша, заснавальнік панегірычнай паэзіі, які нарадзіўся ў вёсцы Пянчын Баранавіцкага раёна.

У пачатку Статута размешчана выдатная ў літаратурных адносінах "Прадмова", якую напісаў адзін з яго складальнікаў, падканцлер ВКЛ Леў Сапега. Звяртаючыся ў ёй да караля, Сапега гаворыць пра тое, што яго ўлада выбарная, што ён павінны заўсёды кіравацца толькі законам. Галоўная мэта новага заканадаўчага кодэкса — стварэнне сапраўды прававой дзяржавы. У звароце да ўсіх саслоўяў Вялікага Княства Сапега параўноўвае Статут з вельмі дарагім скарбам і кажа, што сорам для народа не ведаць сваіх правоў.

Гэтае выданне Статута дэкарыравана мастацкімі рамкамі-застаўкамі ў пачатку і канцоўкамі пасля кожнага з чатырнаццаці раздзелаў. Кожны раздзел пачынаецца з новай старонкі, артыкулы маюць загалоўкі і нумары. У пачатку Статута змешчаны яго змест. Унутраная структура, мастацкае аздабленне — усё падпарадкавана галоўнай мэце: зрабіць кнігу эстэтычна прыгожай, зразумелай, даступнай "людям посполитым к пожитку".

Статут, з'яўляючыся адным з найбольш дасканалых заканадаўчых кодэксаў Еўропы, бясспрэчна, адыграў велізарную ролю ў гісторыі Беларусі. Таму зразумела, што Статут ВКЛ 1588 года, выдадзены ў 1694 годзе ў Вільні на польскай мове, — адзін з самых каштоўных экспанатаў у зборы краязнаўчага музея. Нездарма яго вывява была змешчана на паштоўцы, а пазней — і на канверце, выдадзеным да 70-годдзя Баранавіцкага краязнаўчага музея.

*Пасля-слоўе*

# Застаўся след на зямлі



*На Замкавай гары ў Навагрудку. Фёдар Янкоўскі, Янка Скрыган і Міхась Петрыкевіч, 1960 год.*



*Міхась Петрыкевіч у сярэдзіне старога дуба (дрэва не захавалася). На адваротным баку фотаздымка рукой Уладзіміра Калесніка напісана: "Дарагі Міхале! Будзь такі малады і вясёлы, як на гэтым фотаздымку. Што варты твае пяцьдзесят гадоў у параўнанні з тысячай гэтага свіцязянскага волата? Праўда, тысяча — не чалавечы век, але гледзячы на такіх статных старцаў, sto lat можна пражыць не старэючы. Гэтага табе ад усёй душы жадаем мы з Соняй. Ул. Калеснік".*

У мінулым стагоддзі жыў на Гродзеншчыне вельмі цікавы чалавек, педагог, краязнаўца і музеязнаўца Міхась Петрыкевіч (1913 — 1999). У свой час ён закончыў Навагрудскую беларускую гімназію, у 1940 — 1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Беластоцкага педінстытута. Потым быў на фронце. Пасля вайны давучваўся ўжо ў Мінскім педінстытуце.

Усё жыццё Міхась Петрыкевіч працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Карэліцкай і Валеўскай (Навагрудскі раён) сярэдніх школах. У апошняй нават стварыў невялічкі краязнаўчы музей. Калі ж пераехаў у Дзятлава, у 1967 годзе і там стварыў раённы краязнаўчы музей, які існуе і сёння. У рэспубліканскіх газетах і часопісах часта друкаваліся яго краязнаўчыя артыкулы. Даследчык сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам.

З сынам М. Петрыкевіча Валерыем мы запланавалі сабраць лепшыя краязнаўчыя публікацыі яго бацькі, артыкулы пра яго, фотаздымкі і выдаць усё асобнай кніжкай. Чытачам "ЛіМа" прапаную фотаздымкі з асабістага архіва краязнаўцы, заслужанага настаўніка Беларусі Міхася Петрыкевіча.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**(*фотаздымкі друкуюцца ўпершыню*).**

## Мой адрас — Савецкі Саюз

СССР... Усяго чатыры літары. За імі — велізарная і магутная дзяржава, якая на працягу 70 гадоў знаходзілася на карце свету. Сучасныя гісторыкі вядуць жывую дыскусію і даюць розныя адзнакі савецкаму перыяду, даследуючы станоўчыя і адмоўныя бакі створаных у СССР палітычнай і эканамічнай сістэм.

Але ёсць яшчэ адзін бок — жыццё простага чалавека, якое дайшло да нас у элементах хатніх інтэр'ераў, сямейных рэліквій, ва ўспамінах. Ужо цяпер прадметы побыту, якія акружалі чалавека 30 — 50 гадоў таму, становяцца рэдкасцю, у чым можна ўпэўніцца на выстаўцы "Адрас: Савецкі Саюз", якая размясцілася ў палацы Румянцавых і Паскевічаў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Знакавыя прадметы перыяду 1950 — 1970 гадоў прадстаўлены ў выглядзе гістарычнай рэканструкцыі.

**Бажэна СТРОК**

*Ёсць ідэя*

# Падару чалавецтву музей!

**У станіцы Батурынская ў Краснадарскім краі жыве этнограф і калекцыянер, які сабраў унікальны збор газет з усяго свету.**

Мікола МІРШЧЫНА

З Сяргеем Дзямідавым мы пазнаёміліся некалькі гадоў таму. Мо нават дзесяць ці болей... Тады я шукаў звесткі пра беларуса Аляксандра Пацалуеўскага, які стварыў граматыку сучаснай туркменскай мовы, зрабіў нямала для яе развіцця ў 1920 — 1940-я гады. Сяргей Дзямідаў — цюрколаг, этнограф, які доўга жыў у Туркменіі. А пасля развалу Савецкага Саюза апынуўся ў Краснадарскім краі. І, канечне ж, Сяргей Міхайлавіч шмат што ведаў пра Пацалуеўскага.

Але не меней цікавая асоба і самога Дзямідава. Аўтар многіх кніг, прысвечаных этнаграфіі, фальклору, матэрыяльнай культуры Туркменістана, ён і цяпер актыўна працуе як даследчык, вучоны і публіцыст. Хаця і жыве ўсяго толькі ў станіцы. Не кожны год выбіраецца і ў вялікія гарады, да бібліятэк, архіваў, музеяў. Затое ў Дзямідава ў станіцы Батурынская ёсць унікальная бібліятэка (каля 20 тысяч тамоў!), вялікі архіў. І яшчэ — калекцыя газет з розных краін свету.

Вось пра збор газет Сяргея Дзямідава і хацелася б расказаць больш дэталёва. Калекцыяніраваць перыёдыку этнограф пачаў яшчэ ў другой палове 1950-х гадоў, калі вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. Што падштурхнула да гэтага?.. Сяргей Дзямідаў з юнацтва цікавіўся рознымі мовамі.

— Акрамя роднай рускай я дзякуючы школе вывучыў украінскую мову. Да ўніверсітэта шэсць гадоў правучыўся ва ўкраінскай школе ў невялікім раённым мястэчку Ярмолінцы, што на Хмяльнiччыне. Пасля першага курса ўніверсітэта з'ездзіў да дзядзькі ва Узбекістан і зацікавіўся ўзбекскай. І прывёз у Маскву школьны падручнік па ўзбекскай мове. У школе мы вывучалі англійскую, у МДУ — нямецкую, стараславянскую, лацінскую. А пазней, факультатыўна, я штудзіраваў персідскую і ўрду. На трэцім курсе ўпершыню патрапіў з экспедыцыяй кафедры этнаграфіі гістфака ў Туркменістан, які мяне проста ўразіў самабытнасцю карэннага насельніцтва. І, канечне ж, не мог не зацікавіцца туркменскай мовай. Вось, вывучаючы розныя мовы, я звяртаўся не толькі да падручнікаў, але і да перыядычных выданняў. Часта зазіраў у кнігарню "Дружба", што месцілася ў будынку Маскоўскага гарсавета. Адтуль — мае першыя газетныя калекцыйныя набыткі.

І далей ужо не цяга да моў стала мастком да новага захаплення, а наадварот адбывалася. У "Дружбе" Сяргей набываў газеты краін народнай дэмакратыі і на невядомых яму мовах. Прыцягвала сама газета. А потым хацелася даведацца: а што ж там напісана, што прыносіць чытачу папера і фарбы? Так Сяргей захапіўся польскай, чэшскай, славацкай, сербахарвацкай мовамі. Паспрабаваў вучыць яшчэ тры — мангольскую, венгерскую і кітайскую. І гэта яшчэ не ўсё. Закончыўшы ўніверсітэт, этнограф зацікавіўся турэцкай мовай. Некаторы час займаўся іспанскай і італьянскай. Працуючы ў аддзеле этнаграфіі АН Туркменістана, прайшоў курсы французскай мовы, звярнуўся да падручнікаў грузінскай і армянскай. Паспрабаваў пазнаёміцца і з іншымі.

— Газеты на іншых мовах, — расказвае Сяргей Міхайлавіч, — адкрывалі не вядомыя мне дагэтуль звесткі па этнаграфіі, культуры іншых народаў. Так, я мэтанакіравана збіраў узоры перыёдыкі з савецкіх рэспублік і краін сацыялістычнага лагера. Цэны ў 1970 — 1980-я гады былі досыць нізкія. Калі маштабы калекцыі пачалі набываць істотныя абрысы, я пісаў лісты ў розныя рэдакцыі, прасіў дапамагчы набыць экзэмпляр выдання. Перш-наперш звяртаўся ў выданні, якія нечым вылучаліся. Так да мяне прыйшла адзіная ў Савецкім саюзе газета на карэйскай мове — "Ленин Кичи" ("Ленінскі шлях"). Выпісаў я яе на адзін месяц. А ў рэдакцыі так здзівіліся, што дасылалі яе мне з Карагандзінскай вобласці на працягу ўсяго 1973 года. Дарэчы, у звязку з гэтым згадваецца такая гісторыя. У тым жа годзе мне давялося з двума таварышамі пабываць у цяжкадаступнай Пячоры Дзіва на гары Душар за 40 км ад Ашхабада. Шматок гэтай газеты, якую мы выкарыстоўвалі для распальвання вогнішча, застаўся ў пячоры. Праз некалькі дзён туды зазірнулі салдаты з вайсковай часці, што была паблізу. Знайшоўшы газету на невядомай мове, паведамілі пагранічнікам. Была аб'яўлена баявая трывога. Пачалі прачэсваць мясцовасць. Як спецыяліста-спелеолага да пошукаў падключылі і аднаго з маіх спадарожнікаў. Ён і патлумачыў усю камічнасць сітуацыі.

З цягам часу пра захапленне С. Дзямідава даведваліся многія яго сябры, знаёмыя. І са сваіх рабочых, прыватных, турыстычных паездак прывозілі газеты іншых рэспублік, іншых краін. Усё атрымалася як у туркменскай прыказцы: "Кропля па кроплі — будзе возера". Асабліву каштоўнасць уяўляюць нумары першыя і апошнія. Ёсць выданні на дзвюх мовах. А таксама — сумесныя выданні некалькіх рэдакцый. Зусім рарытэтным уяўляецца экзэмпляр, дзе на адным лісце аб'яднаны дзве газеты зусім розных народаў: на адным баку "Дэмакратычны Азербайджан" (на азеры — азербайджанскай), на другім — "Дэмакратычны Курдыстан" (на курдскай мове). Газета выйшла ў 1946 годзе ў Іране. Праўда, гэтыя вобласці, якія абвясцілі сваю незалежнасць на хвалі пасляваеннага нацыянальнага ўздыму, як і іх выданні, праіснавалі зусім нядоўга. Ёсць выданні, кожны нумар якіх выходзіў накладам 300, а то і ўсяго 138 экзэмпляраў. Гэта датычыць газет мансі, хантаў ці чукчаў. У калекцыі С. Дзямідава — газеты Турцыі, Ірана, Афганістана, Індыі, Кітая, Манголіі, іншых краін Азіі. А таксама — выданні амерыканскага і афрыканскага кантынентаў.

— Ці ёсць у вашай калекцыі беларусіка? — пытаюся я ў Сяргея Міхайлавіча.

— Маю ўсе рэспубліканскія грамадска-палітычныя газеты 1970 — 1990-х... Ёсць і некаторыя раённыя, абласныя газеты. Маю "Звязду", "Советскую Белоруссию" за розныя гады. У канцы 1980-х — першай палове 1990-х я выпісваў больш як дзесяць беларускіх газет адначасова. Шмат што па беларусіцы атрымліваў дзякуючы паездкам знаёмых у Мінск і іншыя гарады Беларусі. Некаторыя выданні прывозіў з Масквы, дзе каля станцыі метро "Плошча Рэвалюцыі" быў кіёск з перыёдыкай саюзных рэспублік. Але ўсё ж хацелася б мець беларускія газеты на іншых мовах — польскай, літоўскай, магчыма, татарскай... Няма ў мяне і беларускай царкоўнай перыёдыкі.

Дарэчы, пра падпіску... У 1991 годзе Сяргей Міхайлавіч за ўласны кошт выпісваў 186 савецкіх і замежных газет і часопісаў. Выпадак і па савецкіх часах, пагадзіцеся, унікальны. Сапраўды, такога падпісчыка можна было б занесці ў "Кнігу рэкордаў Гінеса". Цяпер, па зразумелых прычынах, краснадарскі этнограф атрымлівае па падпісцы крыху больш як дзесяць расійскіх выданняў. Шматкроць скараціўся і ручаёк паступленняў у газетную калекцыю.

Збіральніка паштовых марак называюць філатэлістам, значкоў — фалерыстам, старых паштовак — філакартыстам. Сябе ж як калекцыянера перыёдыкі Сяргей Міхайлавіч называе прэсафілам. Тысячы і тысячы газет захоўваюцца ў пэўнай сістэме, раскладзены па каробках. На сядзібе Дзямідавых у станіцы Батурынская калекцыі адведзены асобны невялікі цагляны будынак — плошчай 18 квадратных метраў. Уваход упрыгожвае шыльда з надпісам "Прэса".

— Калі знойдзецца адпаведная ўстанова, — дзеліцца сваім клопатам калекцыянер, — ці нават прыватны спонсар, гатовыя стварыць музей прэсы, то я з радасцю перадам збор без усялякай аплаты. Галоўнае, каб захавалася цэласнасць калекцыі.

**Даведка "ЛіМа"**

*Сяргей Дзямідаў нарадзіўся ў Маскве ў 1937 годзе. У 1959-м скончыў гістарычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1959-га па 1998-ы — супрацоўнік аддзела этнаграфіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Туркменістана. З 1998-га жыве ў Краснадарскім краі. Аўтар 350 навуковых прац, якія надрукаваны на рускай, туркменскай, нямецкай і англійскай мовах, у тым ліку і сямі манаграфій. Перакладчык з туркменскай мовы. А яшчэ — апантаны калекцыянер.*

*Цікава ведаць*

# Царква як знак будучай перамогі

**Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту агледзець адразу ўвесь даволі цяжка, бо займае ён немалую тэрыторыю — больш як 150 гектараў.**

**Павел КАРАЛЁЎ, фота аўтара і з архіва Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту**



*Абраз «Узнясенне».*

Некалькі экспазіцыйных сектараў знаходзяцца наогул наводдаль. Сектар "Цэнтральная Беларусь" наведвальнікі звычайна аглядаюць, але мала хто з іх даходзіць да, напрыклад, "Падняпроўя", "Паазер'я". Тым не менш там размешчаны даволі адметныя помнікі. Кожны з іх раскрывае цікавую старонку гісторыі народнага будаўніцтва і жыцця адпаведнага рэгіёна.

Самы старажытны помнік у музеі і адзін з самых старажытных падобнага кшталту ў Беларусі — Спаса-Праабражэнская царква з вёскі Барань Аршанскага раёна. Ужо адно тое, што царква была ўзведзена ў 1704 годзе падчас Паўночнай вайны, перажыла Айчынную вайну 1812 года, Першую і Другую сусветныя войны, часы атэістычнага ліхалецця, робіць яе выключнай. Дарэчы, помнікі драўлянага дойлідства XVII — XVIII стагоддзяў у Беларусі — вялікая рэдкасць, бо дрэва далёка не вечны матэрыял.

Унікальная архітэктура царквы. Гэта высокі кубападобны будынак, які завяршаецца наверсе васьмігранным барабанам з цыбулепадобнай галоўкай. Абапал асноўнага зруба ідзе закрытая абхадная галерэя. А пад купалам размяшчаюцца па перыметры хоры. Асабліва звяртае на сябе ўвагу цэнтрычнасць храма і яго імкненне ўверх — так званы вертыкальны рух. Нездарма існуе версія, што храмы падобнага кшталту былі своеасаблівай трансфармацыяй абарончых веж старажытных беларускіх гарадоў. Вядома, што ў Магілёве старая драўляная царква Спаса была "ў вышкі вянцоў 40 і вельмі іконамі ўкрашаная". Магчыма, падобнай да яе па архітэктуры і паўстала Спаса-Праабражэнская царква ў в. Барань.

Пабудаваная за часамі Паўночнай вайны, царква сваім узвядзеннем магла сімвалізаваць мір і згоду. А што яшчэ больш верагодна, — будучую перамогу. Бо вёска Барань з даўніх часоў была вядомая як "кульны двор" рода Радзівілаў. Менавіта тут вырабляліся кулі і гарматныя ядры для бліжэйшых і больш далёкіх замкаў: Копыся, Біржы… Сапраўды, архітэктура помнікаў раскрывае цікавыя старонкі айчыннай гісторыі.

Гэтая царква можа распавесці і пра некаторыя важныя звесткі па гісторыі той мясцовасці, з якой яна непарыўна звязана, пра чалавечыя лёсы.

Не так даўно разам з іншымі навуковымі супрацоўнікамі музея мы рабілі ўнутраны агляд яе інтэр'ера. Пасля перавозкі ў музей Спаса-Праабражэнская царква доўгі час стаяла зачыненая. Што можа захавацца ў будынку, які ўжо даўно не выкарыстоўваўся паводле прызначэння? Царква дзейнічала да 1930-х гадоў. Затым тут адкрылі клуб. Падчас вайны яна зноўку запрацавала. У 1961 годзе ў другі раз пераабсталявалі, цяпер ужо пад зерневы склад. Царква была поўнасцю разрабавана, і толькі некаторыя рэчы ўратавалі. Напрыклад, абраз "Узнясенне" (1808 год), які цяпер знаходзіцца ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

У музей царкву перавезлі не ў самым лепшым стане. Тым не менш падчас агляду ў храме былі знойдзены ўнікальныя надпісы на сценах. Так, у алтарнай частцы маецца надпіс "Ев. Матфей". А ва ўваходнай частцы, злева ад цэнтральных дзвярэй, разгледзелі яшчэ адзін надпіс 1974 года, які сведчыць пра тое, што істотных перабудоў у царкве (замены зруба) не адбывалася з канца XVIII стагоддзя.

Адметна, што сёння ўзнята пытанне пра аднаўленне помніка. У канцы мінулага года ў будынку распачаліся доўгачаканыя рэстаўрацыйна-рамонтныя работы. Плануецца заліць новы падмурак, замяніць пашкоджаныя часткі зруба і такім чынам прывесці помнік у экспазіцыйны выгляд. Важна, каб пры рэстаўрацыі помніка былі захаваны традыцыйныя тэхналогіі, адметнасць канструкцыйных злучэнняў (памер элементаў), нават пароды драўніны. Бо менавіта гэтая царква — носьбіт важнай інфармацыі пра драўлянае дойлідства Падняпроўя.



*Спаса-Праабражэнская царква.*

# Кірмаш кірмашу не перашкода

**Горад над Дзвіной падчас XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" нагадваў вялізны кірмаш, дзе можна было набыць усё што заўгодна.**

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Сёлета на фэсце працавалі адразу два "Гарады майстроў": першы — у парку Пераможцаў, дзе знакамітыя майстры Віцебшчыны дэманстравалі народныя промыслы і традыцыйныя рамёствы пад гукі народнай музыкі і спеваў лепшых народных калектываў вобласці. А на пляцоўках культурна-гістарычнага комплексу "Залатое кальцо Віцебска — Дзвіна" віраваў другі — "Задзвінскі кірмаш". Тут раскінуліся палаткі з самымі разнастайнымі сувенірнымі вырабамі, былі і канцэртныя пляцоўкі. Такія кірмашы заўсёды прыцягваюць увагу наведвальнікаў. Многія чыноўнікі, артысты, калегі-журналісты гучна заяўлялі пра тое, што абавязкова завітаюць да майстроў, якіх сабралася ў паўночнай сталіцы больш як тысяча.

На левым беразе Заходняй Дзвіны гараджан і гасцей фэсту ветліва сустракалі прадстаўнікі Віцебскай вобласці. Сёння ў гэтым рэгіёне дзейнічае 25 дамоў рамёстваў — своеасаблівых майстэрань, дзе адраджаюць і захоўваюць амаль усе кірункі традыцыйных народных рамёстваў, асабліва старадаўнія віды — саломапляценне, ганчарства, ткацтва.



Сумка Алены Аксёнавай прыйдзецца даспадобы любой жанчыне.

— Іншыя віды, якія модныя цяпер, ёсць ва ўсіх дамах рамёстваў, а мы стараемся адрадзіць і захаваць культурную спадчыну беларусаў, прадоўжыць народныя традыцыі, — распавяла дырэктар Віцебскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці Кацярына Лабука. — Ужо другі год, і гэта становіцца добрай традыцыяй, мы прадстаўляем на "Славянскім базары" падвор'і раёнаў, дзе таксама працуюць нашы ўмельцы. У традыцыйным "Горадзе майстроў" упершыню паспрабавалі стварыць вуліцы майстроў саломкі, ганчарства, ткацтва, разьбы па дрэве. Перш за ўсё для таго, каб размежаваць майстроў і рамеснікаў, якія таксама ствараюць адметныя вырабы, але яны працуюць не ў традыцыйным стылі, а больш арыентаваныя на сувеніры. На мой погляд, "вуліцы" майстроў — гэта і прыгажэй, і цікавей. Парк Пераможцаў — новае месца для "Горада майстроў", яшчэ не ўсе да яго прывыклі. Але, упэўнена, будучае — за ім, бо тут вельмі прывольна падвор'ям.

Кожны дом рамёстваў на Віцебшчыне мае сваю адметнасць. Майстар з Гарадоцкага дома рамёстваў Васіль Сіманковіч праявіў сябе ў многіх відах народнага мастацтва. А вось на кірмашы ён прадстаўляў спіральнае пляценне з каранёў сасны — вельмі старадаўняе і ўнікальнае майстэрства, якое змог адрадзіць. Дарэчы, сёлета ў Гарадку ўпершыню прайшоў конкурс па гэтым забытым традыцыйным народным рамястве. Сваё майстэрства паказалі 12 падлеткаў. У наступным годзе плануецца правесці на базе Гарадоцкага раёна фестываль "Букет Пазер'я", дзе будуць прадстаўлены і іншыя старадаўнія рамёствы.

— Ёсць яшчэ адзін унікальны прадукт, які прывезлі на "Славянскі базар" супрацоўнікі Гарадоцкага дома рамёстваў, — зазначыла Кацярына Пятроўна. — Гарадоцкі раён — адзінае месца ў Беларусі, дзе вельмі развіта ажурнае ткацтва. Ручнік, выкананы ў такой тэхніцы, адразу прыцягвае позіркі не толькі знаўцаў гэтай справы, але і звычайных людзей, якіх радавала сваёй творчасцю Марына Гушча. У Лепелі таксама ёсць унікальныя майстры па ткацтве. Яны стварылі касцюмы "Мяшчанка", "Гараджанка", "Сялянка", адрадзілі традыцыйныя строі Лепельшчыны. Сёння многія вядомыя сталічныя калектывы спевакоў і танцораў замаўляюць у іх сцэнічныя касцюмы. Народны майстар Беларусі Наталля Петухова з Лепельскага дома рамёстваў прывезла ў Віцебск свой станок і прапанавала майстар-клас па ткацтве.

Ва ўсёй прыгажосці на "Славянскім базары" была прадстаўлена беларуская саломка. Ад кожнага раёна прыехала па сем самых дастойных майстроў. З Чашнікаў завітала народны майстар Беларусі Тэрэса Худзякова, вырабы якой вызначаюцца арыгінальнасцю і непаўторнасцю. Майстар стварыла цэлую школу саломапляцення ў Навалукомлі, у яе вельмі шмат вучняў, якія ўжо працуюць самастойна. Адна з лепшых вучаніц Тэрэсы Міхайлаўны — Ала Акуневіч — стварае з саломкі дзівосныя аклады для ікон. Цікавыя работы і ў чашніцкіх майстроў Валянціны Атрашкевіч, Ларысы Варчэні.

У рамках "Базару" прайшоў другі адкрыты абласны агляд-конкурс выцінанкі "Ажурныя мары" (першы адбыўся ў 2002 годзе). У ім узялі ўдзел майстры з усёй Беларусі, акрамя Гродзенскай вобласці. Арганізатары спадзяюцца, што наступны конкурс набудзе статус рэспубліканскага. Асабліва хацелася б вызначыць работы Іны Міхайлавай з Брэстчыны, Людмілы Гаравой з Гарадоцкага раёна, Таццяны Петух з Пастаў і Вольгі Арасланавай з Віцебска.

— А хто ж са знакамітых гасцей зацікавіўся вырабамі вашых майстроў? — пытаюся ў Кацярыны Лабукі.

— Шмат вырабаў набыў Андрэй Бусыгін, намеснік міністра культуры Расіі, якога прывабілі аршанская кераміка, посцілкі з Гарадоцкага дома рамёстваў, вырабы з лазы наваполацкага майстра Уладзіміра Пудава, — расказала дырэктар абласнога цэнтра народнай творчасці.

На правым баку Дзвіны на кірмашы народных рамёстваў і мастацтваў свае вырабы прадстаўлялі ажно 700 чалавек, з іх 60 — члены Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Падчас фестывалю прайшоў першы адкрыты пленэр разьбы па дрэве, у якім узялі ўдзел майстры з Польшчы, Расіі і Беларусі. Тут жа, на падвор'і керамістаў, давалі майстар-класы. Адмысловую выстаўку наладзілі кавалі. Многіх прывабілі і зачаравалі выстаўкі паўлавапасадскіх хустак і вырабаў польскіх рэзчыкаў па дрэве.



Эмблема гарадоцкага падвор'я.

— А вось члены полацкага клуба "Фенікс" сумесна з майстрамі з Обнінскага дома ветэранаў Калужскай вобласці прадставілі адмысловыя вырабы ў тэхніцы лапікавага шыцця, — зазначыла каардынар "Задзвінскага кірмашу" Зоя Грышкова. — Расіяне пазнаёмілі віцебскую публіку яшчэ і з традыцыйнымі касцюмамі свайго рэгіёна.

Адна з удзельніц гэтага кірмашу — Алена Аксёнава, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Гамяльчанка стварае стыльныя сумкі з ільну.

— Пасля нараджэння другога дзіцяці мне захацелася штосьці майстраваць, пачынала з пруткоў, а ўбачыўшы ў часопісе прыгожую сумачку, стала распрацоўваць уласныя мадэлі, — падзялілася майстар. — Лён — гэта штосьці вельмі роднае, беларускае, ён мяне прыцягвае і грэе душу. На "Славянскі базар" упершыню прыехала ў 2010 годзе. Мне вельмі падабаецца яго атмасфера. Захапляе нават не сам продаж, а тое, што людзі бачыць мае работы, пытаюцца, як гэта зроблена, вучацца ў мяне, а праз год ходзяць па "Горадзе майстроў" ужо са сваімі сумкамі з ільну. Разам са мною ў вольны час займаецца творчасцю і мая дачка. Яе вырабы я таксама прывезла ў Віцебск. Праўда, ёсць у нас адна праблема: няма дзе купіць ніткі з беларускага льну, зрэдку набываю самаробныя ў бабуль, якія яшчэ не забыліся, як іх прасці. Летась выручыў Аршанскі льнокамбінат, сёлета зноў паеду на прадпрыемства па ніткі. Расійскія ж для маіх вырабаў не падыходзяць: занадта мяккія і з дадаткам віскозы.

Сёлетнія кірмашы па-добраму здзівілі і тых, хто ўпершыню завітаў на "Славянскі базар", і тых, хто бывае тут штогод. Такога размаху многія нават не чакалі, хаця віцебская "Гарады рамёстваў" славяцца далёка за межамі нашай краіны. Амаль усе пакідалі гандлёвыя пляцоўкі з пакупкамі.



Тэрэса Худзякова і дырэктар Чашніцкага дома рамёстваў Ларыса Варчэня.

## З глыбінкі

### Натхняюць класікі

У атмасферу радасці і ўзнёсласці акунуліся ўсе, хто трапіў спякотным ліпеньскім днём у якасці гледачоў і ўдзельнікаў на літаратурнае свята "Не змоўкне голас песняроў", якое адбылося ва Узздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса і было прысвечана 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа.

На пачатку імпрэзы вядучыя адзначылі, што продкі Янкі Купалы жылі на Уздзеншчыне. Яго прадзед арандаваў фальварак Забалацце, а бацька быў ахрышчаны ў мясцовым касцёле.

Удзельнікі мастацкай самадзейнасці выканалі песні на вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы, а таксама ўрыўкі з камедыі "Паўлінка" і прајавы з паэмы "Адвечная песня". Супрацоўнікі бібліятэкі прапанавалі гледачам не толькі паслухаць урывак з паэмы "Новая зямля", але і пачаставацца смачнымі і духмянымі аладкамі.

Заключным акордам мерапрыемства стала выступленне мясцовай паэтэсы Тамары Каляды, якая прачытала ўласныя вершы-прысвячэнні паэтам-юбілярам.

Нельга не ўзгадаць і выстаўку творчых работ народных майстроў-умельцаў Уздзеншчыны "Натхненне дзівосамі". Асабліва ўразіў вышыты ўрывак з паэмы "Новая зямля", які прадставіла вучаніца Зенькавіцкай школы Алена Тоўстая.

**Аксана ДРАЧАН, г. Узда**

### Свято душы

Сустрэча пісьменніцы Наталлі Саветнай з чытачамі-землякамі адбылася ў клубе "Благавест" пры Гарадоцкім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва і раённым аддзяленні Таварыства інвалідаў па зроку.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі і член Саюза пісьменнікаў Расіі, Наталля Віктараўна па прафесіі псіхолаг. Перад гурткоўцамі пісьменніца выступае не ўпершыню. У мінулы прыезд яна чытала вершы, напоўненыя душэўнай лірыкай і цеплынёй, адчуваннем Бога і верай у схаваныя магчымасці кожнага чалавека. Цяпер пазнаёміла публіку з апавяданнем "Еменка". Просты і незвычайна кранальны сюжэт, у якім на першы план выведзена звычайная бульба гатунку Еменка, на самай справе прысвечаны нашым матулям і бабулям, праз чые ласкавыя і клапатлівыя рукі прайшло столькі вёдраў і мяшкоў гэтай бульбы! Апавяданне "Еменка" гучала як песня пра нялёгкую сялянскую працу нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Дзве гадзіны сустрэчы прайшлі як адно імгненне. Наталля Віктараўна паабяцала, што ў наступны раз пазнаёміць чытачоў са сваім гістарычным творам пра імператара Мікалая II — "Тайна русского Царя".

На Гарадоччыне многа таленавітых і адораных людзей, якія шчодра дзеляцца з землякамі святлом сваёй душы. Наталля Саветная — адна з іх.

**Яўген ОНІХАЎ, г. Гарадок**

## Афарызм

*Чалавек з зямлёй зрастаецца, як гэта дрэва: ссячы дрэўца — засохне, адбяры ў чалавека зямлю — згіне.*

**Янка КУПАЛА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2715
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 02.08.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3513
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686